30 жніўня 2019 | № 32 (643)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144







Трампа Трампам выбіваюць

стар. 21







# Дыктатура ў галовах?



Дзіяна СЕРАДЗЮК

**На мінулым тыдні ў нашых суседзяў адбылося некалькі значных падзей, якія чарговы раз падштурхнулі задумацца над тым, чаму ў іх незалежнасць — рэальная, а ў нас — намінальная.**

У Літве, Латвіі і Эстоніі 23 жніўня адзначылі 30-годдзе Балтыйскага шляху. У гэты дзень у 1989 годзе каля двух мільёнаў жыхароў гэтых краін сталі ў жывы ланцуг з нагоды 50-годдзя падпісання Пакта Молатава–Рыбентропа, які падзяліў сферы ўплыву ў Еўропе паміж Германіяй і СССР. Гэтая акцыя прадэманстравала жаданне і салідарнасць народаў краін Балтыі атрымаць незалежнасць ад Савецкага Саюза: людзі запатрабавалі прызнаць існаванне сакрэтнага пратаколу Пакта і аднавіць суверэнітэт іх краін. Неўзабаве Літва, Латвія і Эстонія выйшлі са складу СССР.

Што адметна, праз 30 гадоў, у жніўні 2019-га, памяць пра тыя падзеі жыве. У 30-ю гадавіну Балтыйскага шляху ў Рызе прайшоў шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных падзеям 1989 года. Іх наведвалі і непасрэдныя ўдзельнікі Балтыйскага шляху, якія ўзгадвалі, што тады ў людзей быў вялікі ўздым, і яны ўжо нічога не баяліся.

Адметна, і што «ветэраны» беларускага Адраджэння любяць узгадваць пра народны ўздым канца 1980-х — пачатка 1990-х. Але куды ён падзеўся — пытанне, адказ на якое лунае недзе на абсягах Сусвету.

Аднак вернемся да Пакта Молатава–Рыбентропа. Да даты яго падпісання прымеркавалі і Еўрапейскі дзень памяці ахвяр сталінізму і нацызму, які быў абвешчаны Еўрапарламентам у 2009 годзе. З гэтай нагоды сёлета 23 жніўня ў Маскве ўскладалі кветкі да мемарыялу памяці ахвяр палітычных рэпрэсій «Сцяна смутку». Ва Украіне таксама ў гэты дзень ушанавалі памяць бязвінна закатаваных двума бесчалавечнымі рэжымамі.

А што ў Беларусі? Калі раней 23 жніўня беларускія дэмакратычныя сілы ладзілі нацыянальную выправу ў Катынь, месца расстрэлу Саветамі польскіх афіцэраў, сярод якіх былі і беларусы, то сёлета — поўная цішыня, прычым не толькі на дзяржаўным узроўні. Нібыта нас не закранулі зверствы фашысцкай і бальшавіцкай акупацыі. Нібыта не было ў нас мільёнаў дэпартаваных, расстраляных, закатаваных...

Літаральна на наступны дзень, 24 жніўня, Дзень Незалежнасці адзначалі нашы суседзі-ўкраінцы. Разам з афіцыйнымі святкаваннямі і «Шэсцем Годнасці» паралельна праходзіў «Марш абаронцаў Украіны», арганізаваны ветэранамі, валанцёрамі, сем'ямі загінулых і звычайнымі актывістамі, які сабраў каля 50 тысяч чалавек. Можна шмат разважаць пра стан Украіны і яе ўнутраныя праблемы — а іх, сапраўды, нямала, — але адно відавочна: гэты народ не зламіць, і свабоду ў яго проста так не адабраць. З такім пачуццём уласнай годнасці, нацыянальнай самасвядомасцю, здольнасцю да самаарганізацыі — словам, усім тым, чаго так не хапае нам, беларусам.

Увогуле, цягам апошніх пяці гадоў узнікае шмат нагодаў для параўнання лёсаў нашых народаў. Маўляў, і шляхі ў нас падобныя, і вораг адзін і той жа. Але калі нават не закранаць глабальныя пытанні, а засяродзіцца толькі на рыторыцы ўкраінцаў і беларусаў — розніца каласальная.

Два тыдні таму мне давялося пабываць у Чарнігаве на канферэнцыі ў падтрымку Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Сярод дэлегатаў былі і беларусы, і ўкраінцы. Калі лейтматывам выступаў апошніх была свабода, імкненне да незалежнасці, змаганне, то беларусы, нібы па завядзёнцы, паўтаралі, што мы 25 гадоў жывем пры дыктатуры. Але ж, здаецца, гэты факт канстатаваўся яшчэ тады, чвэрць стагоддзя таму. Атрымліваецца, мы не зрушылі з таго часу з мёртвай кропкі ні на крок?




Фота www.newsbel.by

**У сучасных варунках нават размаўляць па-беларуску — гэта азначае выказваць сваю палітычную і грамадзянскую пазіцыю**

Часам здаецца, што ўсё ж зрушылі, толькі ў адваротным кірунку. Ніхто не адмаўляе, што ў нашай краіне цяжкае палітычнае становішча. Але вы звярнулі ўвагу, што за апошнія 10 гадоў у нас амаль перасталі ладзіцца палітычныя мерапрыемствы? Калі нават не адыходзіць далёка ад мінулага тыдня — хто, апрач «Маладога фронту» (які зладзіў з гэтай нагоды велапрабег праз увесь горад да Курапатаў) згадаў 25 жніўня — дзень надання статусу канстытуцыйнага закона Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце?

Разам з тым значна пабольела культурных падзей, у тым ліку нацыянальна-патрыятычнага характару. Улады дамагліся таго, што людзям выказваць свае палітычныя погляды стала эканамічна і нават фізічна небяспечна — добра, калі за пікет дадуць штраф ці выставяць рахунак за паслугі міліцыі, а не паб'юць ці не кінуць на «суткі». Таму «выпускаць пару» незадаволеныя дзяржаўнай палітыкай цяпер могуць хіба на канцэртах. Безумоўна, гэта добра, што беларуская нацыянальная культура мае сваё развіццё. Вось толькі ў сучасных варунках нават размаўляць па-беларуску — гэта азначае (як і раней) выказваць сваю палітычную і грамадзянскую пазіцыю. Як бы ні стараліся культурныя менеджары пераканаць усіх, у тым ліку саміх сябе, у адваротным.

І калі чалавек, які арганізаваў бізнес на продажы бел-чырвона-белых сцягоў, падчас зладжанага ім канцэрту ходзіць і просіць наведвальнікаў гэтыя самыя сцягі схаваць — значыць, дыктатура атачае нас не толькі звонку, яна паспела ўжо запаўзці нават у самыя светлыя галовы.

# Амбудсмен абароніць усіх!

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**У №31 НЧ прачытаў публікацыю Аляксея Харкевіча «Меркаванне: амбудсмен дапаможа ў адмене смяротнай кары».**

Цалкам падзяляю пазіцыю аўтара, што «ўвядзенне такой пасады ў Беларусі стала б тым прамежкавым крокам на шляху да адмены смяротнай кары, які мог бы задаволіць усіх зацікаўленых актараў».

Больш за тое, я ўжо даўно падрыхтаваў праект закона аб упаўнаважаным па правах чалавека ў Беларусі — з улікам рэкамендацый Генеральнай Асамблеі ААН у частцы, што тычыцца статусу нацыянальных устаноў, якія займаюцца заахвочваннем і абаронай правоў чалавека.

Цяпер інстытут упаўнаважанага па правах чалавека дзейнічае больш як у 100 дзяржавах. У адных краінах гэтая службовая асоба называецца амбудсмен (Швецыя, Нарвегія), у іншых — медыятар (Францыя), у трэціх — парламенцкі ўпаўнаважаны (Вялікабрытанія), у чацвёртых — упаўнаважаны па правах чалавека (у многіх еўрапейскіх краінах і краінах СНД).

Асноўным напрамкам дзейнасці ўпаўнаважанага па правах чалавека з'яўляецца абарона правоў грамадзян ад розных неправамерных дзеянняў органаў кіравання, службовых асоб і служачых дзяржаўнага апарату.

Як паказвае практыка, інстытут упаўнаважанага па правах чалавека даступны для грамадзян. Да гэтых службовых асобаў можна звяртацца ў любой форме, у тым ліку і вусна. Для абароны правоў грамадзян упаўнаважаны (амбудсмен) можа выкарыстоўваць шырокі набор сродкаў, у тым ліку зварот у суды, у пракуратуру, у парламент. Ён дзейнічае публічна. У выпадках грубага парушэння правоў чалавека ён можа паставіць пытанне аб прыцягненні вінаватых службовых асоб да дысцыплінарнай ці нават крымінальнай адказнасці.

Тым самым інстытут упаўнаважанага па правах чалавека з'яўляецца важным інструментам у сістэме праваахоўвы. Ён служыць дадатковым сродкам абароны правоў грамадзян, нароўні з іншымі механізмамі абароны.

Праблема заключаецца толькі ў тым, што беларускія ўлады не жадаюць уводзіць пасаду амбудсмена, як і адмяняць смяротнае пакаранне. І зноў жа ўзнікае пытанне, над якім разважае ў артыкуле аўтар: чаму?

Адразу выкажу сваё меркаванне: як і адмена смяротнага пакарання (мараторый на яго), так і ўсталяванне пасады амбудсмена — гэта абмежаванне ўлады кіраўніка дзяржавы. Бо грамадзяне часта будуць абскарджваць менавіта яго дзеянні і рашэнні, а таксама падпарадкаваных яму «праваахоўнікаў». Амбудсмену прыйдзецца разглядаць гэтыя скаргі і прымаць захады да іх задавальнення. Але як гэта зрабіць, калі скаргі датычацца найвышэйшых асобаў або служыцеляў рэжыму?

На мой погляд, менавіта кіраўнік дзяржавы не зацікаўлены як у адмене смяротнага пакарання, так і ў заснаванні пасады амбудсмена. Да таго часу, пакуль мы не рэфармуем дзейсную сістэму ўлады, ніякіх пазітыўных пераменаў у краіне не адбудзецца. Зноў жа, пакуль у краіне не будзе дэмакратычна абранага парламента, не варта ўводзіць пасаду ўпаўнаважанага па правах чалавека.

Пытанне аб заснаванні пасады ўпаўнаважанага па правах чалавека вырашыцца лёгка і проста ў патрэбную гадзіну. І абраная будзе прыдатная асоба, што зарэкамендавала сябе на ніве абароны правоў чалавека. Ім мог бы стаць, напрыклад, юрыст праваабарончага цэнтра "Вясна" Валянцін Стэфановіч. У прынцыпе, усе супрацоўнікі гэтага цэнтра маглі б скласці офіс беларускага амбудсмена. Больш за тое, іх папярэднюю праваабарончую дзейнасць можна залічыць у стаж дзяржаўнай службы.

Пасля гэтага ўсё ў нас будзе як у лепшых еўрапейскіх краінах. Вось толькі б хутчэй дачакацца пераменаў.

# Чаго не будзе на свяце беларускай пісьменнасці ў Слоніме

Міхась ВАРАНЕЦ

**Гэты год для жыхароў Слонімскага раёна выдаўся багатым на досыць спрэчныя рашэнні, ініцыятывы і імправізацыі з боку мясцовага начальства.**

Упачатку красавіка старшыня раённага Савета дэпутатаў Алег Таргонскі і намесніца старшыні райвыканкама Кацярына Руткоўская ў адказе на пісьмовы зварот 75-ці слонімцаў паведамілі, што, згодна з рашэннем тапанімічнай камісіі Слонімскага райвыканкама, цэнтральная плошча горада, па адрасе якой размешчаны Слонімскі драматычны тэатр і на якой да Дня беларускай пісьменнасці будзе ўсталяваны помнік старосце Слоніма Льву Сапегу, і надалей будзе называцца імем Леніна!

У траўні на адным з гарадскіх будынкаў з'явілася вялікае графіці з выявай тэатра Міхала Казіміра Агінскага і надпісам на... рускай мове! Але хіба 1 верасня ў Слоніме будзе свята рускай пісьменнасці?! Захаванне імя Леніна ў назве плошчы аргументавалі жаданнем усіх жыхароў дамоў і ўсіх кіраўнікоў арганізацый, якія знаходзяцца на плошчы, а таксама жаданнем большасці (56,8%) з 7563 рэспандэнтаў, якія прынялі ўдзел у апытанні на сайце раённай газеты «Слонімскі веснік». А абгрунтоўваючы графіці па-руску, улады ў асобе новай намесніцы старшыні райвыканкама Тэрэсы Юшкевіч абышліся без канкрэтыкі: «У апошні час у адрас райвыканкама паступіла некалькі зваротаў наконт захавання надпісу на рускай мове, спасылаючыся на гістарычныя факты і заканадаўства Беларусі, а таксама захаванне нацыянальна-моўнай згоды ў грамадстве. Таму райвыканкамам прынята рашэнне пакінуць без зменаў надпіс на графіці». Праўда, у жніўні графіці пра тэатр Агінскага дапоўнілі надпісам на беларускай мове.

Але найболей слонімскія начальнікі «праславіліся» 3 ліпеня. Падчас святочнага шэсця з нагоды 75-й гадавіны з дня вызвалення Мінску ад нямецка-фашысцкіх акупантаў — Дня Незалежнасці (Дня Рэспублікі), мясцовыя камунальнікі правезлі на грузавіку свайго прадпрыемства вялікі партрэт Сталіна! Афіцыйна Слонімскі райвыканкам адхрысціўся ад такога дзейства сваіх падначаленых: «У рамках свята быў запланаваны тэатр пад адкрытым небам, дзе вырашылі непасрэдна адлюстраваць падзеі тых дзён вайны. У рамках гэтага тэатра пад адкрытым небам і быў партрэт Сталіна. Але я асабіста гэтага рашэння не прымала, і райвыканкам не прымаў! Гэта імправізацыя той установы, якая рыхтавала гэты блок», — паведаміла начальніца аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама Наталля Юнчыц.

Думаю, ніводзін дырэктар дзяржпрадпрыемства ці ўстановы без дазволу начальства не асмеліцца на такі, мякка кажучы, спрэчны перформанс. Але, калі і быў вусны, таемны дазвол райвыканкама, гэта не апраўдвае дырэктара Слонімскага ГУП ЖКГ Алега Конана, бо — перакананы! — далёка не кожны кіраўнік дадумаецца да такой, лічу, ганебнай, імправізацыі.

Імправізацыя па-слонімску закранула і маю сям'ю. Зноў «вызначыўся» кіраўнік мясцовых камунальнікаў. Амаль чатыры месяцы ён, ігнаруючы Канстытуцыю, прымушаў падпісаць рускамоўныя тыпавыя дамовы на асноўныя жыллёва-камунальныя паслугі. Я звярнуўся да кіраўніка дзяржавы, і ў выніку слонімскія камунальнікі, па даручэнні Міністэрства ЖКГ, саматужна пераклалі тыпавыя дамовы на беларускую мову. 1 сакавіка 2019 года ў разліко-ва-даведачным цэнтры прадпрыемства заключылі са мною дамовы на беларускай мове, падпісаныя, дарэчы, самім дырэктарам прадпрыемства Конанам.

Вось, нарэшце, адноўлена вяршэнства Канстытуцыі! Так думаў я. Так думала і мая дачка Кацярына, калі 30 ліпеня 2019 года прыйшла ў гэты самы разлікова-даведачны цэнтр Слонімскага ГУП ЖКГ для заключэння дамоваў на асноўныя жыллёва-камунальныя паслугі. Але ў РДЦ дачку не сустрэлі пытаннем: «Вам бланк якой дамовы? Тыпавой па-руску ці саматужнай па-беларуску?», а адразу прапанавалі рускамоўныя бланкі. Кацярына двойчы папрасіла бланкі па-беларуску, і двойчы ёй адмовілі, маўляў, у нас бланкі толькі па-руску, па-беларуску няма. Як бачым, нічога не памянялася.

12 жніўня афіцыйным лістом я праінфармаваў міністра ЖКГ Церахава пра адмову слонімскіх камунальнікаў заключыць з Кацярынай Варанец тыпавыя дамовы на беларускай мове. Але! Мо гэтым разам дарма я наракаю на кіраўніка мясцовай камунальнай гаспадаркі? Мо кожны спажывец жыллёва-камунальных паслуг, які хоча падпісаць беларускамоўныя тыпавыя дамовы, мусіць звяртацца да Аляксандра Лукашэнкі з адпаведнай просьбай? Мая ж дачка з такой просьбай да кіраўніка дзяржавы не звярталася! Што гадаць, пачакаем адказу міністра!

Тым часам усё бліжэй і бліжэй Дзень беларускай пісьменнасці ў Слоніме. Усё гучней і гучней фанфары.

Бясспрэчна, на свяце мы пачуем і ад тутэйшых кіраўнікоў, і ад чыноўнікаў са сталіцы пра неабмежаваныя магчымасці беларусам у Беларусі карыстацца роднай мовай! А можа хтосьці з іх і не будзе гаварыць такое, пасаромеецца, прамаўчыць? Можа... Хаця наўрад ці.

Магчыма, на плошчы Леніна выступіць дырэктар Слонімскага драматычнага тэатра Аляксей Ткачоў, супрацоўнік перайменавання плошчы ў Тэатральную. Магчыма, дзеля «захавання» нацыянальна-моўнай згоды, на сцэну падымецца прадстаўнік нашай самай шматлікай нацыянальнай меншасці, з гонарам пакажа пашпарт грамадзяніна Беларусі і на сваёй роднай рускай мове падзякуе міністру юстыцыі і міністру ўнутраных спраў за штампы ў пашпарце на рускай мове.

Але я дакладна ведаю, чаго не будзе на свяце беларускай пісьменнасці ў Слоніме!

1 верасня, у Дзень беларускай пісьменнасці, у маім пашпарце беларуса па-ранейшаму не будзе тыпавых штампаў па-беларуску.

# Колькі каштуюць гомельскія прыбіральні?

**У распараджэнне gomel.today трапіў дакумент, які дае нам дакладнае ўяўленне, колькі ж каштуе будаўніцтва на набярэжнай Гомеля грамадскіх прыбіральняў. Тых самых, якія ў народзе завуць «прыбіральні за мільён».**

Першапачатковая інфармацыя пра небывала дарагое будаўніцтва трапіла ў прэсу ў выніку азнаямлення журналістаў з тэндэрнымі дакументамі. Зыходзячы з першай інфармацыі, кошт узвядзення аб'екта складаў прыкладна 1,5 мільёна беларускіх рублёў, ці амаль 750 тысяч долараў ЗША. Тады людзі пачалі казаць пра «прыбіральні амаль за мільён», што плаўна трансфармавалася ў несмяротны мем «туалет за мільён».

Аднак пазней паўстала некаторая блытаніна, паколькі аказалася, што аб'ект — гэта будаўніцтва «пад ключ» на набярэжнай не адной, а адразу дзвюх прыбіральняў, якія ў дакументацыі фігуруюць як «першая чарга» і «другая чарга». Паколькі афіцыйныя лічбы нідзе не публікаваліся і не называліся ў каментарах прадстаўнікамі ўладаў, з'явіліся розныя версіі таго, колькі ж каштаваў адзін будынак — той самы, які спешна дараблялі да прыезду ў Гомель кіраўнікоў Беларусі і Украіны Аляксандра Лукашэнкі і Пятра Парашэнкі.

У распараджэнне «Моцных навінаў» патрапіла «Дадатковае пагадненне № 15 да дамовы на выкананне работ па будаўніцтве аб'екта «пад ключ» № 477/18 ад 2018/02/23 "Грамадскія прыбіральні на набярэжнай р. Сож у г. Гомелі"» паміж Упраўленнем капітальнага будаўніцтва горада Гомеля (заказчык) і Гомельскім домабудаўнічым камбінатам (выканаўца). Яно змяшчае шэраг змяненняў, якія ўносяцца ў дагаворы і пагадненні па будаўніцтву, падпісаныя раней.

Так, у прыватнасці, у першым пункце пагаднення гаворыцца, што ліміт фінансавання на 2019 годзе складае 1 770 867 рублёў і 6 капеек. Ільвіная доля гэтых сродкаў ідзе на будаўніцтва «першай чаргі» — гэта яшчэ недабудаваная прыбіральня каля Кіеўскага спуску. На яе пойдзе 1 597 741 рубель і 40 капеек.

На даробкі ўжо пабудаванай прыбіральні («другая чарга») пойдзе "ўсяго" 173 125 рублёў і 66 капеек.

У другім пункце пагаднення знаходзіцца больш абагульненая інфармацыя, з якой можна рабіць пэўныя высновы. Там, у прыватнасці, гаворыцца, што «Кошт будаўніцтва аб'екта "пад ключ" па канчатковым разліку складае 3 314 725,64 рублёў».

Нагадаем, што «аб'ект» — гэта дзве прыбіральні. На набярэжнай недалёка ад кампазіцыі «Маяк» і ля Кіеўскага спуску.

З дакумента таксама становіцца зразумелай крыніца фінансавання «будоўлі стагоддзя» — абласны бюджэт.

Такім чынам, атрымліваецца, што кожная з дзвюх прыбіральняў абышлася падаткаплатнікам ніяк не менш, чым у $ 820 тысяч па сённяшнім курсе.

**Паводле gomel.today**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Паддоследны трусік беларускіх уладаў

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Сфера адукацыі — гэта паддоследны трусік беларускіх уладаў. Столькі рэформаў не зазнала ніводная сфера грамадскага жыцця ў Беларусі.**

Вось і зараз, перад самым пачаткам навучальнага года, Лукашэнка прыняў міністра адукацыі Ігара Карпенку і агучыў сваё бачанне праблемаў адукацыі. Сярод іншага ён зазначыў, што чуў пра крытыку цэнтралізаванага тэставання. Яго, нібыта, праінфармавалі пра крытыку ЦТ, пра тое, што «ў нас не ўсё добра з паступленнем у ВНУ», і ён «пачынае задумвацца» пра ўдасканаленне сістэмы паступлення. Яго турбуе, што абітурыент «не здае экзамены вочы ў вочы з экзаменатарам, з выкладчыкам ВНУ або іншых навучальных устаноў».

А таму трэба правесці шырокую нараду і выпрацаваць падыход да паступленняў у ВНУ. Па словах Карпенкі, на анансаванай Лукашэнкам нарадзе могуць абмеркаваць спалучэнне выпускных іспытаў у школе і цэнтралізаванага тэставання для наступнай ступені адукацыі. Карпенка толькі агучыў назву для такога спалучэння — «агульнанацыянальны экзамен» — і расказаў, чаму лічыць ідэю вартай.

«Мы ў школе, дапусцім, пішам пераказ, — разважаў міністр. — А пры паступленні ў ВНУ здаём тэст. Па матэматыцы пішам кантрольную работу, а пры паступленні — тэст. Гэта розныя іспыты. І, вядома, гэта стварае пэўныя праблемы». Настаўнікі, казаў ён, цяпер «разрываюцца» між падрыхтоўкай да ЦТ і выпускных экзаменаў. І іх, і школьнікаў можна «разгрузіць». Міністр таксама дапусціў, што пры паступленні ў ВНУ на спецыяльнасці, дзе патрэбная замежная мова, можа быць уведзены, напрыклад, іспыт для ацэнкі вымаўлення.

Што ж такое? Так доўга мы ўкаранялі ЦТ, насіліся з ім, як дурань з торбай, а зараз — вяртаемся да таго, што было раней? Да сапраўдных іспытаў? Варта адзначыць, што крытыка ЦТ палягала не ў самой сістэме гэтага тэставання, а ў тым, якім чынам складзены тэсты і пытанні. І што ў выніку тэст можна здаць зусім без ведаў, на дурніцу, — і прайсці ў ВНУ.

Але гэтае пытанне, паўтаруся, не ў сістэме ЦТ, а ў тым, якія пытанні ўтрымліваюць тэсты, як яны складзеныя, і як вызначаюцца ў нашых ВНУ прахадныя балы.

Усё гэта прывяло да таго, што народ у інтэрнэтах пачаў кпіць з двух высокіх чыноўнікаў. Маўляў, Коля (самі ведаеце, чый сын) не вучыць правілы, а таму на ЦТ не мае шанцаў. А калі ён будзе здаваць не «ананімную» паперку, а сядзець перад экзаменатарам, то, зразумела, атрымае не балы па ЦТ, а залаты медаль. Адразу. Імгненна.

Але гэта так, развагі з «памыйкі» інтэрнэту.

Палёгка для настаўнікаў не чакаецца. Канешне, на размове з Карпенкам была закранутая тэма залішняй папяровай працы для выкладчыкаў, розных спаравздачаў і службовых запісак. Усе кажуць, што ад такой макулатуры настаўнікаў варта «разгрузіць». Аднак казаць — кажуць, а вынікаў ніякіх. І зараз Карпенка сказаў — ніхто не збіраецца пазбаўляць выкладчыкаў абавязкаў ад штогадовага пакватэрнага абыходу раёнаў каля школаў для ўліку дзяцей, якім належыць даць сярэднюю адукацыю. Пастанова Саўміну ўскладае гэты ўлік на мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы, упраўленні адукацыі — але хадзіць звычайна прымушаюць настаўнікаў.

Па словах Карпенкі, «мы ўсё роўна павінны ведаць, колькі дзяцей прыйдзе да нас у школу,

**Так доўга мы ўкаранялі ЦТ, насіліся з ім, як дурань з торбай, а зараз — вяртаемся да таго, што было раней? Крытыка ЦТ палягала не ў сістэме тэставання, а ў тым, якім чынам складзеныя тэсты і пытанні, і што ЦТ можна здаць без ведаў, на дурніцу**

— каб планаваць і фінансаванне, колькі класаў трэба рыхтаваць. Гэта своеасаблівы аналіз. Калі мы пяройдзем на адзіны рэгістр насельніцтва — тады, можа быць, будзе магчыма гэта зрабіць».

Гэта ўжо падобнае не на тое, што «адна рука не ведае, што робіць другая», гэта падобнае на вар'яцтва ў адной галаве. Таму што ў адной установе адукацыі — дзіцячым садку — ужо напачатку лета ведаюць, колькі дзяцей яны «выпусцяць». А ў другой установе адукацыі — школе, — аказваецца, не ведаюць, колькі дзяцей да іх прыйдзе! Хаця супаставіць гэтыя дадзеныя маглі б два чыноўнікі РайАНА цягам працоўнага дня.

Канешне, ёсць дзеці, якія ў садок не ходзяць. Але пры «паступленні» дзіцяці ў школу кожны бацька піша заяву на імя дырэктара навучальнай установы з просьбай прыняць яго малечу — і піша загадзя, а не 1 верасня. Навошта настаўнікам збіваць ногі па раёне і губляць час, калі ўсе адпаведныя звесткі ляжаць у адной тэчцы ў пакоі дырэктара?

Можа, раптам настаўнік у час «пакватэрнага абыходу» знойдзе дзіця, бацькі якога не заклапаціліся тым, каб аддаваць яго ў школу? Ну, можа быць. І што настаўнік гэтым бацькам зробіць? Прыстрашыць міліцыяй? Пагрозіць пальчыкам? Скажа: «Ай-яй-яй, так нельга»? У настаўнікаў няма ані паўнамоцтваў, ані права ўлазіць у прыватнае жыццё людзей, ці не так?

Дык навошта той абыход? Ці ў міністэрстве лічаць, што настаўнікам заняцца няма чым?

Самае цікавае — згаданы Карпенкам адзіны рэгістр насельніцтва. Пра тое, што ён запрацуе «неўзабаве», чыноўнікі IT-краіны казалі ў 2010 годзе, затым у 2012-м. У 2013-м сістэму нібыта запусцілі ў тэставым рэжыме, але потым пра яе — ні слоўца.

Пры гэтым нейкіх дадатковых грошай настаўнікам за лішнюю працу не падкінуць. Лукашэнка зноў казаў: «Настаўнік мусіць атрымліваць прынамсі сярэдні заробак». Але Карпенка паведаміў: ідзе рух «у гэтым кірунку (...) і да 2025 года мусім выйсці на поўную рэалізацыю гэтай стратэгіі».

Тут абяцанага не тры гады чакаюць, і нават не пяцігодку. І ніхто не ведае, якім будзе «сярэдні заробак» ды інфляцыя ў тым 2025 годзе.

Дарэчы, абмяркоўваючы паходы настаўнікаў па кватэрах, ніхто не згадаў, што нас у гэтым годзе чакае ўсебеларускі перапіс насельніцтва, з якога аўтаматычна будзе бачна ўсё, што патрэбна міністру Карпенку, каб «ведаць, колькі дзяцей пойдзе ў школу, і планаваць». У час перапісу па другім разе зробяць тое, што робяць настаўнікі пры «пакватэрным абыходзе раёна».

Дык, можа, трэба было сумясціць гэтыя мерапрыемствы? І настаўнікам нейкая капейчына за кошт перапісу перапала б?

І яшчэ. Па словах міністра адукацыі, цяперашнюю 10-бальную сістэму ацэнкі ведаў могуць перапрацаваць «пры неабходнасці».

Можа, хопіць ужо ставіць вопыты на дзецях?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Таццяна Караткевіч

**Адна з лідараў грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду», экс-прэтэндэнтка на пасаду прэзідэнта ў 2015 годзе не будзе вылучацца на выбарах у Палату прадстаўнікоў у лістападзе.**

«Я доўга ўзважвала ўсе "за" і "супраць", і сёння магу заявіць: адмаўляюся ад асабістага вылучэння. Вырашыла дапамагаць нашым вылучэнцам. Іх будзе не менш 30. Я ўпэўненая, што мой патранаж дасць больш карысці для "Гавары праўду", чым асабісты ўдзел у выбарчай кампаніі», — сказала Караткевіч.

«Краіне патрэбна 100 караткевіч, а можа і больш. А ўсім вядомаму палітыку неабходная альтэрнатыва. Вось і будзем яе ствараць. Менавіта з гэтай прычыны я не вылучаюся сама ў дэпутаты. Буду падтрымліваць нашых кандыдатаў. Тут і каардынацыя, і натхненне, і нават кастынг», — кажа Караткевіч.

У 2016 годзе Караткевіч прымала ўдзел у выбарах у Палату прадстаўнікоў, але прайграла ў сваёй акрузе іншай прадстаўніцы апазіцыі — Ганне Канапацкай з АГП.

Караткевіч лічыць, што ў апошні час актыўная грамадзянская пазіцыя пачала знаходзіць запатрабаванасць у грамадстве: «Людзі ўсё часцей схіляюцца не да чыноўніцтва і не да класічнай апазіцыі. Іх усё больш прыцягвае грамадзянскае стаўленне да праблем, асабліва мясцовых. "Гавары праўду" падказвае людзям, што і як яны павінны зрабіць. І бачым зваротную сувязь. Таму, калі гэтыя выбары будуць хоць бы збольшага сумленныя, мы спадзяемся на дэпутацкія мандаты».



## Арына Сабаленка

**На гэтым тыдні адбылася ўнікальная для Беларусі падзея. Упершыню на топ-турніры паміж сабой згулялі дзве беларускі — экс-першая ракетка свету Вікторыя Азаранка і першая ракетка Беларусі Арына Сабаленка.**

Лёсаванне звяло іх у першым раундзе Адкрытага чэмпіянату ЗША па тэнісе (US Open). Матч прайшоў у Нью-Ёрку і скончыўся перамогай Сабаленка — 3:6, 6:3, 6:4. Але нельга сказаць, што Азаранка здалася без барацьбы: матч доўжыўся 2 гадзіны 13 хвілін.

Азаранка раней ніколі не пакідала US Open пасля першага раунда, а ў 2012 і 2013 гадах наогул дабіралася да фіналу. Сабаленка год таму выбыла ў 4-м раундзе, прайграўшы Наомі Осака, якая ў выніку выйграла US Open.

У наступным крузе Арына Сабаленка згуляе з Юліяй Пуценцавай (Казахстан).



## Цімаці Бэл

**Памёр вядомы брытанскі паліттэхнолаг і піяр-менеджар высокіх персон лорд Цімаці Бэл.**

У свой час ён кансультаваў Маргарэт Тэтчэр і Барыса Ельцына падчас перадвыбарчых кампаній, да яго звяртаўся і Аляксандр Лукашэнка з просьбай «палепшыць імідж Беларусі ў свеце». Кажуць, што вышэйшаму беларускаму кіраўніцтву параіў заключыць кантракт з галоўным саўладальнікам фірмы Bell Pottinger Барыс Беразоўскі. Былы расійскі алігарх сябраваў з сэрам Бэлам і сам актыўна карыстаўся яго паслугамі.

Паводле чутак, дзве парады лорда Бэла былі ўспрынятыя і выкананыя. Першая — вызваленне тагачаснага «зняволенага №1» экс-кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Казуліна. Другая — перайначыць вобраз беларускага «бацькі» ў вобраз «таты», добрага і клапатлівага. Побач з Лукашэнкам на тэлеэкранах з'явіўся Мікалай.

У снежні 2012 года ў інтэрнэце з'явілася справаздача кампаніі лорда Бэла з Вялікабрытаніі аб працы па паляпшэнні іміджу Беларусі на міжнароднай арэне ў 2008–2009 гадах. Паводле дакументу, з беларускага бюджэту за гэты піяр чакалася атрымаць 10 мільёнаў еўра.

У 2017 годзе фірма Bell Pottinger была выключаная з брытанскай Асацыяцыі PR-кансультантаў (PRCA) па абвінавачванні ў падаграванні расавай нянавісці ў Паўднёвай Афрыцы, згубіла ўсіх сваіх кліентаў і збанкрутавала.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Алё, мы шукаем таленты!

**Маленькая пухнатая жывёлінка пясец, як вядома, заўсёды падбіраецца незаўважна, прычым з таго боку, з якога яго менш за ўсё чакаеш.**




У якасці прыкладу прапаную звярнуцца да праекту стварэння хуткаснай чыгуначнай магістралі паміж Мінскам і Масквой. Пасол Расіі ў Беларусі Дзмітрый Мезенцаў лічыць праект перспектыўным і ўпэўнены, што пошук інвестараў будзе паспяховым. Паводле словаў пасла, рэалізацыя праекта павысіць рухомасць працоўных рэсурсаў і адкрые новыя магчымасці для гуманітарнага ўзаемадзеяння ўнутры Саюзнай дзяржавы.

Што, акрамя плюсаў, можа несці ў сабе гуманітарнае ўзаемадзеянне? Цікавае пытанне, але адназначнага адказу на яго гісторыя не дала, бо віды гуманітарнага ўзаемадзеяння бясконца разнастайныя. Адна з крайнасцяў адлюстраваная на карціне мастака Васіля Сурыкава «Заваяванне Сібіры Ермаком». Паводле аналагічнай схемы развіваліся падзеі на амерыканскім кантыненце пасля таго, як еўрапейцы здолелі істотна «павысіць рухомасць працоўных рэсурсаў» пры дапамозе найноўшых дасягненняў у галіне караблебудавання.

Заявіць, што хуткасная чыгунка прывядзе да аналагічнага выніку, і горад-герой Мінск апануюць перасяленцы з горада-героя Масквы, я б не наважыўся. Хутчэй, мы станем сведкамі ўзмацнення міграцыі ў адваротным кірунку. Працэс гэты ідзе досыць актыўна, нягледзячы на стандартную хуткасць руху цягнікоў.

Беларусь сёння з'яўляецца не толькі донарам стабільнасці для сваіх неспакойных суседзяў, але і донарам працоўнай сілы для іх жа. Чым можна патлумачыць гэты кур'ёз? Не выключана, што першы від донарства існуе выключна ў галовах архітэктараў «беларускай мадэлі». Як казала мая першая жонка, «сам прыдумаў, сам і на памяць вывучыў». Суб'ектамі ж другога віду з'яўляюцца не архітэктары, а будаўнікі. Рашэнні пра пераезд яны прымаюць «ідучы ад жыцця», а не ад пажаданняў ідэолагаў.

Але калі Расія для Беларусі служыць рэцыпіентам працоўнай сілы, то для Еўропы — яна такі ж самы донар. У гэтай сувязі прывяду цытату, запазычаную з расійскай «Незалежнай газеты»: «Германія рыхтуецца абвясціць бязвізавы рэжым для ўсіх грамадзян РФ, маладзейшых за 25 гадоў. Гэты смелы крок стане працягам агульнай палітыкі Берліна на развіццё краіны за кошт замежнай працоўнай сілы. Ужо сёння ў Германіі можна атрымаць паўгадавую візу для пошуку працы ў гэтай краіне. <...> Мяркуючы па апытаннях, ужо цяпер пакінуць Расію гатовыя каля 40% моладзі. Прадстаўнікі расійскіх ВНУ і працадаўцы шакаваныя планамі нямецкіх уладаў наконт расійскай моладзі».

## Дзве кроплі на прадметным століку

Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе лепш. Аднак не толькі згаданыя ў прыказцы прадстаўнікі пазваночных (падвід хордавых жывёл) здольныя перамяшчацца ў прасторы ў пошуках лепшай долі. Звернемся да амёбаў. Любы сямікласнік павінен умець растлумачыць, што адбудзецца, калі дзве кроплі з інфузорыямі на прадметным шкле злучыць вадзяным «мастком», а на край адной з кропель пакласці крышталік солі.

Дзве кроплі са школьнага вопыту — гэта аналагі дзвюх цывілізацый (заходнееўрапейскай і расійскай). Да перабудовы «масток» паміж імі быў перакрыты «жалезнай заслонай». Пасля яго дэмантажу пачалося інтэнсіўнае перамяшчэнне. Мяркую, нескладана здагадацца, адкуль і куды.

Зразумела, што беспраблемных кропель-цывілізацый не бывае. Акрамя таго, нідзе не чакаюць. Нездарма ж сярод рускамоўных імігрантаў у Амерыцы папулярная прыказка: «Кожнаму наканавана з'есці сваю лыжку лайна». Тым не менш, што б ні казала прапаганда, але практыку ў якасці галоўнага крытэру ісціны яшчэ ніхто не адмяняў. Таму баланс імігрантаў-эмігрантаў (якія прыехалі і якія з'ехалі) дазваляе беспамылкова вызначыць, у якой з «кропель» аказалася больш «крышталікаў солі».

Перамяшчэнні народаў рознай інтэнсіўнасці спецыялісты фіксуюць на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва. Адно з іх (у Еўропе ў IV–VII стагоддзях) увайшло ў падручнікі пад назвай «Вялікае перасяленне народаў».

Галоўнае адрозненне падзей 1,5-тысячагадовай даўнасці ад сучасных заключаецца ў тым, што сёння пераадольваць «масты» прасцей індывідуальна. Што тычыцца напрамкаў — яны не змяніліся. Як і ў часы Рымскай імперыі, жыхары сучаснай перыферыі імкнуцца патрапіць у цэнтр еўрапейскай цывілізацыі.

Зноў звярнуся па дапамогу да артыкулаў у «Незалежнай газеце»: «У Германіі ўжо пражываюць каля 11 мільёнаў чалавек, якія не маюць нямецкіх пашпартоў. Пры гэтым штогод звыш 100 тысяч іншаземцаў праходзяць працэдуру атрымання нямецкага грамадзянства. Нягледзячы на гэта, ФРГ працягвае адчуваць каласальны недахоп працоўнай сілы. Паводле ацэнак, у Германіі не хапае больш за 1,2 мільёна спецыялістаў, дэфіцыт кваліфікаваных кадраў адчувае 40% прадпрыемстваў».

«Алё, мы шукаем таленты!». Была такая перадача на савецкім тэлебачанні. Сёння перавабліванне талентаў — важны элемент дзяржаўнай палітыкі, для практычнай рэалізацыі якой федэральныя землі Германіі арганізуюць своеасаблівыя зялёныя калідоры для патрэбных спецыялістаў.

**Для палітыка, што засядзеўся на вышэйшай дзяржаўнай пасадзе больш за два тэрміны, жыццё ў прыдуманым свеце, дзе няма супярэчнасцяў, становіцца не выключэннем, а правілам**

## Не выключэнне, а правіла

Згодна з лютаўскім апытаннем Левада-цэнтра, выехаць за мяжу на пастаяннае месца жыхарства не супраць больш за 40% расіян ва ўзросце ад 18 да 24 гадоў. Гэта ў два разы вышэй за паказчык па выбарцы ў цэлым.

У Беларусі — свае паказчыкі. У апошні раз пытанне наконт жадання пераехаць у іншую краіну на пастаяннае месца жыхарства НІСЭПД задаваў у сакавіку 2016 года. Колькасць тых, хто задэклараваў сваё жаданне пераехаць, не адрозніваласа ад значэнняў папярэдніх гадоў і склала 41% супраць 50% тых, хто не жадае пераязджаць (29% ва ўзросце 18–29 гадоў супраць 77% старэйшых за 60 гадоў).

30 чэрвеня 2018 года на Рэспубліканскім балі выпускнікоў устаноў вышэйшай адукацыі афіцыйны погляд на праблему выказаў адзіны палітык: «Камфортныя стартавыя ўмовы для вас створаны. Пагадзіцеся, для спецыялістаў, якія яшчэ не праявілі сябе ў прафесіі, атрымаць першае гарантаванае працоўнае месца — гэта высокі давер. Вы гэта не разумееце і не зразумееце (яно цяжка разумеецца, калі яно ёсць). Калі яго няма — паглядзіце на сваіх замежных аднагодкаў — тады вы зразумееце, што такое першае працоўнае месца, і колькі маладых людзей яго сабе не могуць знайсці хоць бы за грошы, але каб быць карыснымі грамадству. Гэтая гарантыя азначае, што дзяржава дае вам першую рэкамендацыю. Усё астатняе залежыць толькі ад вас».

Вось так бачыцца праблема працаўладкавання маладых спецыялістаў у Беларусі і на Захадзе з вокнаў Палаца Незалежнасці. Калі меркаваць па цытаце, шыбы ў гэтых вокнах выраблены з адмысловага шкла, якое выконвае ролю інфармацыйнага фільтра. Пра Беларусь яны прапускаюць толькі станоўчую інфармацыю, а пра краіны Захаду — толькі негатыўную.

Для палітыка, што засядзеўся на вышэйшай дзяржаўнай пасадзе больш за два тэрміны, жыццё ў прыдуманым свеце, дзе няма супярэчнасцяў, становіцца не выключэннем, а правілам. Чым гэта можа скончыцца, кожны ахвочы можа пагладзець, калі набярэ ў пошукавіку: «апошні выступ Чаўшэску». Быў такі выбітны сын румынскага народа. Больш за тры дзесяцігоддзі ўзначальваў ён Румынскую камуністычную партыю. Але маленькая пухнатая жывёлінка зноў падкралася нечакана, прычым з таго боку, з якога выбітны сын і яго верныя паплечнікі па партыі менш за ўсё чакалі.

## Як быццам нічога не адбылося

Паводле англійскага гісторыка Арнольда Тойнбі, дынаміка цывілізацый (яе ўзнікненне, рост, «надлом», заняпад і раскладанне) вызначаецца «законам выкліку і адказу». Адказнасць ж за фарміраванне адэкватнага адказу заўсёды ляжыць на «творчай меншасці».

Аднак аўтаномнасць меншасці адносная. Далёка адарвацца ад сваіх сацыяльных каранёў яна не можа. У статычных, прымітыўных грамадствах здольнасць меншасці да творчасці абмежаваная. У такіх грамадствах кіруе звычай. Таму пры рэзкіх зменах умоваў жыцця, якія Тойнбі называе «выклікам», грамадства не можа перабудавацца і змяніць свой лад жыцця. Яно працягвае дзейнічаць так, як быццам «выкліку» няма, як быццам нічога не адбылося.

Ілюстрацыяй да базавых палажэнняў класіка цывілізацыйнага аналізу можа служыць Рэспубліка Беларусь. 1994 год мог быць стаць для яе пераломным, але не стаў, бо сярод 10-мільённага насельніцтва не ўдалося сабраць крытычную масу творчых людзей, здольных зразумець выклік і даць на яго адэкватны адказ. Але нават калі б такі адказ быў дадзены, ён не знайшоў бы большасці, што гатовая яго прыняць.

«Сучасны крызіс у Беларусі, — тлумачыць доктар філасофскіх навук Леў Крышталовіч, — гэта не крызіс беларускага шляху, а крызіс, абумоўлены разбурэннем СССР і, як следства, дэзінтэграцыяй постсавецкай прасторы».

Быццам бы пэўная логіка ў гэтым ёсць. Але чаму разбурыўся «Саюз непарушны рэспублік свабодных»? Адказу на гэта пытанне філасаф не дае, што не перашкаджае яму звязваць будучыню Беларусі з яго аднаўленнем.

# Чаму дзеці сябе дрэнна паводзяць?

Таццяна ГОВАР

**Да мяне як педагога-псіхолага часцяком прыходзяць бацькі з просьбай: «Дапамажыце! Не ведаю, што рабіць, дзіця адбіваецца ад рук! Вы яго змяніце — і больш нічога не трэба!» Але выправіць паводзіны дзіцяці немагчыма без аналізу сямейнага выхавання, без працы з усёй сям'ёй.**

У карэкцыі дзіцяча-бацькоўскіх адносін патрэбны сістэмны падыход. Любыя паводзіны чальца сям'і — гэта функцыя сістэмы: калі нехта ў сям'і нешта робіць, то ўсёй сям'і гэта трэба. Калі ўзнікаюць праблемы ў паводзінах дзіцяці, то, хутчэй за ўсё, яно рэагуе на тое, што робяць іншыя чальцы сям'і. Праблемныя паводзіны — гэта пасланне малечы свету, яно хоча гэтым нешта сказаць. Ёсць прычына або прычыны, па якіх дзіця так сябе паводзіць. А часам праблемныя паводзіны могуць справакаваць і бацькі.

Часцяком на кансультацыю прыходзіць адзін з бацькоў, якога найбольш хвалююць праблемныя паводзіны. Зазвычай той, хто прыйшоў, і з'яўляецца чалавекам, які больш за ўсё перажывае ў сям'і. І, як не дзіўна, часцей за ўсё ён і з'яўляецца носьбітам праблемы. Псіхолагі-пачаткоўцы спяшаюцца запэўніць бацькоў, што папрацуюць з дзіцём і выправяць яго паводзіны. Але гэта міф. Нават калі і ўдасца палепшыць паводзіны малечы — не ліквідаваўшы прычыну «закідонаў», усё вернецца наноў. Таму важна глядзець, што папярэднічала праблемным паводзінам? Якія падзеі адбываліся ў сям'і? Што адбываецца пасля? Як усе чальцы сям'і рэагуюць? Каму больш за ўсё выгадна, каб дзіця паводзіла сябе такім чынам? Не здзіўляйцеся — менавіта выгадна!

## Самасцвярджэнне, крыўда, страта веры

Часцей за ўсё прычын, па якіх дзеці паводзяць сябе дрэнна, некалькі. Напрыклад, **барацьба за ўвагу**. Калі малеча не атрымлівае патрэбнай яму колькасці ўвагі, дзіця знаходзіць спосаб яе атрымаць — непаслушэнства. Калі бацькі звяртаюць увагу на дзіця толькі тады, калі яно паводзіць сябе дрэнна, то ў яго выпрацоўваецца ўмоўны рэфлекс. Але, як толькі бацькі перастануць надаваць увагу дзіцяці падчас дэманстрацыі дрэнных паводзінаў, а будуць заахвочваць добрыя ўчынкі, то дзіця стане паводзіць сябе добра.

**Барацьба за самасцвярджэнне**. Дзіця адстойвае права самому вырашаць свае справы. Калі яно самасцвярджаецца, то, хутчэй за ўсё, бацькі занадта кантралююць яго. Трэба аддаць нейкія справы малечы пад самакантроль. Ёсць «зона бліжэйшага развіцця» — нешта дзіцяці ўжо можа рабіць самастойна. Штосьці нельга зрабіць без бацькоў, а нешта трэба рабіць разам з імі. Але часцей за ўсё бацькі заклапочаныя сацыяльнымі поспехамі дзіцяці — на яго вялікія надзеі. І бацькі лічаць, што, калі яны нешта прапусцяць, то ў будучым гэта прывядзе да непапраўных наступстваў. Трэба абараніць дзіця ад небяспекаў.

Але дзіцяці вельмі часта цяжка несці гэтую ношу, і яно пачынае брыкацца. Абарона ад складанасцяў жыцця замінае і развіццю. Бацька лічыць, што калі яго дзіця сутыкаецца з цяжкасцямі, то ён — дрэнны бацька (не навучыў, не папярэдзіў, не асцярог). Мы занадта шмат патрабуем ад дзяцей і вельмі часта перастрахоўваемся. Занадта канцэнтравацца на сям'і і дзецях у нашым грамадстве сацыяльна заахвочваецца, асабліва ў жанчын: «Я ж маці!».

**Крыўда і жаданне адпомсціць**. Дзіця можа злавацца на бацькоў або на аднаго з іх і дзейнічае насуперак. Бацькі лічаць, што любую памылку дзіцяці трэба прыкмячаць і выпраўляць. І наогул, «ты малы яшчэ нешта хацець або патрабаваць». Выбудоўваючы межы дазволенага, мы, свядома ці міжволі, можам нанесці малому траўму або моцна пакрыўдзіць.

**Страта веры ва ўласны поспех**, нізкая самаацэнка дзіцяці. Назапасіўшы досвед няўдач і крытыкі ў свой адрас, дзіця губляе ўпэўненасць у сабе. Вырашае, што ўсё роўна нічога не атрымаецца, а значыць, і не трэба старацца. Бацькі лічаць, што трэба хваліць толькі тады, калі ўсё ідэальна. Вельмі многія бацькі баяцца перахваліць. Няма паслання, што мы верым у дзіця. Яно мае права на памылкі, але важна ўмець іх выправіць. Гэта вопыт, падрыхтоўка да рэальнага жыцця, калі трэба будзе самому пераадольваць цяжкасці.

## Мадэлі паводзінаў

**Уласныя паводзіны бацькоў**. Бацькі з'яўляюцца мадэлямі паводзін у соцыуме. Калі не атрымліваецца адвучыць малечу ад нейкага стылю паводзін, важна паназіраць за сабой. Калі бацька крычыць на дзіця, то цалкам лагічна, што дзіця будзе крычаць на яго. Калі бацька праяўляе агрэсію ў адносінах да дзіцяці або іншых сямейнікаў, то дзіця будзе гэтак жа паступаць са сваімі аднагодкамі.

Прычына гэтага — тое, што называюць «канфлікт лаяльнасці». Калі маці і тата даюць дзіцяці супярэчлівыя ўказанні, яно не разумее, каго слухаць. Яно вымушана абіраць, на чым баку знаходзіцца — маці або таты. Гэта можа прывесці да развіцця неўратычных сімптомаў: страху, моцна выяўленай агульнай гатоўнасці да рэагавання, залішняй пакоры. Пры гэтым дзіця адчувае сваю непатрэбнасць, пакінутасць, паколькі перажыванне бацькамі канфліктаў адцягвае іх увагу ад дзіцяці. У сварках сужэнцы могуць прынізіць адзін аднаго за эмацыйны стан дзіцяці.



Бывае і іншы варыянт, калі адзін з бацькоў пераносіць свае пачуцці да партнёра на дзіця: ён бачыць у ім нейкія рысы жонкі/бацькі і пачынае з імі змагацца. Што ж рабіць дзіцяці, калі бацькі не могуць дамовіцца між сабой?

## Каму гэта зручна?

Важна разумець, што непаслушэнства ўмоўна зручна ўсім або кожнаму чальцу сям'і паасобку. Напрыклад, тата шмат працуе, а маці сядзіць з дзіцём. Яна стамляецца, адчувае сябе закінутай, сумуе. Тата прыходзіць з працы, і мама зрываецца, але разумее, што муж стаміўся, і таму яго чапаць нельга. Самая добрапрыстойная падстава: «У нас з дзіцём праблема. Я ўжо не спраўляюся, так што давай, падключайся!» Муж не можа адмовіць, ён падключаецца і пачынае выхоўваць дзіця. А пасля ў мужа і жонкі ёсць падстава пагутарыць, абмеркаваць, што адбылося. Бацькі гуртуюцца і адчуваюць сябе разам. Гэта падводзіць іх да размовы, калі ў іншых умовах яны б і не адважыліся. Гэта выгадна абодвум бацькам. І тады непаслушэнства дзіцяці — замацоўваецца!

Калі ў маці і таты напружаныя адносіны, яны пачынаюць у іх далучаць дзіця — альбо для таго, каб разрадзіць абстаноўку, альбо для таго, каб згуртавацца як сям'я. Дзіцяці гэта таксама выгадна, бо моцна павялічваецца яго статус. Малеча адчувае сябе больш значным, і таму з задавальненнем ва ўсім гэтым удзельнічае. А з іншага боку — гэтая ўмоўная выгада і замінае малому: дзіця не жыве сваім жыццём, не вырашае свае дзіцячыя задачы, а ўвесь час абслугоўвае ўзаемаадносіны бацькоў. Дрэнныя паводзіны гуртуюць сям'ю, але не даюць правільна развівацца дзіцяці і ў перспектыве — пагаршаюць узаемаадносіны бацькоў.

Яшчэ адной прычынай дрэнных паводзін малога можа быць узнікненне ў сям'і «кааліцый». Функцыянальнай у сям'і ёсць кааліцыі бацькоў і кааліцыі дзяцей, а ўсе астатнія — дысфункцыянальныя, якія паказваюць на наяўнасць праблем. Бываюць кааліцыі маці і дзяцей з аднаго боку, і таты — з другога. Гэта гульня «супраць каго мы сёння сябруем». Можа быць, што маці з адным дзіцём выступае супраць таты з іншым дзіцём. Горш, калі ўмешваюцца бабулі і дзядулі. Напрыклад, бабуля займаецца з дзіцём, пакуль бацькі занятыя. Перыядычна яна дазваляе дзіцяці нешта такое, што не ўхваляецца бацькамі. Маці, не ўступаючы ў канфлікт наўпрост (асабліва калі гэта свякроў) пачынае скардзіцца мужу, што бабуля сябе паводзіць няслушна. Муж абараняе сваю маці. Бабуля, вядома, са свайго боку таксама можа падліць алею ў агонь. Потым муж і жонка канфліктуюць. Але пасля любога канфлікту надыходзіць перамір'е, дзеля якога муж і жонка часта і канфліктуюць! Бо ў іх, аказваецца, няма іншага спосабу сказаць, як яны любяць і шануюць адзін аднаго. І перамір'е ў канфлікце становіцца тым адзіным месцам, дзе яны кажуць пра свае пачуцці. Такім чынам, праблемныя паводзіны выгадныя мужу і жонцы.

Бывае, што бабуля (дзядуля) утварае кааліцыю з дзіцём супраць бацькоў. Самы распаўсюджаны варыянт у разведзеных сем'ях, калі маці з дзіцём жыве ў доме сваёй маці, уяўляе сабой кааліцыю бабулі і дзіцяці супраць выхаваўчых мер маці. Або адзін з бацькоў аб'ядноўваецца з дзіцём супраць іншых дзяцей, дазваляе малому больш, чым іншым, — і выклікае рэўнасць.

## Перавернутая іерархія

Таксама прычына дрэнных паводзін — **перавернутая іерархія ў сям'і**. Некаторыя бацькі лічаць, што падтрымка дысцыпліны несумяшчальная з любоўю да дзіцяці. Ці іншы варыянт: захаваць добрыя адносіны з дзіцём можна толькі ўзаемадзейнічаючы з ім на роўных. У сучасных сем'ях часта вядуцца спрэчкі, ці трэба дзіцяці паслухмянасць, ці самастойна яно павінна прымаць рашэнні. Самастойнасць, бясспрэчна, патрэбная, — але ўжо для падлетка.

Таксама людзі думаюць, што любіць дзіця — гэта патураць усім яго просьбам, не абмяжоўваць яго волю. Дысцыпліна не ўстанаўліваецца, і дзіця не бачыць у бацьках тых, каго трэба беспярэчна слухацца, хто можа даваць нейкія ўказанні. Бачыць малое раўнапраўным членам сям'і — гэта не заўсёды адмова ад бацькоўскай пазіцыі. Калі дзіця на роўных вырашае дарослыя праблемы — гэта вялікая адказнасць, якая яму не па плячы. Вельмі важна, каб малое слухалася бацькоў, і каб адрозніvала сітуацыі, калі трэба беспярэчна падпарадкавацца, а калі ў яго ёсць выбар. У паслухмянага маленькага дзіцяці паляпшаецца адаптацыя да свету, бо яно давярае бацькам. У яго з'яўляецца некаторая пэўнасць і прадказальнасць. Перакананні, што такое добра і што такое дрэнна, не нараджаюцца самі па сабе. Яны прыходзяць з апавяданняў і дзеянняў бацькоў.

Гэта, вядома, не ўсе прычыны, якія могуць прыводзіць да дрэнных дзіцячых паводзін. Але гэта найбольш тыповыя, што сустракаліся ў практыцы. Для чаго б дзеці ні выкарыстоўвалі свае паводзіны, яны звычайна дамагаюцца поспеху: бацькі пачынаюць адчуваць пасланні дзіцяці.

## Рэкамендацыі

Што можна рэкамендаваць бацькам? Галоўнае — не рэагаваць звычайным чынам. Калі дзіця змагаецца за ўвагу бацькоў, важна павялічыць долю станоўчай увагі, ігнаруючы звыклае непаслушэнства. Калі дзіця самасцвярджаецца, то, наадварот, зменшыць кантроль, даваць яму магчымасць самому выбіраць заняткі або сяброў. Калі дзіця пакрыўджанае і хоча адпомсціць, то трэба паспрабаваць ліквідаваць прычыну крыўды. А калі гэта немагчыма, абмеркаваць сітуацыю з ім. Калі бацька адчувае віну перад дзіцём, важна папрасіць прабачэння, прызнаць, што вы не маеце рацыю, растлумачыць.

І вельмі важна перагледзець свае чаканні ад дзіцяці. Калі малое страчвае веру ва ўласны поспех, неабходна паменшыць свае прэтэнзіі да яго, наладзіць цёплыя адносіны, быць больш адчувальным да яго індывідуальнасці і стану, часцей выконваць працу з ім, даваць шмат пазітыўнай увагі, не крытыкаваць, а заахвочваць. Самы слушны падыход — выкарыстанне метадаў пазітыўнага выхавання.

# «Белоруссия» ў Крыме: грошы не пахнуць?

Дзяніс ІВАШЫН

**Ужо больш за пяць гадоў на тэрыторыі акупаванага Расіяй Крыму дзейнічае санаторый «Белоруссия» Кіравання справамі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Больш за тое, выкарыстоўвае захопленыя Расійскай Федэрацыяй украінскія рэсурсы, фінансуе бюджэт дзяржавы-агрэсара, а таксама лякуе расійскіх дзяржслужбоўцаў і, меркавана, надае паслугі для прадстаўнікоў вайскова-прамысловага комплексу Расіі.**



**Фота корпусу №1 санаторыя «Белоруссия» КСП РБ у Крыме.** Фота www.cctr.ru



**Барыс Андрасюк.**
Фота www.minzdrav.gov.by



**Аксана Кудзенка.**
Фота www.крымздоровье.рф

Адбываецца гэта на фоне падкрэслена цёплых сустрэчаў кіраўнікоў Украіны і Беларусі, падтрымкі добрасуседскіх адносінаў і задэкларавага Мінскам нейтральнага статусу ў расійска-ўкраінскім ваенным канфлікце.

Кіраванню справамі прэзідэнта (КСП) падначаленыя шматлікія гатэлі і санаторыі, нацыянальныя паркі, транспартныя, лагістычныя, будаўнічыя і гандлёвыя кампаніі, сельскагаспадарчыя прадпрыемствы і прадпрыемствы мясамалочнай вытворчасці, друкарні, фабрыкі мастацкіх вырабаў, сетка крамаў для рэалізацыі канфіскату, латарэі і безліч іншых актываў.

Санаторый «Белоруссия» знаходзіцца на маляўнічым узбярэжжы Крымскага паўвострава пад гарой Ай-Петры, за 10 кіламетраў ад Ялты. Юрыдычна ён месціцца на Місхорскім спуску мястэчка Карэіз, якое адміністрацыйна з'яўляецца часткай Ялты. Гісторыя санаторыя пачалася ў 1916 годзе, калі Міністэрства земляробства Расійскай імперыі на зямлі, набытай у княгіні Даўгарукай, збудавала паводле праекту маскоўскага архітэктара Пятра Шчокава трохпавярховы будынак з ратондаю ў архітэктурным стылі класіцызаванага італьянскага мадэрну.

Гэты помнік архітэктуры мясцовага значэння сёння з'яўляецца першым корпусам санаторыя. У 1950-х гадах яго перадалі ва ўласнасць БССР, а ў 1999 годзе Ялцінскае гарадское ўпраўленне юстыцыі Аўтаномнай Рэспублікі Крым зарэестравала Дзяржаўную медычную ўстанову «Санаторій Білорусія», заснавальнікам і адзіным уласнікам якой з'яўляецца Кіраванне справамі прэзідэнта РБ.

У склад санаторыя сёння ўваходзяць 5 спальных корпусоў (разам 130 нумароў), лекавальны і забаўляльны цэнтры разам з кавярняй, канферэнц-залай і 3D-кінатэатрам. Адпачынак у санаторыі далёка не танны: у залежнасці ад корпусу, двухмясцовы нумар каштуе ад 3400 да 5200 расійскіх рублёў за суткі (прыблізна ад 50 да 80 доляраў ЗША).

У лютым-сакавіку 2014 года ў выніку гібрыднай ваеннай агрэсіі Расійская Федэрацыя акупавала тэрыторыю ўкраінскага Крыму. Гвалтоўнае ваеннае змяненне межаў у Еўропе спрычынілася да заканчэння 70-гадовай эпохі постялцінскага свету. Расія не толькі акупавала Крым, але распачала агрэсію на Данбасе, у выніку якой на гэты момант загінулі ўжо больш за 10 тысяч чалавек цывільнага насельніцтва і каля 3 тысяч украінскіх вайскоўцаў.

Афіцыйна Беларусь не прызнала прыналежнасць Крымскага паўвострава Расіі. Відавочна, гэта — неабходная ўмова для надання перамоўнай мінскай пляцоўкі па ўрэгуляванні сітуацыі на Данбасе. Аднак гэтае непрызнанне не зашкодзіла ў снежні 2014 года, праз тры месяцы пасля ўхвалення першых мінскіх дамоўленасцяў, падаць Кіраванню справамі прэзідэнта Беларусі заяву на рэгістрацыю ў органы акупацыйнай адміністрацыі Крыма падкантрольнага санаторыя «Белоруссия». 22 студзеня 2015 года гэтую медычную ўстанову зарэгістравалі ў Адзіным дзяржаўным рэестры юрыдычных асобаў РФ (па-руску — ЕГРЮЛ).

З гэтага моманту санаторый «Белоруссия» афіцыйна пачаў сплачваць падаткі ў дзяржбюджэт і здзяйсняць плацяжы ў Фонд сацыяльнага страхавання і Пенсійны фонд Расійскай Федэрацыі. Паводле дадзеных Федэральнай службы дзяржаўнай статыстыкі РФ (па-руску — Росстат), за перыяд з 2014 па 2017 год крымскі санаторый Кіравання справамі Лукашэнкі сплаціў у расійскі бюджэт падатак на прыбытак у памеры 3,454 мільёна расійскіх рублёў. З улікам сярэднегадавых валютных курсаў за азначаны перыяд гэтая сума эквівалентная прыблізна 76 тысячам доляраў ЗША. Можа, камусьці яна будзе падавацца малой, аднак гэтых грошай, напрыклад, дастаткова, каб абмундзіраваць летняй вайсковай формай цэлую брыгаду Узброеных сілаў РФ. Меркавана, значна большыя сумы санаторый пералічвае ў расійскі Фонд сацстрахавання.

Паводле дадзеных Міністэрства юстыцыі Украіны, санаторый КСП не знаходзіцца ў працэсе спынення дзейнасці. З 2014 года ў адносінах да яго дзейнічае закон «Пра стварэнне вольнай эканамічнай зоны Крым», згодна з якім яго падатковая рэгістрацыя была скасаваная. Тым не менш, станам на 01.08.2019 года санаторый мае ўжо працяглы час падатковую пазыку перад дзяржаўным і мясцовым бюджэтам Украіны на агульную суму 838 тысяч 968 грыўняў (прыблізна 33 тысячы доляраў ЗША).

Статус санаторыя «Белоруссия» ўжо разглядаўся падчас пасяджэнняў міжурадавай украінска-беларускай змяшанай камісіі ў пытаннях гандлёва-эканамічнай супрацы, апошняе з якіх адбылося ў Гомелі ў кастрычніку 2018 года на чале з віцэ-прэм'ерам Украіны, міністрам рэгіянальнага развіцця, будаўніцтва і ЖКГ Генадзем Зубкам і намеснікам прэм'ер-міністра РБ Ігарам Ляшэнкам.

Для знаходжання кампрамісу, неабходнага для ўхвалення пагаднення па статусе санаторыя, была створаная нават адпаведная працоўная група, якая правяла тры сустрэчы. Аднак, паводле афіцыйнай інфармацыі Міністэрства эканамічнага развіцця і гандлю Украіны, у 2017 годзе праз прынцыповую пазіцыю беларускага боку гэтая група ўжо не працавала.



**Пасяджэнне міжурадавай украінска-беларускай змяшанай камісіі па пытаннях гандлёва-эканамічнай супрацы. Гомель, 11.10.2018 года.**
Фота www.belarus.mfa.gov.ua

Характэрна, што ў тым жа 2017 годзе санаторый «Белоруссия» ўзначальваў Барыс Мікалаевіч Андрасюк, які быў прызначаны яго дырэктарам яшчэ да расійскай акупацыі, у ліпені 2010 года.

Ён займеў досыць добрыя адносіны з акупацыйнай адміністрацыяй Крыма, якая ў асобе кіраўніка так званай Рэспублікі Крым Сяргея Аксёнава нават абвясціла яму афіцыйную падзяку за «добрасумленную працу». Не засталася ў баку і акупацыйная адміністрацыя Ялты, якая ўзнагародзіла Андрасюка ганаровай граматай за «значны ўнёсак у развіццё курортна-турыстычнай галіны». Усё гэта не мог не заўважыць Цэнтр «Міратворац», які ўнёс Барыса Андрасюка ў базу дадзеных «Чысцец» з азначэннем «памагаты расійскіх акупантаў і асоба, якая свядома парушыла дзяржаўную мяжу Украіны з мэтай пранікнення ў акупаваны Расіяй Крым».

Апроч гэтага, «Міратворац» падаў інфармацыю і пра яго ўдзел у прапагандысцкіх мерапрыемствах дзяржавы-агрэсара, і ў спробах легалізацыі анексіі Крыма.

У верасні 2018 года Барыс Андрасюк пайшоў на павышэнне — яго прызначылі намеснікам міністра аховы здароўя Рэспублікі Беларусь. На сваёй новай пасадзе ён змяніў затрыманага КДБ у ліпені гэтага ж года Ігара Ласіцкага — фігуранта гучнай «справы медычных функцыянераў», якога ў лютым 2019 года засудзілі да 6 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Некаторы час пасля Андрасюка санаторый «Белоруссия» ўзначальвала яго намесніца па медычнай частцы — Аксана Уладзіміраўна Кудзенка. На гэтай пасадзе яна працавала літаральна некалькі месяцаў.

22 студзеня 2019 года дырэктарам санаторыя быў прызначаны Андрэй Міхайлавіч Філон. Да нядаўняга часу — загадчык сектару метадалогіі і планавання гандлёвай і інвестыцыйнай дзейнасці Кіравання справамі прэзідэнта РБ. Вядома, што ён скончыў Факультэт бізнесу і права Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі і, меркавана, Акадэмію кіравання пры прэзідэнце РБ.

Паводле ўказа Лукашэнкі ад 11 лютага 2016 года №52, Андрэй Філон уключаны ў склад калегіі Кіравання справамі прэзідэнта РБ. Калегія з'яўляецца своеасаблівым кіроўным органам КСП, у склад якой уваходзяць старшыня ўстановы, яго намеснікі і іншыя працаўнікі і кіраўнікі падначаленых арганізацыяў. У красавіку 2018 года Лукашэнка яшчэ адным сваім указам канчаткова ўхваліў штат калегіі КСП у складзе 10 чалавек на чале з Віктарам Шэйманам. Сярод чальцоў калегіі ў тэксце ўказу фігуруе і Андрэй Філон.

Характэрна, што дагэтуль у Нацыянальным рэестры прававых актаў РБ адсутнічае інфармацыя пра яго выключэнне са складу калегіі: гэта можа сведчыць, што ён дасюль з'яўляецца чальцом калегіі КСП. Такім чынам, можна з усёй адказнасцю сцвярджаць, што медычную ўстанову Кіравання справамі прэзідэнта Беларусі на акупаванай тэрыторыі Украіны ўзначальвае дзяржаўны службоўца РБ. Паўстае заканамернае пытанне, ці законна патрапляе Андрэй Філон — дзяржслужбоўца з кіроўнага апарату КСП Лукашэнкі — на часова акупаваную тэрыторыю Украіны? Калі не, то гэта дадатковае парушэнне заканаў Украіны і дадатковы каменьчык у беларуска-ўкраінскіх адносінах.

Мы вырашылі спраўдзіць гэта ў Службы бяспекі Украіны, дзеля чаго зрабілі адпаведныя запыты наконт сённяшняга дырэктара санаторыя «Белоруссия», а таксама яго папярэднікаў — Барыса Андрасюка і Аксаны Кудзенка. Згодна з адказам, атрыманым ад СБУ, дадзеныя пра легальнае знаходжанне азначаных асобаў на тэрыторыі акупаванага Крыму пакуль адсутнічаюць.

Працяг на стар. 19 »

Новы Час | 30 жнівўя 2019 | № 32 (643) | «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | №8




# Літаратурная Беларусь

Выпуск №8 (156)
(жнівень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by




## Змест



# Адлік ад Каліноўскага



Віктар САЗОНАЎ

**Нядаўна ў Свіслачы (Гродзенская вобласць) Следчы камітэт Рэспублікі Беларусь разам з адмысловымі спецыялістамі з Беларусі і Літвы правялі археалагічныя працы па эксгумацыі парэшткаў Віктара Каліноўскага, роднага брата легендарнага кіраўніка паўстання 1863–64-ых гадоў Кастуся Каліноўскага. Навошта?**

Афіцыйная версія гэтых работ палягае на тым, што літоўскі бок хоча параўнаць мяркуемыя парэшткі Кастуся Каліноўскага, знойдзеныя ў Вільні, з таксама мяркуемымі парэшткамі яго брата.

Неафіцыйная версія таксама агучваецца ў народзе, «вітае» ў вуснай і пісьмовай форме, і яна менш аптымістычная. Паводле яе, хочуць, маўляў, нам абвесціць, што і там, і там, ці хоць як мінімум у Беларусі, ДНК Каліноўскага не выяўлена...

У другой версіі не так шмат смешнага, як здаецца на першы погляд. Сённяшнія беларускія ўлады не адзін год пераследуюць тых актывістаў, якія прыязджаюць у Свіслач ушанаваць памяць паўстанцаў. Каму-каму, а ім, уладам, яўна непатрэбна, каб ДНК Каліноўскага знайшлося ў Беларускай зямлі. Ім было б лепш, каб і імя яго не гучала ў беларускім паветры. Чыё заўгодна хай гучыць! Пра расейскіх Сцяпана Разіна ці Емяльяна Пугачова нават у школе можна распавядаць, а вось Каліноўскі — нешта іншае... Да яго асаблівыя адносіны ў сённяшніх кіраўнікоў Беларусі... І рэч не ў асабістых сімпатыях ці антыпатыях нашых чыноўнікаў да тых ці іншых гістарычных постацяў. Справа ў адносінах гэтых гістарычных постацяў да ўлады ўвогуле...



Фота Ахіла Банольдзі

«Бравы казак» Сцяпан Разін заяўляў, што не збіраецца скідаць з трона расейскага цара Аляксея Міхайлавіча. Ён па старой расейскай звычцы ва ўсім вінаваціў баяраў, ваяводаў, іншую адміністрацыю, якую цар расейскі і прызначаў. Супраць жа царскай тыраніі, як увогуле супраць дыктатуры, прэтэнзій нібыта і не выстаўляў. Прынамсі, на словах.

**«Не народ для ўлады, а ўлада для народа», — абвесціў ён, яшчэ і не адзін раз паўтарыў. І гэтымі словамі засведчыў, што аніякай дыктатуры не хоча, не толькі чужынскай, але і сваёй, родненькай. Ды і сам у дыктатары не імкнуўся**

Другі адважны казак Емяльян Пугачоў пайшоў яшчэ далей у гэтым пытанні. Ён абвясціў сябе спадкаемцам трону расейскага імператара Пятром Трэцім і яшчэ па адной расейскай звычцы хацеў кепскага цара замяніць на добрага. У дадзеным выпадку на сябе самога. Зноў жа, прынамсі, на словах. І зноў жа: да існавання дыктатуры як да адзіна магчымай сістэмы кіравання аніякіх прэтэнзій не меў.

Ну і якія ў такім разе да гэтых гераічных расейскіх «хлопцаў» могуць быць прэтэнзіі у сённяшняй беларускай улады (як і ў расейскай)? Героі — і ўсё тут. Можна і ў школе іх ставіць у прыклад. А вось беларускі паўстанец Кастусь Каліноўскі — справа іншая!

«Толькі тады, народзе, зажывеш шчасліва, калі над табой маскаля ўжо не будзе», — заявіў ён у вечнасць. (Маскалямі тады называлі чыноўнікаў, пастаўленых ад імя Расейскай імперыі кіраваць народам, або расейскіх салдат. Не трэба слова «маскаль» блытаць з словам «рускі». Гэта не адно і тое. Але зараз не пра гэта развагі, а пра тое, што не хацеў Кастусь расейскай дыктатуры над беларускім народам. — В. С.). «Не народ для ўлады, а ўлада для народа», — абвесціў ён, яшчэ і не адзін раз паўтарыў. І гэтымі словамі засведчыў, што аніякай дыктатуры не хоча, не толькі чужынскай, але і сваёй, родненькай. Ды і сам у дыктатары не імкнуўся. Вось і ўся розніца!

Ну то за што яго будзе шанаваць сённяшняя ўлада?! А пасля яго гераічнай смерці, якая завяршыла не менш гераічнае, хоць і кароткае жыццё, знайшліся спадкаемцы яго ідэй і яго змагання. Па сённяшні дзень захаваліся такія. Таксама дыктатуры не любяць. Вось і хапаюць іх, калі ў Свіслач прыязджаюць на магілу Віктара Каліноўскага... Ну то ці зацікаўленыя ўлады ў тым, каб Слава гэтага месца ў свет пайшла?! Так што падазрэнні ў праўдзівасці экспертызы не на пустым месцы вырастаюць. Тым больш, што працы праходзілі без належнай галоснасці.

Ну а пра тое, хто ўклаў грошы ў той мемарыял і ці дазваліе ён яго бурыць — ні ў каго з прадстаўнікоў улады і ў галаву не прыйшло пацікавіцца. Мажліва, яны такія грошы за грошы не лічаць. Але ж тыя, хто «скідваўся» апошнімі сродкамі, маюць на гэты конт іншае меркаванне...

Зрэшты, што скажуць па завяршэнні работ адпаведныя службы і адказныя асобы, не так ужо і важна. Важна, што сказаў сам Кастусь Каліноўскі. А ён ужо ўсё сказаў. Ад яго ідзе той адлік, які будучыню Беларусі дапускае толькі як незалежную, свабодную, і абавязкова дэмакратычную. Гэты адлік ідзе і абавязкова прыйдзе да лагічнага завяршэння.

racyja.com

**(Працяг развагаў пра постаць Кастуся Каліноўскага, яго аднадумцаў і само паўстанне 1863 года — на старонках 11(5), 12(6) і 13(7) у аповедах з будучай кнігі Уладзіміра АРЛОВА і Паўла ТАТАРНІКАВА «Айчына: маляўнічая гісторыя» («Змагары 1863-ці»).**

***Амаль праз месяц у нашай краіне пачнецца чарговы перапіс насельніцтва. Сярод пытанняў (нумар 12 і 13), на якія трэба будзе адказаць падчас перапісу, будзе і пытанне пра Вашую родную мову.***

***Адказ мае не толькі сімвалічнае, але і практычнае значэнне. Ад колькасці грамадзян, якія ў анкетах пазначаць беларускую мову, будзе залежаць далейшая палітыка дзяржавы і яе будучае існаванне. Адказам «беларуская» мы станоўча паўплываем на яе лёс!***

НАША РОДНАЯ МОВА — БЕЛАРУСКАЯ

04.10–30.10.2019

ПЕРАПІС НАСЕЛЬНІЦТВА

# Горкае пітво жаноцкасці

**У чэрвені ў выдавецтве «Медысонт» пабачыў свет паэтычны зборнік Тацццяны Зіненка «Гарчэйшае пітво», укладзены Леанідам Галубовічам, які ўжо традыцыйна апякуецца спадчынай нашых паэтаў, чый лёс быў складаны альбо нават трагічны і чыя спадчына заставалася невядомай і неўладкаванай.**




Гэта другая пасмяротная кніга паэткі. Першую («Плакала дзяўчынка», «Ковчег», 2013) выдалі яе сябры і калегі з Барысава. Зямны шлях Тацццяны абарваўся ў 2011 годзе, калі ёй споўніўся 51 год. А калісьці былі — заканчэнне філфака БДУ, праца настаўніцай беларускай мовы, актыўны ўдзел у адраджэнскім жыцці і літаратурных суполках падчас перабудовы савецкага грамадства. Тады Т. Зіненка шмат пісала і друкавалася, але з сярэдзіны дзевяностых яе самабытны голас гучаў усё радзей, а потым і зусім змоўк у хмельным забыцці і адстароненасці.

Гаючая сіла паэзіі такая, што, перагарнуўшы апошнюю старонку гэтай пранізлівай споведзі, дзякуеш за сустрэчу з паэтычным голасам такой незвычайнай моцы і чысціні.

Адкрываецца зборнік грамадзянскай лірыкай канца васьмідзясятых: заклікі да незалежнасці краіны, неспакой за лёс Беларусі, роднай мовы. Усё раніць чулую душу: чарнобыльскі жах («О Беларусь! Мая туга. / Чарнобыльская парадзіха, радыяцыйная смуга!»), нявызначанасць лёсу народа, надзея на лепшы вырак для любай «зеленавокай матулі» (так называе паэтка Беларусь). Тэма роднага краю праходзіць праз усю творчасць Т. Зіненка: ад амаль казачнага («Буслы мой род на свеце зберагլі») да горкага:

*Узыдзеш і глядзіш —*
*навошта нарадзіўся?*
*І на сваёй зямлі ж —*
*а быццам памыліўся.*

У вершы «Я — крывічанка» паэтка ўрачыста і пранізліва апявае свой народ, высокі дух якога ніхто не мог адолець і запляміць, «бо мы трымаліся за памяць, за розум і за карані». У гэтым ды іншых падобных вершах Т. Зіненка нагадвае свайго духоўнага брата — Анатоля Сыса, якому ахвяравала асобны высокапатрыятычны верш-прызнанне. Але большасць вершаў прысвечаныя іншай тэме — каханню. Тут паэтка выяўляе такую ж самасць і тэмперамент, аднак гэтыя якасці абарочваюцца для яе лірычнай гераіні (думаю, цалкам правамоцна атаясамліваць яе з самой паэткай) асабістым пеклам. Зрэшты, пекла ўзнікла пазней, а спачатку вершы поўняцца наіўнай маладой верай у жаночае шчасце. Як у маляванках Алены Кіш, з радкоў тых вершаў паўстае «жаданне трапіць у рай, вечнае й немагчымае». Але не можа быць раю для жанчыны, якая намагаецца паказаць мужчыне сваю прагу творчасці і прагу кахання — прычым па ўласных правілах. Тацццяна і сама гэта разумее, але насуперак разуменню верыць у магчымасць быць каханай жанчынай і творцай адначасова. Марная надзея. З году ў год у вершах нарастаюць матывы адчаю і безнадзейнай тугі:

*Мы больш, чым кахаем.*
*Мы — камень аб камень з табою,*
*гара да гары*
*і бяссонныя ўздыхі начэй.*
*І мне абдымацца*
*лягчэй з несхадзімай зарою.*
*О, мой велягур!*
*І табе не са мною лягчэй.*

Здзіўляцца тут няма чаму. У любую эпоху жыццё жанчыны, якая выходзіла за межы стандартнай жаночай долі і магла сказаць пра сябе словамі Т. Зіненка: «любіла я ў сабе паэта», рэдка складвалася ўдала. Караліна фон Гюндэродэ, Эн Сэкстан, Сільвія Плат… За жанчынай ахвотна прызнавалі ролю прыгажуні-музы, але калі ўжо яна сама «забаўляецца вершамі», дык вершы гэтыя мусяць быць бяскрыўдным упрыгажэннем салоннага альбома. Мужчынскі позірк заўсёды паблажліва слізгае па радках, напісаных жанчынай, з большай увагай на тое, як дама выглядае. Але калі ўсё ж мог разглядзець у іх талент, а ў жанчыне — асобу, якая нічым яму не саступае, тут жа ўзнікалі страхі ды падазрэнні. Калі яна пасмела займець свой голас, то ці так ужо патрэбен ёй мужчына? Можа, больш бяспечна знайсці сяброўку? Або няхай кіне пісаць, бо мужчыны робяць гэта нашмат лепш! Усе гэтыя разборкі з уласнай ідэнтычнасцю, дэпрэсіі ды эмацыянальныя зрывы, якія ведае кожны сапраўдны творца, — навошта яны жанчыне, раптам у гэты час ежа на пліце падгарыць? Любоў да паэзіі — забароненая любоў! — як і любая забароненая жарсць у гэтым свеце, ахвотна даравалася мужчынам і не даравалася жанчынам.

Настойваючы на жаданні тварыць, жанчына, па сутнасці, асуджае сябе на выгнанне з грамадства абывацеляў, дзе вобраз «памочніцы мужчыны» зацэментаваны ў канструктах утульнай і клапатлівай альбо — версія нумар два — прыгожай і лёгкадумнай. Жыццё «нармальнай» жанчыны несумяшчальна ні з творчай смеласцю, ні з творчым адчаем. Т. Зіненка калі й не разумела гэтага да канца, дык адчувала: каханне не прынясе ёй шчасця. Яна пайшла наперакор свайму ўладкаванаму жыццю, — насустрач пакліканню. Але не кахаць не магла:

*А я без дазволу, а я без прынукі*
*за Вамі наўслед, як ніхто, палячу.*
*Без Вас не знайду я ні гора, ні мукі —*
*а я толькі гора і мукі хачу.*

У першых двух радках — праўда жанчыны. У двух апошніх — праўда паэткі. І вось тут зерне яшчэ адной трагедыі (ці не зашмат для ўразлівай душы?). Калі губляецца розніца паміж літаратурай і жыццём (узгадаем Яўгенію Янішчыц: «Любоў мая, ты песня і маркота»), на свае пачуцці пачынаеш глядзець як на матэрыял для творчасці, на сваё жыццё — як на эксперымент. Зразумела, што пачуцці патрэбны моцныя і неардынарныя (нярэдка негатыўныя). Гэта разбурае чалавека, але надае энергію паэзіі. І зусім не выпадкова вершы Янішчыц і Зіненка так часта перагукаюцца:

*«Я й перад смерцю вымаўлю: люблю» (Я. Янішчыц);*
*«Я па табе заплачу і ў труне» (Т. Зіненка);*
*«А жыць — пакуль баліць / На сэрцы вышыня» (Я. Янішчыц);*
*«Я адчуваю, што жыву высока» (Т. Зіненка).*

Ды і хіба можа быць інакш, калі «маё аблічча — толькі форма, / Адлітая для струн душы» (Я. Янішчыц).

Навошта было так аддавацца пачуццям — да «апошняга палёту» над безданню? А паспрабуй супрацьстаяць трагічнаму іх напалу, калі ты — жанчына, якой спрадвеку сусветнай культурай навязваецца рамантызаваны вобраз кахання. Як доўга можна выкарыстоўваць свой душэўны боль для паэтычных эксперыментаў? Напружанне занадта высокае, і ў рэшце рэшт пачынаеш шукаць спосаб выключыць свядомасць, каб не балела.

…У рамане «Палявыя доследы ўкраінскага сэксу» Аксана Забужка напісала пра рамантычнае каханне: «У жыцці трагедыя выглядае непрыгожа». Дададзім: не тое, што ў ружовым чытве для дам, дзе сентыментальныя гераіні любілі, пакутавалі і заставаліся пры тым — абавязаны былі заставацца! — прыгожымі ды спакуслівымі. Тацццяна Зіненка ў сваёй сапраўднай і непрыдуманай трагедыі прыгожай не была. А яе вершы — былі. І ёсць. Выкупленыя цаной жыцця, яны зоймуць сваё высокае месца ў беларускай паэзіі.

**Алена Брава**

# Вандроўнік па сцяжынах памяці




**Паэтычны голас Усевалада Гарачкі з ранейшага гучна-эпатажнага і ёрніцка-сцёбнага па меры жыццёвага і творчага сталення пачаў рабіцца больш спакойным, ціхім, разважлівым і пранікнёна-кранальным.**

Гэтую адмысловую паэтычную трансфармацыю перакануўча засведчыў яго новы паэтычны зборнік «Каляровыя слёзы», выдадзены да 50-гадовага юбілею аўтара. У кнігу, апублікаваную ў канцы 2018 года выдавецтвам «Галіяфы», увайшлі вершы рознай тэматычнай і настраёвай скіраванасці.

Бадай, галоўным матывам кнігі з'яўляецца памяць, якая выступае ў якасці своеасаблівага мастка ў любыя яго сэрцу і душы часы бесклапотнага дзяцінства і вірлівай маладосці. Таму, відаць, нездарма зборнік і адкрываецца вершам «Дзяцінства», якое ўспрымаецца як час, калі «жалуды і каштаны / былі даражэй, / чым золата і каменне». Вялікая роля памяці ў светаўспрыманні аўтара хораша выяўлена ў наступнай паэтычнай мініяцюры:

*Гэта не сонца садзіцца:*
*на захадзе*
*даўняе замчышча*
*свеціцца —*
*жар разварушаны,*
*памяць.*

Уражвае тонкая пачуццёвасць большасці вершаў зборніка, што зусім не характэрна сучасным пераважна стрыманым і «халодным» паэтам у нашым сённяшнім прагматычна-цынічным свеце. Хаця ў кнізе змешчаны і творы сатырычнага зместу (найперш звязаныя з асаблівасцямі святкавання суайчыннікамі гадавінаў апошняй вайны), але ж не яны складаюць дамінанту «Каляровых слёз», а менавіта вершы спавядальныя, пранікнёна-інтымныя. Інакш кажучы, аўтар паўстае перад чытачом у першую чаргу «ціхім лірыкам», схільным да гранічнай шчырасці і нават да пэўнай сентыментальнасці, у межах якой творца непрыхавана апавядае прае свае эмоцыі і пачуцці, вострыя перажыванні і душэўныя пакуты, не саромеючыся пры гэтым нават уласных… слёз.

Змест многіх вершаў пераконвае, што ў пошуках свайго (не)дасяжнага шчасця паэту давялося ў жыцці многае зведаць, прайсці праз шматлікія выпрабаванні і пакуты, каб урэшце адчуць сябе свабодным і стаць своеасаблівым уладаром уласнага міні-сусвету:

*Зжаўцее,*
*а потым абрынецца лісце,*
*і нешта абрынецца ў нас:*
*чагосьці чакалі,*
*цярпелі,*
*а зараз — свабода.*
*Мы выйдзем на вуліцы дзеясь*
*сваю рэчаіснасць...*

Заўважную ролю ў паэтычным мысленні У. Гарачкі адыгрываюць таксама яго сны, фантазіі і мроі, якія робяць аўтарскі свет больш прывабным і шматкаляровым і без якіх рэчаіснасць выглядала б шэрай і прэснай. Прычым гэтыя сны найчасцей не светлыя і дабратворныя, а найчасцей трывожныя і нават па-кафкіянску страшныя, у нечым падобныя да фільмаў жахаў.

У кнізе нярэдка сустракаюцца арыгінальныя, самабытныя аўтарскія метафары і эпітэты, якія, безумоўна, лашчаць слых, радуюць вока і душу: «пабачым ранкам твой улоў: / На нітках рытмаў нізкі слоў»; слёзы «змываць малюнкі мінулага». Аднак дзеля справядлівасці варта сказаць, што ў зборніку там-сям можна сустрэць і няўцямныя, нацягнута-штучныя, а то і папросту недарэчныя, безгустоўныя вобразы і параўнанні, якія псуюць уражанне ад некаторых вершаў. Да ліку такіх, відавочна, няўдалых словазлучэнняў і вершаваных радкоў можна аднесці, на маю думку, тыя, дзе аўтар сузірае выпадковасць думкі, «нібы варону, / што ўзнялася па-над светам»; дзе бабы «такія ж дурныя, як кулі»; дзе шчасце аказваецца «чорнай прамавугольнай каробкай»…

Акрамя таго, у кнізе, на жаль, сустракаюцца і пэўныя запазычанні вобразаў, метафар з вершаў знакамітых замежных і айчынных паэтаў. Так, вобраз ператварэння цела чалавека ў гліну, які ў адным з вершаў выкарыстоўвае Усевалад Гарачка, з'яўляецца традыцыйным для класічнай персідскай паэзіі (найчасцей гэтая метафара сустракаецца ў Амара Хаяма); вобраз «цягніка жыцця» здаецца наўпрост запазычаным з верша «Поезд жизни» Марыны Цвятаевай (да таго ж, існуе яшчэ і выдатны замежны мастацкі фільм з такой жа назвай); параўнанне душы з ветразем адразу нагадвае радок «душа — как парус, душа — как арфа» з верша Ігара Севераніна пад назвай «Поэза раскрытых глаз» (1915)…

Наогул, аўтар вершаванага зборніка «Каляровыя слёзы» адначасова ўяўляецца мне як нястомны вандроўнік па шматлікіх сцяжынах сваёй памяці, і як самотны блукальнік па цёмных лабірынтах сваіх сноў, мрояў і фантазій. І на гэтых бясконцых шляхах ёсць практычна ўсё — як сказаў бы замежны класік — «и жизнь, и слёзы, и любовь». Дык хай жа гэтыя «каляровыя слёзы» ўзнікаюць на твары аўтара толькі ад радасці і шчасця, а на тварах чытачоў кнігі — ад захаплення пранікнёным паэтычным словам Усевалада Гарачкі і шчырай удзячнасці яму за яркія запамінальныя вобразы!

**Эдуард Дубянецкі**

# Праца — не воўк,

## Або як вядомыя пісьменнікі стваралі літаратурныя шэдэўры

**Джэйн Осцін** (1775–1817) — аўтарка раманаў "Гонар і прадузятасць", «Пачуццё і адчувальнасць», «Эма», «Довады розуму». Джэйн Осцін жыла з маці, сястрой, сяброўкай і трыма слугамі. У яе ніколі не было магчымасці адасобіцца. Джэйн даводзілася працаваць у сямейнай гасцінай, дзе ёй у любы момант маглі перашкодзіць. Пісала яна на маленькіх кавалках паперы, і як толькі чулася рыпенне дзвярэй (папярэджванне аб наведвальніку), яна паспявала схаваць нататкі. Пазней сястра Джэйн Касандра ўзяла на сябе клопат пра вядзенне гаспадаркі. Удзячная Джэйн пісала: «Не ўяўляю, як можна пісаць, калі ў галаве круцяцца катлеты з бараніны»...


Фота www.miridei.com

**Жорж Санд** (1804–1876) звычайна пісала па 20 старонак за ноч. Праца па начах стала звычкай з дзяцінства, калі яна даглядала хворую бабулю і толькі ноччу магла займацца любімай справай. Пазней яна пакідала заснулага палюбоўніка ў ложку і пасярод ночы сядала за пісьмовы стол. А назаўтра не заўсёды памятала, што пісала ў сонным стане. Хоць Жорж Санд была незвычайным чалавекам (насіла мужчынскую вопратку, заводзіла раманы і з жанчынамі, і з мужчынамі), яна асуджала злоўжыванне кавай, алкаголем або опіумам. Каб не заснуць, ела шакалад, піла малако або курыла. «Калі надыходзіць момант надаць сваім думкам форму, — казала яна, — трэба цалкам валодаць сабой, што на падмостках сцэны, што ў сваім кабінеце».

**Гюстаў Флабэр** (1821–1880) пісаў «Мадам Бавары» пяць гадоў. Праца ішла занадта павольна і пакутліва: «“Бавары” не ідзе. За тыдзень — дзве старонкі! Ёсць з чаго набіць сабе пысу ад роспачы». Прачынаўся Флабэр у дзесяць раніцы, не ўстаючы з ложка, чытаў лісты, газеты, паліў трубку, гутарыў з маці. Затым прымаў ванну, снедаў і абедаў адначасова і адпраўляўся на шпацыр. Адну гадзіну ён выкладаў пляменніцы гісторыю і геаграфію, потым сядаў у крэсла і чытаў да сямі вечара. Пасля багатай вячэры некалькі гадзін гутарыў з маці і, нарэшце, з надыходам ночы пачынаў пісаць. «У рэшце рэшт, — прызнаваўся ён, — праца — найлепшы спосаб выслізнуць ад жыцця».

**Леў Талстой** (1828–1910) уставаў позна, ні з кім не размаўляў, пакуль не памыецца, не пераапранецца і не прычэша бараду. Снедаў (кава і пара яек) і зачыняўся да абеда ў кабінеце. Зрэдку там сядзела яго жонка Соф'я — на выпадак, калі прыйдзецца перапісаць ад рукі пару раздзелаў «Вайны і міру» або выслухаць чарговую частку сачынення. Перад абедам Л. Талстой выпраўляўся на шпацыр. Калі вяртаўся ў добрым настроі, мог дзяліцца ўражаннямі або займацца з дзецьмі. Калі не — чытаў кнігі, раскладваў пасьянс і гутарыў з гасцямі.

**Марк Твэн** (1835–1910) пісаў «Прыгоды Тома Соера» на ферме, дзе яму пабудавалі асобную альтанку-кабінет. Працаваў пры адчыненых вокнах, прыціснуўшы лісты паперы цаглінамі. Нікому не дазвалялася наблізіцца да кабінета, а калі М. Твэн быў вельмі патрэбны, хатнія трубілі ў горан. Па вечарах М. Твэн чытаў сям'і напісанае. Ён бесперапынна курыў цыгары, і дзе б ні з'явіўся, пасля яго даводзілася праветрываць памяшканне. Падчас працы яго мучыла бессань, і, па ўспамінах сяброў, ён пачаў лячыць яе шампанскім на ноч. Шампанскае не дапамагло — і М. Твэн папрасіў сяброў назапасіцца півам. Потым М. Твэн заявіў, што яму дапамагае толькі шатландскае віскі. Пасля серыі эксперыментаў Марк Твэн лёг на сваю пасцель у дзесяць вечара і нечакана заснуў. Усё гэта вельмі забаўляла яго. Зрэшты, яго забаўлялі любыя жыццёвыя падзеі.

**Нават калі напярэдадні ён дапазна піў, паднімаўся не пазней шасці раніцы, адчуваў сябе бадзёра. Працаваў Хэмінгуэй да апоўдня, стоячы каля паліцы. На паліцы стаяла друкарская машынка**

**Марсэль Пруст** (1871–1922) пісаў раман «У пошуках страчанага часу» амаль 14 гадоў. За гэты час ён напісаў паўтара мільёна слоў. Каб цалкам засяродзіцца на працы, М. Пруст схаваўся ад грамадства і амаль не выходзіў з сваёй знакамітай абітай дубам спальні. Працаваў М. Пруст па начах, днём спаў да трох ці чатырох гадзін. Адразу пасля абуджэння запальваў парашок, які змяшчаў опіум, — так ён лячыў астму. Амаль нічога не еў, толькі снедаў (кава з малаком і круасанам). Пісаў М. Пруст у ложку, уладкаваўшы сшытак на каленях і падклаўшы падушкі пад галаву. Каб не заснуць, прымаў кафеін у таблетках, а калі прыходзіў час спаць, заядаў кафеін вераналам. Мучыў ён сябе наўмысна, лічачы, што фізічны боль дазваляе дасягнуць вышынь у мастацтве.

**Самэрсэт Моэм** (1874–1965) за 92 гады жыцця апублікаваў 78 кніг. Біёграф С. Моэма называў яго працу не пакліканнем, а залежнасцю. С. Моэм і сам параўноўваў звычку пісаць са звычкай піць. Абедзве лёгка набыць і ад абедзвюх складана пазбавіцца. Першыя дзве фразы С. Моэм прыдумляў, лежачы ў ванне. Пасля пісаў дзённую норму ў паўтары тысячы слоў. «Калі пішаш, калі ствараеш персанаж, то ён увесь час з табой, ты заняты ім, ён жыве». Спыняючыся пісаць, С. Моэм адчуваў сябе бясконца адзінокім.

**Джэймс Джойс** (1882–1941) пра сябе пісаў: «Чалавек нядобры, схільны да экстравагантнасці і алкагалізму». Ні рэжыму, ні арганізацыі не меў. Спаў да дзесяці, снедаў у ложку (кава і булачкі), зарабляў урокамі ангельскай ды ігрой на піяніна, пастаянна займаў грошы і «адцягваў» крэдытораў размовамі пра палітыку. Каб напісаць «Уліса», яму спатрэбілася сем гадоў з перапынкамі на восем хвароб і васямнаццаць пераездаў у Швейцарыю, Італію, Францыю. За гэтыя гады ён правёў за працай прыкладна 20 тысяч гадзін.

**Агата Крысці** (1890–1976), ужо выдаўшы дзясятак кніг, у анкетным радку «род заняткаў» пазначала: «хатняя гаспадыня». Яна працавала ўрыўкамі, не маючы ні асобнага кабінета, ні нават пісьмовага стала. Пісала ў спальні за умывальным столікам або магла «прымасціцца» за абедзенным сталом у перапынках паміж прыёмамі ежы. «Мне бывала трохі няёмка “ісці пісаць”, — казала яна. — Але калі ўдавалася адасобіцца, зачыніць за сабой дзверы і зрабіць так, каб ніхто не перашкаджаў, то я забывала пра ўсё на свеце».

**Фрэнсіс Скот Фіцджэральд** (1896–1940) свой першы раман «Па той бок» пісаў у трэніровачным лагеры на кавалках паперы ў вольны ад службы час. Адслужыўшы, забыўся пра дысцыпліну і стаў ужываць алкаголь як крыніцу натхнення. Да абеду спаў, часам працаваў, ноччу гуляў у барах. Калі здараліся прыступы актыўнасці, мог за адзін падыход напісаць 8000 слоў. Гэтага хапала для вялікага апавядання, але было недастаткова для аповесці. Калі Фіцджэральд пісаў «Ноч пяшчотная», яму з вялікай цяжкасцю ўдавалася быць цвярозым тры-чатыры гадзіны. «Тонкае ўспрыманне і меркаванне падчас рэдагавання несумяшчальныя з выпіўкай», — пісаў Фіцджэральд, прызнаючыся выдаўцу, што алкаголь перашкаджае творчасці.

**Эрнэст Хэмінгуэй** (1899–1961) усё жыццё прачынаўся на світанні. Нават калі напярэдадні ён дапазна піў, паднімаўся не пазней шасці раніцы, адчуваў сябе бадзёра. Працаваў Хэмінгуэй да апоўдня, стоячы каля паліцы. На паліцы стаяла друкарская машынка, на машынцы ляжала драўляная дошка, засланая аркушамі для друку. Калі спісваў алоўкам усе старонкі, ён здымаў дошку і перадрукоўваў тэкст. Кожны дзень ён падлічваў колькасць напісаных слоў і рабіў графік. «Калі заканчваеш, — прызнаваўся пісьменнік, — адчуваеш сябе спустошаным, але не пустым, а зноў запаўняешся, нібы займаўся каханнем з каханым чалавекам».

**Уладзімір Набокаў** (1899–1977) «накідваў» тэксты раманаў на невялікіх картках, якія складваў у доўгую скрынку для каталогаў. Ён запісваў кавалкі тэксту на картках, а потым складваў з фрагментаў старонкі і часткі кнігі. Такім чынам рукапіс і працоўны стол змяшчаліся ў скрынцы. «Лаліту» У. Набокаў пісаў па начах на заднім сядзенні аўтамабіля, мяркуючы, што там няма шуму. Пастарэўшы, У. Набокаў ніколі не працаваў пасля абеду, глядзеў футбольныя матчы, дазваляў сабе келіх віна і паляваў на матылькоў, здаралася, прабягаючы за рэдкім экземплярам да 25 кіламетраў.

**Жорж Сіменон** (1903–1989) лічыцца самым пладавітым пісьменнікам XX-га стагоддзя. На яго рахунку 425 кніг: 200 бульварных раманаў пад псеўданімамі і 220 пад сваім імем. Прычым рэжым Ж. Сіменон не выконваў, працаваў прыступамі па два-тры тыдні, з шасці да дзевяці раніцы, выдаючы па 80 друкаваных старонак. Затым гуляў, піў каву, спаў і глядзеў тэлевізар. Пішучы раман, ён да заканчэння працы насіў адну і тую ж вопратку, падтрымліваў сябе транквілізатарамі і ніколі не правіў напісанае.

**Жан-Поль Сартр** (1905–1980) працаваў тры гадзіны раніцай і тры гадзіны ўвечары. Астатні час займала свецкае жыццё, абеды і вячэры, выпіўка з сябрамі і сяброўкамі, тытунь і наркотыкі. Гэты рэжым давёў філосафа да нервовага знясілення. Замест таго, каб адпачыць, Сартр «падсеў» на карыдран, сумесь амфетаміну і аспірыну, легальны да 1971 года. Замест звычайнай дазоўкі па таблетцы двойчы ў дзень Сартр прымаў дваццаць штук. Першую запіваў моцнай кавай, астатнія павольна жаваў падчас працы. Адна таблетка — адна старонка «Крытыкі дыялектычнага розуму». Паводле сведчанняў біёграфа, у штодзённае меню Сартра ўваходзілі два пачкі цыгарэт, некалькі трубак чорнага тытуню, больш літра алкаголю, уключаючы гарэлку і віскі, 200 міліграмаў амфетаміну, барбітураты, чай, кава і тлустая ежа.

**Харукі Муракамі** (нарадзіўся ў 1949 г.) устае ў чатыры раніцы і піша шэсць гадзін запар. Пасля працы бегае, плавае, чытае, слухае музыку. У дзевяць вечара — «адбой». Х. Муракамі мяркуе, што паўтаральны рэжым дапамагае яму пагрузіцца ў транс, карысны для творчасці. Калісьці ён вёў сядзячы лад жыцця, набіраў вагу і курыў па тры пачкі цыгарэт у дзень. Потым пераехаў у вёску, стаў харчавацца рыбай і гароднінай, паліць кінуў і больш за 25 гадоў займаецца бегам. Адзіны недахоп — адсутнасць зносін. Каб выконваць рэжым, Х. Муракамі адмаўляецца ад усіх запрашэнняў, і сябры крыўдзяцца. «Чытачам усё роўна, які ў мяне рэжым дня, — адзначыў ён, — абы чарговая кніга стала лепш папярэдняй».

**Паводле telegraf.com.ua**

# У палоне далоняў



Таццяна НЯДБАЙ

***

*Вось бывае так —*
*знаёмішся з нейкім хлопцам,*
*Балбатня нязмушаная,*
*лёгка і весела так,*
*Скайп-кантактамі абмяняліся,*
*выбралі опцыю*
*«Пасябраваць» на фэйсбуку,*
*колькі смайлікаў у лістах.*

*Далей — перадышка на працы*
*й супольная кава ў онлайне*
*З парай показак і цытат —*
*копі-пэйст, гіперлінк, інтэрнэт,*
*Нічога прыватнага і асабістага.*
*А віртуальны лайнер*
*Вас пасля вяртае — кожнага*
*да сваіх планет.*

*Магчыма, вы нават пашчыруеце*
*неяк увечары —*
*Яму заўтра да бацькі ехаць у вёску,*
*перакапаць агарод.*
*І сярод гэтых размоваў ты ўявіш сябе*
*з ім у вечнасці,*
*Уявіш вочы дзяцей і ўнукаў,*
*якія працягнуць ваш род.*

*І ловіш сябе на думцы —*
*мамы ў яго ўжо няма, акей, хаця*
*Ёсць агарод — трэба будзе*
*палоць памідоры,*
*Дом пад Мінскам — гэта, вядома,*
*з плюсаў, але вырашаеш: працяг*
*Немагчымы, бо іншыя ў цябе планы —*
*жыць ля мора.*

*А з ім — проста добра перакінуцца*
*цёплымі словамі,*
*Пазычыць салодкіх сноў і пачуць,*
*што ты прыгожая.*
*Бо вы разам з ім да паловы начы,*
*нібы да жыцця паловы,*
*Заседзеліся, дык кожны*
*расчуліцца можа.*

*А ён жа — зусім не той, ты кажаш сабе,*
*зусім не такі —*
*Порткі з трыма палоскамі,*
*памідоры з дзядоўнікам, трункі*
*Такія, што ты не п'еш. Ты б не ўзяла.*
*А возьмеш — кінь.*
*Але — бялізну пайшла і выбрала ў краме —*
*з карункамі.*

*Пасля зазірнеш да яго ў фэйсбук,*
*а там нейкая краля — Лера.*
*Не сястра нібы, не пляменніца, і —*
*па фотцы — нічога ў ёй асаблівага.*
*А ён ужо з паўгадзіны онлайн*
*і табе не піша нічога, халера,*
*А ты ўжо з паўгадзіны глядзіш*
*на статус, і думаеш — блін!*

*Ну і ладна! Няхай яна й мые*
*яму посуд, гатуе абеды,*
*Пад дзядоўнікам памідоры гадуе,*
*глядзіць старога,*
*І ты зараз яму сама напішаш,*
*каб ён проста ведаў,*
*Што ты ўсё адно не пусціла б яго*
*далей парога,*
*Што цябе дастала гэтая бытавуха,*
*што ён злыдзень,*
*Паматросіў і кінуў, а ты дзеля яго —*
*эпіляцыю воскам.*
*І што з таго, што ты з ім знаёмая*
*ўсяго тыдзень —*
*З хлопцам, які носіць порткі*
*з трыма палоскамі.*

***

*прачынацца і*
*выкарчоўваць сэрца*

*свайго бліжняга*
*ненавідзець лішняга*
*як костачкі з вішняў*
*вымаць пальцамі*

*дзёрзкімі словамі*
*цягучымі смоламі*
*ляжаць голымі*
*выпадковымі пастаяльцамі*

*не джэкпотаў прага*
*не букмекерская смага*
*ні жар-птушкі, ні магаў*
*ні цудаў хачу чароўных-наваражаных*

*ад жыцця — жыцця*
*гаючага пачуцця*
*а нібы няўцям*
*як яшчэ бывае як можам мы*

*прачынацца ў палоне*
*мяккіх далоняў*
*пахкіх півоняў*
*водары яблыкаў з уласнага саду*

*як ядвабных пялёсткаў*
*пацалункаў порсткіх*
*і каб дажджы касыя хлёсткія*
*асеннія а мы ў цеплыню ложка*
*пáдаем*
*каб свяціў маяк*
*каб было як*
*расціснуць кулак*
*і расказваць сны*
*прачнуўшыся на світанні*

*каб штарміла мора*
*й адганяла ворагаў*
*а не нас у мораку*
*смугой ледзяной вітала*

***

*так пахла ліпамі з усіх гарадскіх двароў,*
*масты, як коткі, свае выгіналі спіны,*
*прымружвалі вочы салодка пад ліхтароў*
*паглядамі дзіўнымі,*

*і мы кахаліся на даху, як галубы,*
*ды мы ўсміхаліся пілотам аэрапланаў,*
*бясстрашным вікінгам ты ўвайшоў сюды,*
*каханы,*

*і столькі радасці прыносіў твой кожны рух,*
*хавала ад шчасця слёзы ў тваіх далонях,*
*і ў смаках вуснаў, цела, рук*
*і ўлоння,*

*і мы засыналі адным на дваіх сном,*
*на адной хвалі ўлюбёнай FM*
*з джэм-сэйшнамі,*
*так пахне астрамі цяпер за маім вакном,*
*а табой ад мяне пахне па-ранейшаму*

***

*Цёмныя бяссонныя вулкі*
*Дзе золата становіцца меддзю*
*Бадзяюся ў пошуку прытулкаў*
*Пакуль ты да мяне не едзеш*
*Патанаю кусаючы вусны*
*У сполахах успамінаў цела*
*Дзе табе да валасоў русых*
*Прытуліцца шчакой карцела*

# Замок без ключа



Алесь ЗАМКОЎСКІ

***

*я збіраю ранішні дождж*
*у вушныя ракавіны*
*у дрыготкі кубак далоняў*
*у зрэнкі і бельмы*
*на валасах кроплі робяцца салодкімі*
*на вуснах салёнымі*
*горкімі на языку*
*– дзе ты? — я на небе.*
*на нямытым шкле*
*пальцам без імені*
*выкрэсліваю непатрэбныя літары*
*першую за другой*
*другую за трэцяй*
*ніводная літара не патрэбна*
*– дзе ты? — я між аблокамі.*
*дождж патанае ў пяску*
*дождж перапаўзае ад сэрца да сэрца*
*дождж яднае камяні*
*дасылае цёплыя лісты*
*па адрасе да запатрабавання*
*– дзе ты? — я ў сезоне дажджоў.*
*усё набрыняла*
*усе зліліся*
*усе нарадзіліся*
*усё расце*

***

*зямля выціскае на свет камяні.*
*адзін. другі. трэці.*
*вяртае нам косткі, успаміны, подыхі.*
*усё, ад чаго мы жадаем пазбавіцца,*
*усё, да чаго нас цягне мацней.*
*зямля спакушае далучыцца да згубленага.*
*крычыць уночы і плача ўдзень.*
*і штохвіліну стогне.*
*зямля вырашае,*
*калі нам (прый/сы)сці,*
*і ставіць пячатку альфы-амегі*
*ў самым нязручным месцы.*
*зямля выкідае на мокры*
*заходнедзвінскі бераг замок.*
*памаранчавы.*
*іржавы.*
*без ключа.*
*дакранацца да яго не мае сэнсу:*
*не ажыве.*

***

*што змянялася з таго часу,*
*як ты стаў*
*дарослым?*
*у занядбаным двары састарэлага дома*
*тыя ж бруднатварыя калюжыны.*
*дзікунскія песні ссохлых катоў*
*грукочуць у нямытыя*
*нават перад Вялікаднем*
*шыбы.*
*рыпяць іржавыя ад людзей арэлі.*
*як жа бязлітасна знаёма*
*рыпяць арэлі!*
*у пад'ездзе не паменшала*
*сабачых слядоў,*
*суседскай крыві і вантробаў,*
*жоўтых безнадзейных лямпачак.*
*у бацькоўскай кватэры*
*гэтак жа*
*жывуць*
*бацькі.*
*я далёка з форткі выцягваю шыю.*
*пазіраю ўніз.*
*там выраслі дрэвы.*
*вялізнымі лапамі ахінулі*
*мінулае дзяцінства,*
*сённяшнюю сталасць.*
*змрок запанаваў у двары.*
*цемра перамяшалася*
*з пяшчотай.*
*лесвіца выпрабоўвае прыступкамі*
*зламаная*
*трэснутая*
*зледзянелая*
*лесвіца тужыць па моцных нагах*
*тонкая*
*слізкая*
*мяккая*
*лесвіца марыць пра ўзнёсласць*
*пагарэлая*
*вільготная*
*заквітнелая*
*лесвіца імкнецца да неба*
*мы жывём у адвечным страху любові*
*ні вуснамі ні далонямі*
*не дакранаемся да прыступак*
*толькі крочым у адваротны бок*
*ад неба*
*тры*
*два*
*адзін*

***

*знешні свет мулка нагадвае пра сябе*
*наўмысна*
*смяцяр таўчэ ломам і голасам*
*лёд*
*містар лёс*
*выцягвае з глыбокай кішэні*
*пакоцаны лот*
*мой лот*
*павольна выцягвае з асалодай*
*галінкі таполі падаюць адна на адну*
*мне кажуць*
*глядзі атрымалася купальскае вогнішча*
*ды не ды не*
*тут спаляць дзяцей чумы і халеры*
*пахрышчаных блаславёных*
*і мяне з імі разам*
*і з маіх літар складуць ружанцы*
*латарэя не дазваляе ўваскрэснуць шанцу*
*Госпадзе*
*змілуйся*
*змілуйся*
*Госпадзе*

***

*расціснуты па перыметры прасторы*
*выходзіш на вуліцу*
*і адразу*
*у той жа замацаваны лёсам момант*
*атрымліваеш бамперам гожай тачкі*
*па левай нырцы*
*кіроўца*
*увесь у выбачэннях кідаецца да цябе*
*адрынутага*
*і робіцца моташна праз тое*
*як ён п'яны і з бруднымі рукамі*
*невыносна настойліва імкнецца заціснуць*
*у твой страўнік пабітыя вантробы*
*а разам з імі ўвесь духоўны свет*
*ці то свой а можа выпадковага мінака*
*дзякуеш кіроўцу даеш яму на піва*
*а сам*
*а сам узрадаваны чарговым*
*бессэнсоўным выпадкам шчасця*
*скіроўваешся ў традыцыйную чарачную*
*каб аддаць гарачы летні дзень*
*паганскаму жаданаму бахусу*
*і выпаўзці з-пад стойкі толькі ўвечары*
*калі няма ні спёкі*
*ні надакучлівых натоўпаў*
*выключна кавалак старога асфальту*
*дзе яшчэ чарнеюць плямы тваёй крыві*

***

*задаволенае ў часе цела*
*ляжыць у чаканні снегу*
*сэрца выкацілася з грудзей*
*ляжыць недалёка*
*стварае нацюрморт*
*на крывой ручцы рытмічна*
*сціскаюцца пальцы*
*раз-раз два-два восем-восем*
*мацнее жаданне паклікаць*
*холад голад і немач*
*але не магчыма бо няма чым*
*няма галавы*
*галаву пазычыў вецер*
*валачэ яе па праспекце*
*невядомай перамогі*
*калі надакучыць кіне ў завулку*
*міргаць пачырванелымі вачыма*
*а цела ў снежні ўзнімаецца само*
*бясследна пойдзе*
*у адваротны бок*

# Змагарны 1863-ці

Уладзімір АРЛОЎ

**Нацыянальна-вызвольнае паўстанне Кастуся Каліноўскага — адна з самых важных падзеяў беларускай гісторыі. Расейскія гісторыкі, а таксама ўсе, хто не хоча бачыць нашу краіну незалежнай, заўсёды называюць паўстанне 1863 года «польскім». Але ж многія гісторыкі Польшчы ўжо даўно зрабілі выснову, што Каліноўскі не быў палякам, а збройнае змаганне на нашых землях было не польскім, а беларускім, бо ў ім бралі ўдзел паўстанцы-беларусы, якімі камандавалі таксама беларусы. Ваяры Тадэвуша Касцюшкі і змагары 1831 года імкнуліся аднавіць Вялікае Княства Літоўскае і Рэч Паспалітую. Каліноўскі і ягоныя аднадумцы змагаліся ўжо за самастойную Беларусь. Адным з іхніх пароляў былі знойдзеныя ў архіўных дакументах словы «Каго любіш? — Люблю Беларусь! — Так узаемна!». Няпраўда і тое, што супроць расейскіх каланізатараў выступілі адны каталікі. У шэрагах паўстанцаў было шмат праваслаўных беларусаў. У паўстанні ўдзельнічалі беларускія паэты Францішак Багушэвіч, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Фелікс Тапчэўскі. Паўстанне Каліноўскага сталася першым крокам да будучай незалежнасці Беларусі.**

## Да зброі!

Паўстанне добра падрыхтавала арганізацыя адданых сваёй справе патрыётаў на чале з Каліноўскім. У кожным павеце яны мелі надзейных людзей, прызначаных вайсковымі і грамадзянскімі начальнікамі. Былі падабраныя асобы, якія сталі баявым ядром паўстанцкіх аддзелаў. Камандзірамі абіралі тых, хто меў добры вайсковы досвед, найперш былых афіцэраў. Былі створаныя запасы зброі і боепрыпасаў. Змагары ўмела захоўвалі таямніцы. Самі ж расейскія ўлады прызналі потым: яны і не падазравалі, што край выбухне магутным паўстаннем.

Збройная барацьба на беларускім абшары разгарнулася ўжо ў канцы студзеня 1863 года. Паўстанцы атакавалі царскі гарнізон у мястэчку Сураж пад Беластокам. Рота расейскіх войскаў адступіла, не здолеўшы абараніць свой арсенал. Нашы ваяры захапілі шмат зброі, спынілі рух на чыгунцы і перарэзалі тэлеграфную лінію. Расейскі тэлеграфіст яшчэ паспеў адправіць панічную тэлеграму, што ў Сураж увайшла тысяча «мяцежнікаў».

Вялікія паўстанцкія сілы на некалькі сотняў шабляў, стрэльбаў і сялянскіх косаў, якія таксама ператвараліся ў грозную зброю, сабраліся ў мястэчку Сямяцічы Бельскага павета. Інструктары навучалі добраахвотнікаў вайсковай справе. Ішла нарыхтоўка харчу і зброі. Напалохаваныя царскія ўлады кінулі на патрыётаў паўтары тысячы пяхотнікаў, казацкі эскадрон і артылерыйскую батарэю. Першы штурм ворагаў паўстанцы адбілі, але мусілі з баямі адступіць. Помсцячы жыхарам Сямяцічаў за падтрымку змагароў, карнікі спалілі большую частку мястэчка.

У лютым каліноўцы занялі мястэчка Шарашова, а затым — Пружаны, дзе вызвалілі з турмы зняволеных паплечнікаў. Сакавік-красавік стаў часам хуткага стварэння паўстанцкіх аддзелаў ва ўсіх губернях. Часовы ўрад Літвы-Беларусі паставіў заданне, каб у кожным павеце за зброю ўзяліся 100–150 змагароў. У паўстанцкія шэрагі ўступалі шляхта, чыноўнікі, студэнты і навучэнцы, патрыятычна настроеныя афіцэры расейскага войска. Пятую частку змагароў складалі сяляне, што адгукнуліся на заклік Каліноўскага, надрукаваны ў «Мужыцкай праўдзе». Яны сталі касінерамі — ваярамі, узброенымі вертыкальна насаджанымі на касільны косамі. Бясстрашныя касінеры наводзілі на ворагаў жах і дапамагалі паплечнікам здабыць перамогу.

На Лідчыне паспяхова ваявалі з расейскімі карнікамі змагары Людвіка Нарбута. Чатыры сотні паўстанцаў налічваў аддзел вайсковага начальніка Гарадзенскага ваяводства Валера Урублеўскага. Ён не раз даваў годны адпор царскім войскам, хоць нашы ваяры на пачатку мелі ўсяго 230 паляўнічых стрэльбаў і сто косаў, а сёй-той наогул быў узброены дубінай. Пад камандаю Зыгмунта Серакоўскага на Ковеншчыне ваявала цэлае двухтысячнае злучэнне. З баямі дайшоў з Берасцейшчыны да Слуцкага павета аддзел Рамана Рагінскага. Пад Барысавам паўстанцы ўзялі ў палон расейскага генерала.

У Кобрынскім павеце геройчна адбівалі наступы расейцаў падначаленыя Рамуальда Траўгута. Начальнік Магілёўскага ваяводства Людвік Звяждоўскі ў траўні заняў на ўсходзе Беларусі горад Горы-Горкі. Змагароў падтрымалі студэнты тамтэйшага земляробчага інстытута і павятовай вучэльні. «Ліцьвінскай кавалерыяй» на Гарадзеншчыне камандаваў Казімір Кабылінскі. Ён далучыўся да паўстання разам з трыма сынамі і ўдзельнічаў да сваёй геройчнай гібелі ў дваццаці баях.

Самааддана кіравалі паўстанцкім рухам Цітус Далеўскі, Генрык Дмахоўскі, Антон Трусаў, Тамаш Грыневіч, Фелікс Віславух, Юльян Бакшанскі, Лявон Плятэр, Баляслаў Святарэцкі, Ігнат Будзіловіч, Атон Грабніцкі, Вінцэнт Козел-Паклеўскі, Баляслаў Калышка, Францішак Юндзіл і дзясяткі іхніх баявых пабрацімаў.

Баі і сутычкі з расейскімі войскамі адбываліся на ўсім абшары краю.

## Рэйкавая вайна

Надзвычай цікавая старонка паўстання — рэйкавая вайна. У гады Другой сусветнай вайны такую вайну вялі супроць нямецкіх акупантаў беларускія партызаны. Не менш геройчна дзейнічалі на нешматлікіх тады яшчэ, праўда, чыгунках нашыя змагары ў 1863-м.

На самым пачатку збройнай барацьбы ў руках паўстанцаў апынулася частка чыгуначнага шляху, што вёў з Варшавы да Беластока. На станцыю Лапы прыйшоў цэлы цягнік з падмогаю нашым ваярам. Праз некалькі студзеньскіх дзён яшчэ адзін паўстанцкі аддзел таксама на Беласточчыне заняў станцыю Чыжэва. Інжынер-чыгуначнік, які перайшоў на бок паўстанцаў, перадаў камандзіру каштоўныя звесткі пра рух цягнікоў і разабраў станцыйны тэлеграфны апарат. У выніку рух паміж Варшавай і Пецярбургам быў спынены на цэлы тыдзень.

У першыя дні сакавіка каліноўцы адважна напалі на чыгуначны вакзал у Горадні і захапілі ў царскага начальства 10 тысяч рублёў, неабходных на набыццё зброі. Пасля перастрэлкі частка нашых ваяроў здолела пакінуць горад на паравозе. На станцыі Парэчча пад Горадняй да паўстанцаў далучыліся пятнаццаць чыгуначных службоўцаў і рабочых.

Калі расейскія ўлады пачалі перакідваць чыгункаю карныя войскі, паўстанцы абстрэльвалі і спынялі цягнікі на лясных перагонах, псавалі лакаматывы, палілі масты. Яны ссякалі тэлеграфныя слупы, разбіралі рэйкі.

У красавіку па ўсім краі разнеслася вестка пра тое, як каліноўцы пусцілі пад адхон царскі цягнік паблізу Чыжэва. Пра назву гэтай беларускай станцыі хутка даведаліся чытачы французскіх газет, дзе з'явіліся малюнкі паспяховай атакі на непрыяцельскі цягнік. Еўрапейская прэса наогул шмат пісала пра паўстанне, змяшчаючы ілюстрацыі пра баявыя дзеянні змагароў.

Царскія ўлады мусілі скараціць перавозкі, а начны рух пасажырскіх цягнікоў паміж Варшавай і Вільняй наогул быў адменены. Буйныя станцыі ахоўвалі цэлыя палкі салдатаў. Улетку выйшаў загад: дзеля абароны чыгункі высякаць пабапал яе лясы па 150 сажняў ( 320 метраў) з кожнага боку, а вакол станцый — па 300 сажняў на ўсе бакі. Усе цягнікі ахоўваў канвой не меней за роту салдат.

Каліноўцы не давалі спакою каланізатарам на чыгунках да самай восені 1863 года.

## Банольдзі, Сокалаў, Базанаў

Там, дзе змагаюцца за волю, пад сцягі барацьбітоў заўсёды становяцца і людзі іншых нацыянальнасцяў. Так было і ў векапомным 1863-м. Поплеч з нашымі прадзедамі ў Літве-Беларусі ваявалі палякі, украінцы, расейцы, латышы, патрыёты з заходнееўрапейскіх краінаў.

У Літоўскі камітэт, што рыхтаваў паўстанне, уваходзіў выхаванец Лазанскага ўніверсітэта таленавіты спявак і танцмайстар італьянец Ахіл Банольдзі. Апынуўшыся воляю лёсу ў Вільні, ён хутка стаў ліцьвінам па духу, цудоўна спяваў беларускія народныя песні. Перад паўстаннем на перамовах у Польшчы Банольдзі адстойваў самастойнасць земляў Вялікага Княства Літоўскага і права яго народаў на будучае, незалежнае ад Варшавы дзяржаўнае жыццё. У заснаванай Ахілам фотамайстэрні рыхтаваліся патрэбныя каліноўцам дакументы. Найбольш вядомы нам фотапартрэт Кастуся Каліноўскага зроблены якраз Ахілам Банольдзі.

Італія была радзімаю продкаў іншага знакамітага паўстанца — мастака Міхала Андрыёлі. Ён ваяваў у аддзеле Людвіка Нарбута і ў сваіх малюнках пакінуў сапраўдны летапіс змагання. Андрыёлі добра вядомы сёння і сваімі таленавітымі ілюстрацыямі да паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш».

У паўстанні загінуў афіцэр расейскай арміі украінец Андрэй Патабня. Ён быў выхаванцам Полацкага кадэцкага корпуса і пад уплывам сяброў — ліцьвінскіх патрыётаў — стаў пераканаым ворагам цара і расейскіх каланізатараў.

Дваццацігадовы юнак Апалон Сокалаў прыехаў вучыцца ў Горы-Горацкі земляробчы інстытут з глыбіні Расеі. Калі Горкі занялі паўстанцы Людвіка Звяждоўскага, Апалон быў сярод некалькіх дзясяткаў студэнтаў, якія далучыліся да змагароў. Ён заставаўся са сваім камандзірам да самага моманту вымушанага роспуску аддзела і пастановы па адным прабівацца з акружэння на захад.

Агентам Віленскага паўстанцкага камітэта стаў расеец Дзмітрый Базанаў. Ён займаў пасаду пісара ў Троцкім павеце. У паперах царскай следчай камісіі адзначалася, што Базанаў меў незвычайную дзёрзкасць і энергію і адпраўляў «бунтаўнікам» вялікія партыі зброі.

Сокалава, Базанава ды іхніх суайчыннікаў-расейцаў царскі суд караў — параўнаўча з даўнімі жыхарамі нашага краю — больш жорстка. Апалона пазбавілі дваранства і маёмасці ды асудзілі на дванаццаць гадоў катаржнай працы ў сібірскіх капальнях, дзе і згасла ягонае нядоўгае жыццё.

Захаваліся звесткі пра тое, што ў палон да расейскіх карнікаў трапіла некалькі параненых чарнаскурых паўстанцаў-мурынаў (неграў). Сярод змагароў былі таксама вольналюбныя сыны вугорскага народа. Нашы паўстанцы-катаржане пакінулі ва ўспамінах сведчанні, што разам з імі ў Сібіры мужна адбывалі цяжкае пакаранне іхнія таварышы па зброі — французы.

Кажуць, што Айчыну не выбіраюць. Але кожны можа выбраць свабоду.

## Маці, жонкі, каханыя

«Якая маці, сястра, жонка, сяброўка, каханая, дачка не знойдзе шляху да сэрца мужчыны, што яе любіць? Натхніце ж іх! Запаліце агнём! Спыніце свае забавы і дарагія задавальненні. Айчына патрабуе помсты і малітваў, ахвяраванняў на зброю і на справу паўстання». Гэтыя словы гучалі ў паўстанцкай адозве «Ліцьвінкі і Русінкі!». Але і без гарачых заклікаў жанчыны дапамагалі, як маглі, каліноўцам.

Дакументы, складзеныя расейскімі следчымі, паведамлюць, што яшчэ перад паўстаннем многія жанчыны нашага краю насілі «рэвалюцыйныя знакі і адзенне» і спявалі забароненыя патрыятычныя песні ды гімны. Такія спевы шмат разоў гучалі ў Менскім катэдральным касцёле Дзевы Марыі, у храмах Навагрудка, Мазыра, Пінска, Рэчыцы, па ўсім абшары былога Вялікага Княства Літоўскага. Існавалі цэлыя вандроўныя групы жанчын-запявалаў, якія пасля набажэнстваў распачыналі сапраўдныя канцэрты з забароненых каланізатарамі песняў. Вядома, што за гэтае «злачынства» былі пакараныя спявачкі Вітольда Гувальт, Аліна Белавежская і дзясяткі яе аднадумніц з Гомельскага павета.

На знак салідарнасці з паўстанцамі і жалобы па палеглых змагарах шляхцянкі насілі вопратку, капелюшыкі і парасоны чорнага, белага і фіялетавага колераў. Раз'ятраныя расейскія ўлады забаранілі любыя жалобныя знакі і абкладалі непаслухмяных жанчын вялікімі штрафамі. Шляхцянку Амалію Лашкевіч абвінавацілі ў тым, што яна пашыла сабе нацыянальны ўбор і фіранкі непажаданых белага і чырвонага колераў. Марыю Ульянаўскую судзілі за «крамольныя» песні і за частаванне ў дзень свайго нараджэння сялян-уніятаў, якія адмаўляліся прымаць праваслаўную веру.

Царскім служкам не падабалася ўжо тое, што дзяўчаты і кабеты «асаблівым чынам падстрыгалі сабе валасы». У Кацярыны Шалюты адабралі ўсю маёмасць за распаўсюд антыўрадавых вершаў і ўлётак. Шляхцянка Ванда Беліковіч (родам з Віцебскай губерні) паклала ў труну мужу-паўстанцу сваё фота і была за гэта пакараная штрафам на 300 рублёў (столькі атрымліваў за год наглядчык у расейскай турме).

У час паўстання жанчыны-ліцьвінкі былі кур'еркамі, выведніцамі, захоўвалі зброю і порах, забяспечвалі нашых ваяроў харчам. За такую дзейнасць у турму кінулі Алімпіяду Каплінскую з Барысаўскага павета і Юлляну Алендскую з Сенненскага, а Ізабелу Цеханавецкую царскі суд у Магілёве пастанавіў выслаць у Варонежскую губерню. Адважнай сувязной стала ў 1863-м пляменніца мастака Напалеона Орды і сама таленавітая мастачка Алена Скірмунт. Царскі суд пастанавіў разлучыць яе з мужам і дзецьмі і выслаць у далёкі расейскі Тамбоў.

Працяг на стар. 12 (6) »

# Змагарны 1863-ці

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 11 (5)

Нашы мужныя жанчыны былі сёстрамі міласэрнасці ў паўстанцкіх шпіталях, давалі прытулак параненым каліноўцам. Яны наймаліся на працу ў царскія турмы, дзе разносілі ежу, мылі зняволеным паўстанцам бялізну, падтрымлівалі іхні дух размовамі. Нарачоная Каліноўскага Марыя Ямант з сёстрамі стварыла ў Вільні жаночы камітэт. Ён браў пад апеку паўстанцкія сем'і і саміх зняволеных змагароў, якім перадавалі лісты і прадукты. Такія камітэты існавалі і ў іншых губернскіх гарадах.

Будучая знакамітая пісьменніца Эліза Ажэшка хавала генерала Рамуальда Траўгута, якога пазней пад выглядам сваяка вынаходліва перапраліла ў Варшаву.


Міхаіл Мураўёў у Літве. Пакаранне паўстанцаў на шыбеніцах

### Каміла Марцінкевіч

Дачка беларускага пісьменніка Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча — Каміла — яшчэ ў дзяцінстве здзіўляла ўсіх бліскучымі музычнымі здольнасцямі. Яна цудоўна спявала і грала на піяніна. З васьмі гадоў Каміла ўжо давала канцэрты ў Менску, Вільні, Кіеве, Варшаве. У праграме была музыка яе ўлюбёных кампазітараў Фрыдэрыка Шапэна і Ферэнца Ліста ды ўласныя творы. Дзяўчына мела і акторскі талент. Яна выходзіла на сцэну ў менскай пастаноўцы славутай оперы «Сялянка», музыку да якой напісаў Станіслаў Манюшка, а лібрэта (тэкст) — бацька Камілы.

Але сябры і аднадумцы ведалі і іншую Камілу. У яе дома праводзіла сходы менская арганізацыя Літоўскага камітэта, што займалася падрыхтоўкай паўстання. У 1861 годзе паліцыя высачыла патрыётку. За ўдзел у вулічных дэманстрацыях і навучанне менчукоў рэвалюцыйным гімнам Камілу змясцілі ў вар'ятню. «Хваробаю» палічылі любоў да Айчыны ды мары наблізіць яе вызваленне ад расейскага ярма. Жыхары горада шматлюдна пратэставалі каля сцэнаў ператворанай у турму лякарні. Зняволенай штодня прыносілі жывыя кветкі, для яе спявалі песні. Каб спыніць гэтыя пратэсты, царскія ўлады вымушаны былі вызваліць «хворую».

На пачатку змагарнага 1863-га Камілу зноў арыштавалі. Падставай стаў данос расейскага салдата, да якога яна звярнулася з прапановаю прадаць зброю. Патрыётку трымалі ў турэмным Пішчалаўскім замку і ў былым кляштары бернардзінаў. Там Каміла Марцінкевіч атрымлівала лісты з прызнаннямі ў каханні ад аднаго з кіраўнікоў менскіх паўстанцаў Караля Станкевіча, які таксама трапіў за краты.

Каміла ўражвала катаў сваім непахісным духам. Калі паўстанца Яна Жмачынскага вялі на смяротнае пакаранне, дзяўчына з вакна сваёй камеры кінула яму пад ногі букет кветак. Царскія ўлады на 25 гадоў выслалі Камілу пад паліцэйскі нагляд у расейскі горад Салікамск. Яна змагла вярнуцца на радзіму толькі праз дваццаць гадоў, калі цяжка і невылечна захварэла.

### Верная Апалонія

Адданай паплечніцай Зыгмунта Серакоўскага стала ягоная жонка Апалонія. Яе называлі «першай прыгажуняй на Літве». Апалонія паходзіла з роду Далеўскіх, які даў паўстанню трох кіраўнікоў.

Пасля смерці мужа на сустрэчы з віленскім генерал-губернатарам Мураўёвым, які вызначаўся неверагоднай жорсткасцю ў расправах з паўстанцамі, Апалонія прасіла не асуджаць яе на выгнанне з роднага краю. Яна спасылалася на кепскае здароўе і сваю цяжарнасць. На словы жонкі Серакоўскага, што на далёкай чужыне яна не зможа знайсці для сябе і дзіцяці добрых дактароў, Мураўёў адказаў: «Тым лепей». Народжаную ўжо ў царскай высылцы дачушку Апалонія назвала ў гонар мужа Зыгмунтай. Малая пражыла ўсяго адзін год.

Апалонія Серакоўская пакінула нашчадкам успаміны пра той незабыўны час. Яны поўныя горычы і смутку, але таксама і найцікавейшых дэталяў, што дазваляюць аднавіць шматлікія падзеі паўстання і стварыць партрэты яго герояў. Нельга без хвалявання чытаць, як паўстанцы прыслалі ў Вільню да Апалоніі свайго пасыльнага з просьбаю перадаць частку кашулі Зыгмунта, у якой ён быў паранены і паланёны. Баявыя паплечнікі, што бязмежна любілі свайго камандзіра, абяцалі падзяліць тканіну на часткі і разаслаць па змагарскіх аддзелах. Тыя ядвабныя, шэрыя ў чорную кратку кавалачкі кашулі натхнялі паўстанцаў разам з баявымі сцягамі.

Аўтарка ўспамінаў перакананўча даводзіць, што паўстанне ў Літве-Беларусі не было польскім. Серакоўская згадвае, напрыклад, паўстанцкі сход, дзе адзін з камандзіраў — Уладзіслаў Малахоўскі — палымяна выступіў супроць варшаўскай апекі: «Досыць нам гэтай залежнай ролі! Варшава не разумее нашых патрэбаў! Павінны самі ра́дзіць сабе пра дабро сваёй зямлі. Польскі камісар мае толькі дарадчы голас!».

### Юныя змагары

У шэрагах паўстанцаў 1863-га былі і падлеткі. Ім не дазвялялася ўдзельнічаць у баях, але юныя патрыёты ўсяляк дапамагалі старэйшым таварышам: падтрымлівалі сувязь паміж аддзеламі, дастаўлялі звесткі пра перасоўванне і ўзбраенне карнікаў. Звычайна апранутыя па-сялянску хлапчукі ўдала спраўляліся з заданнямі там, дзе дарослыя выведнікі маглі лёгка трапіць на падазрэнне.

Адным з такіх юных змагароў быў дванаццацігадовы Стась Віткевіч. Хлопчык меў выдатную памяць і мастацкія здольнасці. Ён мог не толькі запомніць колькасць варожых салдат і афіцэраў, але і намаляваць іхні лагер, за што шмат разоў атрымліваў падзяку ад камандзіраў перад паўстанцкім шыхтом.

Сям'ю Віткевічаў разам са Стасем выслалі з родных мясцінаў у сібірскі Томск. Праз дваццаць гадоў Станіслаў стаў вядомым мастаком і выразшы перанесці незабыўныя ўражанні юных гадоў на карціны. На іх сапраўды яскрава ажываюць падзеі і героі таго змагарнага часу. Цяпер у Нацыянальным музеі ў Варшаве можна ўбачыць самы знакаміты твор Віткевіча «Паранены паўстанец». Знаёмы мастака сорак гадоў хаваў гэтую карціну, каб яна не трапіла ў рукі расейскіх уладаў. Вядома, што ёю захапляўся славуты польскі пісьменнік Генрык Сянкевіч.

Магілёўскага падлетка-паўстанца Аляксея Вайніловіча царская суддзі адправілі ў высылку, калі той меў усяго чатырнаццаць гадоў. У Сібір ён ішоў пад канвоем у адной калоне з дарослымі высланцамі. Нягледзячы на пакуты, Аляксей вёў дзённік, дзе пакінуў апісанні і малюнкі таго пякельна цяжкога шляху. Напрыклад, у Маскве, каб запалохаць арыштантаў, ім паказалі клетку, дзе калісьці ў дзесяцікілаграмовых нажных кайданах трымалі перад пакараннем смерцю правадыра сялянскай вайны ў Расеі Емяльяна Пугачова. Цяпер дзённік юнага змагара захоўваецца ў Гарадзенскім гістарычна-археалагічным музеі.

### Мілавіды

На абшары былога Вялікага Княства Літоўскага каліноўцы правялі з царскай арміяй 237 баёў і баявых сутычак. Найбольшая паспяховая бітва адбылася 3 чэрвеня пад вёскай Мілавіды Слонімскага павета (цяпер Баранавіцкі раён). Там злучыліся пяць паўстанцкіх аддзелаў: слонімскі, ваўкавыскі, гарадзенскі, навагрудскі і пружанскі. Імі камандавалі Францішак Юндзіл, Густаў Стравінскі, Аляксандр Лянкевіч, Вітаўт Міладоўскі і Фелікс Улодак. Узначаліў агульныя сілы з 800 ваяроў былы падпалкоўнік царскай арміі вайсковы начальнік Гарадзенскага павета Аляксандр Лянкевіч, які атрымаў за гераізм у баях з карнікамі званне палкоўніка. У ягоным аддзеле разам са шляхтай ваявала больш за сотню пераважна праваслаўных сялянаў.

Паўстанцы сталі ўмацаваным вайсковым лагерам каля шашы Берасце–Бабруйск. Напярэдадні бітвы паплечнікаў па зброі наведаў і выступіў перад імі Кастусь Каліноўскі. Бой з нашымі ваярамі распачалі прыкладна столькі ж карнікаў, але яны былі непараўнальна лепей узброеныя і мелі чатыры гарматы. Бітва з пераменным поспехам доўжылася дзевяць гадзін. Варожыя атакі з розных бакоў гераічна адбівалі і шляхта, і сяляне-касінеры на чале з Янам Ельскім і ксяндзом Феліцыянам Лашкевічам. Захаваліся звесткі, што ў бітве ўдзельнічалі мастак Міхал Андрыёлі і будучы паэт Францішак Багушэвіч.

На змярканні расейцы не наважыліся працягваць бой і адышлі, страціўшы 50 салдат і афіцэраў забітымі ды паранеными. Тым часам да непрыяцеля падышло яшчэ чатыры сотні вайскоўцаў. Аднак калі раніцой ворагі аднавілі атакі, яны ў разгубленасці ўбачылі ўперадзе пакінуты лагер. Уначы паўстанцы зладжана адышлі, але, паколькі поле бою засталося за імі, яны і сталі пераможцамі.

Сёння пра тую перамогу нагадваюць пад Мілавідамі капліца-помнік і два мемарыяльныя камяні з партрэтам Каліноўскага ды імёнамі паўстанцкіх камандзіраў. Каля іх заўсёды кветкі.

### Няроўныя сілы

Супроць паўстанцаў дзейнічала амаль 150-тысячная вымуштраваная армія карнікаў: войскі, загартаваныя ў захопніцкіх царскіх войнах, а таксама паліцыя, батальёны ўнутранай варты ды іншыя, сцягнутыя для змагання з «мяцежнікамі», сілы. Яны былі выдатна ўзброеныя, мелі 120 палявых гармат. Стрэльбы расейскіх пяхотнікаў — штуцэры — у некалькі разоў перавышалі трапнасцю агню паляўнічыя стрэльбы паўстанцаў, якім увогуле не хапала агняпальнай зброі.

Каліноўцаў было ў дзесяць разоў меней, чым карнікаў, але яны ведалі мясціны, дзе ваявалі, і ўмела манеўравалі ў самых складаных умовах. Асноўным відам баявых дзеянняў паўстанцаў абралі партызанскую вайну. Гэта дазваляла наносіць ворагу нечаканыя і вельмі адчувальныя ўдары. Аднак суадносіны сілаў былі занадта няроўныя.

Расейскія ўлады здолелі падмануць значную частку сялянаў, якія паверылі, быццам «паны б'юцца за вяртанне прыгону». Распаўсюджвалася хлусня, нібыта паўстанцы падпальваюць паселішчы і забіваюць вяскоўцаў. У Магілёўскай губерні, напрыклад, гуляла запушчаная царскім чынавенствам чутка, што каліноўцы спалілі вёску Цёплае і выразалі ўсіх яе жыхароў. Гэтая чутка не мела пад сабой аніякіх падставаў, але актыўна пашыралася праваслаўнымі папамі.

Магутнага сялянскага выступу баяліся і кіраўнікі паўстанцаў з лагеру «белых». Яны, адрозна ад Каліноўскага і «чырвоных», спадзяваліся найперш не на шырокую падтрымку простага народу, а на вайсковую дапамогу заходнееўрапейскіх дзяржаваў. Але гэтыя надзеі не спраўдзіліся.

Марнымі былі і разлікі каліноўцаў на сялянскае паўстанне ў Расеі. Бальшыня расейскіх дэмакратаў паставілася да барацьбы беларусаў-ліцьвінаў варожа і падтрымала царскую палітыку, услаўляючы яе ў газетных артыкулах і вершах.

Ужо ў траўні 1863 года карныя войскі задушылі паўстанне ў Віцебскай і Магілёўскай губернях. Была разбітая і бальшыня аддзелаў змагароў на Меншчыне. Больш паспяхова яны дзейнічалі ў Віленскай губерні, але і там увосень баі спыніліся. Карнікі доўга не маглі справіцца з «бунтаўнікамі» толькі на Гарадзеншчыне, дзе ваяводскім камісарам быў Каліноўскі і ваявала шмат сялянаў. На захадзе Літвы-Беларусі збройнае змаганне трывала цэлы год — да пачатку 1864-га. Канцом паўстання можна лічыць арышт Кастуся Каліноўскага і яго пакаранне смерцю.

### Мураўёў-Вешальнік

Задушэннем вызвольнай барацьбы кіраваў адданы царскі паслугач Міхаіл Мураўёў. Ён чыніў расправу яшчэ над паўстанцамі 1831 года, падпісаў смяротны прысуд аднаму з герояў таго часу Міхалу Валовічу. Мураўёў дамогся замены Статута Вялікага Княства 1588 года, які дзейнічаў на землях Літвы-Беларусі, расейскімі законамі. Сярод ягоных «заслугаў» — закрыццё Віленскага ўніверсітэта і спрыянне біскупу-здрадніку Сямашку ў вайне з уніяцкай верай.

Па ўсім краі на загад Мураўёва замест нашых старажытных храмаў будаваліся аднолькавыя праваслаўныя цэрквы-мураўёўкі. Беларусь ён хацеў ператварыць у частку Расеі. Ягоныя падначаленыя кіраваліся мураўёўскім дэвізам: «Што не дарабіў расейскі штык — даробіць расейская царква і школа». Гэтыя словы любіў паўтараць кіраўнік Віленскай навучальнай акругі Іван Карнілаў, якому падпарадкоўваліся ўсе школы нашага краю.

У маладосці Міхаіл Мураўёў належаў да расейскіх рэвалюцыянераў-дзекабрыстаў. Трапіўшы пасля паразы іхняга паўстання за краты ў Петрапаўлаўскую фартэцу, ён расказаў следчым усё, што іх цікавіла. Коштам здрады таварышам ён выйшаў з турмы і ўжо праз год заняў высокую пасаду Віцебскага віцэ-губернатара. Былы дзекабрыст узяўся з велізарнай стараннасцю выкупляць «грахі маладосці». Каб давесці вернападданасць цару, ён проста лез са скуры, але ніколі не забываў пра ўласную выгаду. Адзін з ягоных начальнікаў, князь Далгарукаў, пісаў пра Мураўёва: «Пачуццё асабістай годнасці, гонар, сумленне — для яго толькі пустыя словы. Ягоная рэлігія — улада і грошы». Расейскі рэвалюцыянер Аляксандр Герцэн называў Мураўёва «змоўшчыкам, які выйшаў з турмы з павышэннем у чыне, генералам, які не бываў у баях, казнакрадам, катам і інквізітарам, зверам, якога не ўбачыш і ў клетках звярынца».

У 1863-м Міхаіл Мураўёў быў прызначаны віленскім генерал-губернатарам. Ён атрымаў ад цара надзвычайныя паўнамоцтвы і стаў паўнаўладным гаспадаром краю. У першы ж дзень свайго прыезду ў Вільню Мураўёў падпісаў смяротны прысуд паўстанцу Адаму Пуслоўскаму. Гэты дваццацігадовы юнак трапіў у палон, паспеўшы пабыць у аддзеле змагароў усяго некалькі гадзін. Неўзабаве на загад Мураўёва ў Менску на месцы сучаснага сталічнага паштамта пакаралі смерцю маладога шляхціча-афіцэра Міхала Цюндзявіцкага. Ягонай галоўнай віною было пашырэнне газеты «Мужыцкая праўда» і чытанне сялянам паўстанцкай адозвы.

У адным з распараджэнняў Мураўёва гаварылася: «Калі паўстанцкая партыя (аддзел) пакажацца на адлегласці трох вёрстаў ад маёнтка, той будзе адабраны ў дзяржаўную казну. Вёска першы раз плаціць грашовую кару, а ў другі раз раўняецца з зямлёй». Арыштаваных паўстанцаў дапытвалі з лютай жорсткасцю. Іх маглі пазбавіць самага неабходнага. Змучаным пакутамі, часта цяжка параненым вязням, напрыклад, не дазвалялі спаць: царскія следчыя мяняліся, а патрыёты зноў і зноў чулі патрабаванне назваць паролі, імёны, адрасы сваіх паплечнікаў. Калі вінаватым прызнавалі аднаго, высылалася на чужыну ўся сям'я.

Верны памагаты Мураўёва жандарскі палкоўнік Лосеў казаў вязням: «Няўжо вы думаеце, што мы ў вачах вашага грамадства хочам зрабіць вас героямі? Не, нашае заданне ў тым, каб не толькі здабыць у вас прызнанне, але і выпусціць з нашых рук такімі чорнымі, каб вашыя маці вас не прызналі і ад вас адракліся».

Калі не дапамагала запалохванне і збройная сіла, хітры і бязлітасны Мураўёў не грэбаваў ніякімі сродкамі: дзейнічаў подкупамі і ашуканствам, падпісваў смяротныя прысуды, загадваў раўняць магілы паўстанцаў з зямлёй і заліваць іх змесцівам прыбіральняў, каб не дапусціць патрыятычных дэманстрацый. За сваю жорсткасць і крывавыя расправы генерал-губернатар атрымаў мянушку Вешальнік. Ёсць сведчанні, што гэты нелюдзь нават ганарыўся сваім ганебным найменнем. Маючы на ўвазе павешанага ў 1826 годзе на царскі загад рэвалюцыянера-дзекабрыста Сяргея Мураўёва-Апостала, віленскі генерал-губернатар любіў паўтараць: «Я не з тых Мураўёвых, якіх вешаюць, а з тых, якія самі вешаюць».

У расправах з патрыётамі Вешальнік карыстаўся і такім жудасным спосабам. У адказ на просьбы сваякоў злітавацца над асуджаным на смерць і замяніць яму кару на больш лёгкую генерал-губернатар падпісваў загад пра памілаванне. Жонка, маці, сястра ці брат паўстанца спяшаліся з гэтым загадам у турму, але раней за іх туды выязджаў мураўёўскі пасланец з загадам паскорыць выкананне смяротнага прысуду. Вешальнік хацеў, каб потым родныя павешанага ці расстралянага ўсё жыццё пакутвалі ад таго, што спазніліся. Адзін з такіх выпадкаў апісаны Уладзімірам Караткевічам у рамане «Леаніды не вернуцца да Зямлі».

Карыкатуры на Мураўёва, якія тады змяшчалі еўрапейскія газеты і часопісы, паказвалі яго на пірамідах з чалавечых чарапоў, на фоне шыбеніц і падпаленых карнікамі беларускіх вёсак і мястэчак.

Пры канцы XIX стагоддзя ўлады Расейскай імперыі паставілі ў Вільні помнік Мураўёву. Віленчукі зруйнавалі яго ў часе Першай сусветнай вайны, як толькі расейскія войскі пакінулі горад. Абломкі помніка пайшлі на будаўніцтва грамадскай прыбіральні.

### «Бокал заздравный поднимая»

На баку мураўёўскіх карнікаў была бальшыня славутых літаратараў Расеі, якія таксама марылі, каб у імперыі ўсе народы ўрэшце зрабіліся «русскими». Мікалай Някрасаў, якога лічаць паэтам-дэмакратам, прысвяціў Мураўёву-Вешальніку прывітальную оду, у якой услаўляў яго такімі словамі:

*Бокал заздравный поднимая,*
*Еще раз выпить нам пора*
*Здоровье миротворца края!*
*Так много ж лет ему! Ура!*

У 1863 годзе Леў Талстой пісаў паэту Афанасію Фету: «Выглядае, што справы кепскія, ці не давядзецца нам з вамі зноў здымаць меч з іржавага цвіка?». Знакаміты пісьменнік меў на ўвазе дапамогу не паўстанцам, а царскім карнікам. Яму належаць і іншыя красамоўныя словы: «Мне абсалютна ўсё роўна, што палякаў душаць».

Фёдар Дастаеўскі ў рамане «Браты Карамазавы» спрабаваў высмеяць «палякаў» (ён, як і Талстой, называў так і нашых суайчыннікаў-паўстанцаў), сцвярджаючы, што яны паехалі ў Сібір не як зняволеныя і высланцы, а нібыта за пэўны заробак як царскія службоўцы. Фёдар Цютчаў адгукнуўся на падзеі тых гадоў некалькімі вершамі, дзе ўслаўляў Расейскую імперыю і крывавую перамогу над змагарамі 1863 года:

*Над русской Вильной стародавней*
*Родные теплются кресты,*
*И звоном меди православной*
*Все огласились высоты.*

Ён лічыў, што Расея павінна сабраць «под знамя русское» усіх славянаў і зрабіць іх «единомысленными».



Майка-цішотка з вывай К. Каліноўскага, самвыдат (XXI стагоддзе)

**У будучыні ў незалежнай Беларусі на вуліцах і плошчах гарадоў павінны з'явіцца помнікі, у якіх скульптары ўвасобяць абліччы тых, хто ў 1863–1864 гадах змагаўся і аддаў жыццё за вызваленне Айчыны**

### Расправа над патрыётамі

Расейскія каланізатары патапілі паўстанне Каліноўскага ў крыві. Тысячы патрыётаў загінулі і памерлі ад ранаў. Дакладная колькасць ваяроў, якія палеглі за свабоду ў Літве-Беларусі, невядомая. З тых, каго захапілі ў палон або арыштавалі, паводле апошніх падлікаў гісторыкаў, 181 змагар быў павешаны ці расстраляны, блізу тысячы асуджаныя на катаргу. Дванаццаць з паловай тысяч паўстанцаў выслалі з родных мясцін, а таксама адправілі ў арыштанцкія роты царскага войска.

Шмат для каго гэта было роўнае смяротнаму пакаранню. Часам у Сібір высылалі цэлыя вёскі, якія падтрымалі каліноўцаў. Болей за шэсць тысяч паўстанцаў атрымалі іншыя пакаранні, у тым ліку пазбавіліся шляхецкіх правоў і маёнткаў. Не злічыць тых, хто, ратуючыся ад пераследу, пакінуў Айчыну.

У нашым краі былі ўстаноўленыя жорсткія законы, накіраваныя на поўную русіфікацыю: ператварэнне жыхароў у расейцаў. Дзейнічалі шматлікія абмежаванні для беларусаў-каталікоў, палякаў і габрэяў. Шмат якія касцёлы ўлада зачыняла і перадавала расейскай праваслаўнай царкве. Існавалі адны расейскія школы. На беларускай мове былі забароненыя кнігадрук і выданне газет ці часопісаў. Не дазвалялася размаўляць па-беларуску ў царскіх установах.

За ўдзел студэнтаў у паўстанні каланіяльныя ўлады зачынілі адзіную на той час у Літве-Беларусі вышэйшую навучальную — Горацкі земляробчы інстытут. Замкі павесілі на дзвярах Віленскага музея старажытнасцяў. Самыя каштоўныя экспанаты вывезлі адтуль у Расею, і цяпер іх можна ўбачыць у маскоўскім Дзяржаўным гістарычным музеі. Вучоных з Віленскай археалагічнай камісіі абвінавацілі ў спачуванні «мяцежнікам» і імкненні аднавіць незалежнасць Вялікага Княства. На загад Мураўёва-Вешальніка камісію, якая збірала помнікі нашай старасвеччыны і спрыяла нацыянальнаму адраджэнню, разагналі. Замест яе з вернападданых навукоўцаў стварылі іншую камісію з падобнай назвай — археаграфічную. Але падабенства назваў не магло ўвесці патрыётаў у зман. Новая камісія павінна была даказаць, што «Северо-Западный край» царскай імперыі заўсёды быў «русским».

Пад расправу трапілі нават старадаўнія назвы гарадскіх вуліц і плошчаў. У Менску плошчу Высокі рынак улада перайменавала ў Саборную, вуліцу Бернардзінскую — у Манастырскую, Валоцкую — у Хрышчэнскую, Дамініканскую — у Петрапаўлаўскую, Зборавую — у Турэмную, Зыбіцкую — у Балотную, Францысканскую — у Губернатарскую, Феліцыянаўскую — у Багадзельную. Вуліцы з падазронымі для царскіх служак назвамі былі пераназваныя паўсюль. У Горадні, напрыклад, Брыгіцкая зрабілася Купецкай, Баніфратарская — Татарскай, Дамініканская — Саборнай.

Разам з тым пасля паўстання царскія ўлады вымушаныя былі пайсці на палёгкі сялянам. Частка беззямельных вяскоўцаў атрымала надзелы. У Віленскай, Гарадзенскай і Менскай губернях больш чым напалову зменшылася выкупная плата за зямлю, якая пераходзіла сялянам паводле царскай пастановы 1861 года пра скасаванне прыгону.

### Жывая памяць

У нашай краіне шмат мясцінаў, дзе зберагаецца памяць пра вызвольнае паўстанне Каліноўскага і яго герояў. Нашчадкі прыходзяць і прыязджаюць пакланіцца магілам змагароў паблізу Мілавідаў, у вёсках Плябань на Маладзечаншчыне, Каралеўцы і Куранец на Вілейшчыне, у Ласасіне на Пружаншчыне, каля мястэчка Косава, у Горках. На Кальварыйскіх могілках у Менску спачывае паўстанец Ян Баляслаў Луцкевіч, бацька дзеячоў нашага нацыянальнага Адраджэння Івана і Антона Луцкевічаў. На ягонай магіле часта можна ўбачыць бел-чырвона-белыя стужкі і кветкі.

У вёсцы Краснае паблізу Маладзечна пахаваны апошні ўдзельнік паўстання Ігнат Абрамовіч, які пражыў 105 гадоў. Мемарыяльныя крыжы і камяні ў гонар каліноўцаў стаяць у Зарубіцкім лесе і ў Азёрах пад Горадняй, каля вёскі Арцішы Шчучынскага раёна, Голдава і Малога Ольжава на Лідчыне, паблізу вёсак Пацавічы і Мінявічы Мастоўскага раёна ды ў шмат якіх яшчэ кутках Беларусі. Да 150-годдзя паўстання вялізны крыж з шэрага граніту ў форме вялізнага мяча з'явіўся ў вёсцы Слабодка на Астравеччыне. На крыжы — выява «Пагоні» і пароль змагароў «Каго любіш? — Люблю Беларусь!»

У будучыні ў незалежнай Беларусі на вуліцах і плошчах гарадоў павінны з'явіцца помнікі, у якіх скульптары ўвасобяць абліччы тых, хто ў 1863–1864 гадах змагаўся і аддаў жыццё за вызваленне Айчыны. Адным з такіх манументаў у Менску можа стаць помнік Міхалу Цюндзявіцкаму — першаму патрыёту, пакаранаму тады смерцю ў нашай цяперашняй сталіцы. Пакуль жа зусім недалёка ад месца расстрэлу шляхціча Цюндзявіцкага стаіць на вуліцы Валадарскага бронзавы помнік царскаму гарадавому, усталяваны тымі, хто намагаецца працягваць на нашай зямлі чорную справу Мураўёва-Вешальніка.



Ірына ГРУМАНДЗЬ

## Дзяды

*Туман. Дзяды. І вечнасць...
Ладдзя і роспач —
А нам абы малітвы...
Бо толькі ёю мы змываем грэшнасць
з тых костак, што ў зямлі зарыты...*

*Туман. Дзяды. І свечка...
Дагарае.
І душы голыя
спяшаюцца пагрэцца...
А нам абы прабачыць
памяць,
якая восеньскім дажджом ліецца...*

***

*Белае сонца верасня ў возеры —
на імгненне.*

*Жоўтае сонца верасня ў лісці —
на спатканне.*

*Восень на небе яблыкам
спелым
падае долу
бабціным летам
на развітанне...*

***

*Кожны радок
выліваецца келіхам,
які п'ем паасобку,
хтось уначы,
хтось на досвітку,
але нібыта разам —
з-за адчування
любові!*

***

*Абдымаючы промнямі лета,
Ты гарыш да канца, да канца...
Нечспадзеўна любоўю сагрэта
Ад святога Хрыстова вянца.*

*Бел-чырвонаю-белаю стужкай
Дзесьці ў сэрцы трымціць на вятры
Мара вечнае папялушкі —
Беларускай дзяўчыны-вясны.*



Ганна КРОФТА

## Час

*Разам з сябрамі знікаюць дні,
Дні, што жылі калісьці.
Падаюць доўга нямымі радкамі
Цені ў попел дарог.
Доўга чытаюцца словы кніг,
Кніг з пражылкамі лісця,
Што між старонак памяць хаваюць
Ці сціраюць знарок.
Хочацца ўзяць і ўслед паглядзець
Часу, што змоўк і высах,
Каб зразумець, што ён не ідзе, —
Коціцца ў пыльны змрок.
Толькі гады ў рады — і радзей —
Вернуцца ў снах абрысы
Нашых размоў, падзей і людзей,
Што перайшлі за парог.*

***Памяці І. Я. Лепешава***

*Словы тым, хто пайшоў,
Аблятаюць пялёсткамі
Сініх астраў, настояных у вадзе.*



Фота www.pixabay.com

*Успаміны пра тых,
Хто быў светлым, быў лепшым,
Быў настаўнікам, сябрам —
і мудрым, і простым, —
Матылькамі празрыстымі позняга лета
Завіталі з былога ў кастрычніцкі дзень.
Цяжка вымавіць словы,
калі больш нікому
Іх няможна пачуць.
Колькі роспачы з намі
Засталося!..
А з імі — хай будзе спакой.
Крылы смутку нікога
не вернуць дадому.
Яны падаюць сінімі астрамі
ў памяць,
Набрынялыя чыстай, халоднай вадой.*

***Памяці І. В. Жука***

*Словы, адпушчаныя ў вышыню,
Не знікаюць.
Яны прыходзяць да нас
Пялёсткамі сонечных красак
І ў спёку — шматколерным снегам.
Спяшаюцца словы праз час
Насустрач мінуламу дню —
Насустрач наступнаму дню,
Каб словам вярнуцца, не рэхам.
Спяшаюцца словы праз свет
Пялёсткамі ў хвалях блакіту,
Каб дзесьці на ўскрайку нябыту
Зноў з небам злучыцца адкрытым,
Якое і помніць, і сочыць,
Якое ўсіх прыме аднойчы.*



Святлана КУЛЬ

***

*Я слухаю дом —
ад падмуркаў па дах нагары,
Да самых яго патаемных,
аддаленых нетраў.
Так слухаюць лес —
несвядома і чуйна звяры,
Так слухаюць птушкі ў нябёсах
трымценне паветра.
Я слухаю дом як сусвет,
як нябёсы і гай;
Тут неба маё і надзейная ў цішы
бярлога,
Ён мой абаронца і мой
паўсядзённы Сінай,
Тут недзе пад дахам
асобны пакойчык —
для Бога.*

***

*Я нідзе і ніколі не бачыла
неба такога,
Каб для кожнае зоркі
было адпаведнае месца,
Каб Птушыная бегла
ў належным кірунку дарога
І падсмажаным дранікам
ззяў паміж зоркамі Месяц,
Я запомню нябёсы,
я буду ўглядацца да ранку
У малюнак сузор'яў,
шукаючы Зорнае Кола,
Я знайду Каралёў
і Малы апалонік над ганкам,
Зараніцу на ўсходзе,
з якой пачынаецца золак.
Я змагу прыгадаць у гадзіну,
абраную лёсам,
На апошнім шляху,
калі буду ў дарогу збірацца —
У якія пайсці мне
з тутэйшага свету нябёсы,
Каб хутчэй прыляцаць,
каб дамоў на Дзяды не спазняцца.*

***

*Пярсцёнак твой на левай, на маёй,
За мной цікуе ў белы дзень і ноччу,
Ён шмат гадоў з рукі маўкліва сочыць,
Каго ў пяшчоце абдымаю ёй.
Ён ведае пра кожны стогн і ўздых,
Запамінае твары і аблічы,
Ён думае, што неяк пералічыць
Табе маіх каханых і былых,
Раскажа, што любіла і люблю,
Калі мы зноўку будзем — вочы ў вочы.
Хай спадзяецца. Ляжа ён аднойчы
З маім мінулым разам — у зямлю.*



Ілля КУЛЬБІЦКІ

## Партал

*казалі, што ў скверы каля універа,
у тым, дзе статуі медныя,
праз люк адкрываўся партал пяцімерны
ў самую апраметную*

*аднак жа, калі я ў той люк пагрукаў,
то ніякага не адчуў эфекту —
але не таму, што зламаўся люк, а
таму, што пераехала пекла
ў палац незалежнасці*

## Архіпелаг

*глядзіце, вочы, глядзіце
вада камень дрэва аблокі камень вада
камень у вадзе ў дрэве вада
ў аблоках камень
адсюль і давеку, ад полюса да экватара
толькі кавалачак небакраю
неўзабаве сарамліва расчырванеецца,
намякаючы, што дзесь там ёсць гарады
а хутчэй, гэта проста тролі
ладзяць свята ды паляць вогнішчы
звычайныя тролі, вялізныя,
мохам парослыя
вось як гэтыя два, што ляжаць нерухома
пры сцежцы
не будзіце іх, мае вочы*

*слухайце, вочы, слухайце
вада замест солі набіраецца музыкі
нячутнай ды нечуванай
вугальна-чорныя гукавіды соснаў
у люстры блакіту
хвалеграма самотнага чоўна
на роўнядзі змяркання
нота ў сшытку — птушка,
якую сыграць забыліся*

*танчыце, вочы, танчыце
ноч рассякае хвалі
ноч апранае ўбор танцоркі
ніводзін страз не ўпадзе
з чорнага аксаміту
вада іх трымае, чорная, аксамітная
з ноччу вітаюцца іншыя караблі,
гэтаксама ўбраныя
гукавіды соснаў у вугальна-чорным люстры
гнуткі месяц выцягвае пальцы ног
сорак восем тактаў з усходу да захаду*

*кранайце, вочы, кранайце
воўна авечак, што скубуць першыя промні
воўна туману, што паволі набракае святлом
воўна дарогі, прыбітая злёгку расою
усё з аднае наймягчэйшае кудзелі
іншая толькі намаразь на траве
калючая, бы цукровая вата па-за сезонам*

*забудзьцеся, вочы, забудзьцеся
на шэрыя хмары ды сцены
на злыя навіны ды твары
толькі на гэтую ноч
толькі на гэты дзень
зрабіцеся, вочы, зрабіцеся
вачыма
казулі, што спрытна скокнула
з-пад самых ног*



Таццяна ЯЦУК

***

*Была рака
І кладка праз раку.
Твая рука
І вера — у руку.
Насустрач крок —
І сэрца не спыніць.
Ды незнарок
Душа мая крычыць.
Пяшчота рук —
І ніякой бяды.
І сэрца стук
На кладцы ля вады.
Ціш ля ракі
З адценнем немаTы.
І светлякі,
І позірк твой, і ты.
Ды туманы
У сонняй цішыні.
Званы, званы...
Пачуццяў рой, звані!
Застыў чарот —
І толькі мы з табой.
Святы палёт
Двух сэрцаў над ракой.*

***

*На карце лёсаў, горыччу расшытай,
Шукаем паратунак у святых.
Здаецца, што зямля сышла з арбіты,
І зрок згубіла, і згубіла слых...*

*Дастукацца б да сэрцаў скамянелых,
Даплакацца б да душаў нежывых...
З-пад ручнікоў каб васількова-белых
Благаслаўлёна глянуў лік святы.*

# Яльцы



Сяргей УКРАІНКА

Дастаў мяне цесць! Здаецца, так і даў бы ў вуха, каб глузды паправіліся ў дурной «Пенсіі». Як за дзевяноста пераваліла, такі ўжо крывы стаў: не так боршч дачка зварыла, не той нагі зяць на масніцу ступіў. Яшчэ нейкіх гадоў дваццаць таму за ім з касой не ўгнацца было — «дзявятку» цягаў, што той «шасік» ротарную касілку, і на харч быў да таго ўжо непераборлівы — учарашнюю бульбу печаную мог без солі фунтамі навароччаць. Ведама, выпрацаваўся, пасечнікам усё жыццё робячы. У жніво, праўда, Макаравіч шчыраваў камбайнерам, пачынаў яшчэ на «СК-4», потым круціў руля недапечанага «Коласа» і цягавітай «Нівы». Амаль у кожны сезон намалочваў больш за ўсіх у раёне. На сцяне, вунь, дагэтуль з-за дыпломаў шпалеры не прасвечваюцца. Аднойчы і я быў у яго за памочніка. Праклраў усё на свеце. Гэты баран у сваёй упартасці не саступіў бы крапівоўскаму: як унурыцца ў што — хоць ты даўбнёй выбівай. Помню, перад жнівом разабралі мы «Ніву», каб вычысціць нутро і праквэцаць салідольчыкам тое, што рухаецца ды круціцца. Дык вось, сабралі ўжо камбайн, завялі, нарэзалі круг вакол мехдвара. А потым я падабраў з травы запчасткі (паўвядра лішніх атрымалася), панёс у бокс, аж той чорт угледзеў: «Што ета ты там, Лёшка, валочаш?» Ёлкі-круцёлкі! Зноў давялося разбіраць гадскі «канструктар», навінчваць усе да адной гайкі, зацягваць усе балты на жатцы, зноўку рэгуляваць ланцугі… «Трэба, каб усё было, як трэба!» — і сам стаіць рукі ў бакі, а ты, Лёшка, пэцкайся ў салідоле, бы свіння ў гразі. Убіраем жыта за Палудзінай, палегліцу, па ўсім полі прайшліся, толькі самае-самае, што за праход не падхапілі, засталося. «Ну, кажу, гайда на людскія ўчасткі». А Макаравіч: «Не, зяцёк, вунь там, там і там яшчэ праедземся». «Куды тут ехаць, крычу, сонца садзіцца, калымнуць не паспеем!» «Не. Будзем падбіраць усе каласкі.» Каб жа цябе чарцякі падабралі. У той год мы з ім па намалоце выдалі другі вынік у раёне, хаця і рабілі на ўшчэнт дабітай «Ніве». Жаў у асноўным я. Бо гарэлку не піў зусім — чарговы «код да вінчы». Затое цесчыка даваў копаці за двох — і ўсё адно не паспяваў як след прарэдзіць груду пляшак у кабіне. Што ты хочаш, толькі наша вёска мела тады каля сотні двароў і пры кожным жаўцела паласа ячменю або жыта. Тры-чатыры-пяць участкаў. А ты, памочнік, шчыруй за стырном ад сутоння да сутоння. Эх, былі часіны…

Пра пасечніка я не схлусіў. Васіль Макаравіч ад самай вайны і да скону гаспадарак дагледаў сто шэсцьдзясят калгасных і два дзясяткі сваіх вуллёў. Пра пчол ведаў, здаецца, усё. Я дык іх дагэтуль баюся, а той хадзіў каля домікаў у жоўтай кашулі, без маскі, і не тое што міралюбныя карпацкія — нават агрэсіўныя сярэднярускія чамусьці заўсёды яго абміналі.

Я тут дзеля чаго бадзягу развёў… Вось колькі з Галяй жыву, дваццаць сем ужо, здаецца? Дык от: дваццаць сем гадоў Макаравіч ездзіць мне па вушах гісторыяй пра тое, як яны з суседам Грышкам перад вайной злавілі ў рэчцы пяцьдзясят восем яльцоў. Да чаго памятушчы, гад! Трымае ў галаве, у які заброд, каля каторых кустоў колькі штук патрапілася ў брэдзень, а колькі ў заставу. Рэчкі той ужо і няма — спраставалі пры Брэжневе — адно шнур-ярок струніцца па лузе да самага Сажа, а вось бач ты, чалавек яе праз усё жыццё пры сабе носіць. «Од жа ж і смачнючыя рыбкі тыя, анівадная другая не дакажа яльчыку: ні шчупак, ні нават балаба. Ну, можа, судак пацягаецца трохі ў смакаце, і то не факт. Яны такія тлусценькія, прасмажыстыя, бярэш у руку з патэльні, а з хваста — кап, кап. Мяса белае-белае, і растае ў роце. Эх, каб яшчэ хоць разок на язык паклаці. Хоць перад смерцю…» Божа, як ён задзяўбаў гэтымі яльцамі! Было б там што сапраўды вартае, а то ж нейкая дробная касцістая недарэчнасць, а не рыба.

Сёлета ў пачатку ліпеня, калі мы з Галяй «адпачывалі» на градах у Макаравіча, ён мяне да таго дакалупаў сваімі «яльчыкамі», што я па-чорнаму псіхануў, кінуў-рынуў усё ў двары, шпурнуў у багажнік «Нівы» заплечнік, спальнік, жмут вудаў і пачмыхаў гравійкаю да Сажа. Было тое надвячоркам, сонца пачынала ўжо хавацца за вяршалінамі блізкіх хвой. Падумалася яшчэ: прыеду, паспрабую конікаў на беразе панакрываць брылём — ён у мяне шырокі, лёгкі і дзюрысты. Скакунцы яшчэ толькі завяліся ў траве, але, мяркую, нават на гэтых недаросліках кляваць усё ж будзе лепей, чым на штучныя мушкі.

Шчыра скажу: не было ў мяне ані надзеі на тое, што ўдасца вывудзіць хаця які дзясятак шанаемых Макаравічам яльцоў. Рэдкія цяпер яны ў нашых рэках. Нават у малых, тыпу Проні ды Басі, пераважаюць з верхаводаў галаўні і ўклейкі. Што ўжо казаць пра Сож, там яшчэ цяжэй будзе вышукаць чародку пужлівых прагоністых рыбак — не рачулка-пераплюйка ўсё ж. Як быў малады, у час шабашак я павудзіў крыху ляльнугаў пад Хвойнікамі і стоўбікаў — за Нароўляй. Гэта ўсё так празываюцца яльцы, калі што. Вудзільна бамбукавае, асноўная лёска 0,16, павадок 0,12. Пра кручок і ўвогуле маўчу — праз фотапавелічальную лупу прывязваў, хоць на зрок тады не скардзіўся. Цяпер на верхаводных рыб палюю з вудай-бамбардай. Гэтак грозна абазвалі сваю сціплую вынаходку няўседлівыя італьянцы. Складанага ні грама: лёгкае графітавае вудзільна, па асноўнай лёсцы вольна слізгае падобны на вераценца празрысты паплавок. Далей — паўтараметровы павадок без грузка і штучная мушка. Усё. Але ж як цікава ёй вудзіць язёў ды галаўнёў! Закідваеш гэтак у плынь, потым падцягваеш плаўненька, падрыгваеш кончыкам вудзільна і — хоп!

Хвілін дваццаць ехаў па ўзбярэжнай дарозе, пакуль не ўгледзеў мясціну, ад якой толькі сілаю адляпіў вочы. Сож тут вывеў мудрагелістую пятлю, быццам танкашы карыкатурны дзядзька ўторкнуўся вялізным носам у лес. Узгорак. Своеасаблівая такая грыўка з невысокай рэдкаватай травой. Яе, відаць, і за Саюзам не надта каб касілі, а цяпер, калі той гавяды засталося на парадак менш, увогуле пакінулі ў спакоі. «Ніву» сагнаў з накатанай каляіны, паставіў каля старога лазовага куста амаль што ў цэнтры грывы. Добрая мясціна: і суха, і ад вады далекавата. Як, не дай бог, набрыдуць «зялёныя», то ўжо хваробы прыдзяруцца. Разгрузіўся і пабрыў, шаркаючы сланцамі па траве, каб ацаніць, куды закінула на гэты раз няўрымслівая рыбацкая доля. На расу яшчэ не бралася, але з травы нічога не выпстрыквала. Рана



Фота www.bagor.net

пакуль для конікаў, жніўня чакаць трэба. То і хай сабе, мушак за зіму навязаў столькі, што на пяць сезонаў хопіць. Асабліва такіх, якія цяпер яны ў мяне: дамаседам стаў, ні ў Карэлію, ні на Волжскія ерыкі ўжо не ганяю, пра стронгу ды харыуса нават марыць перастаў. Ногі, ліха на іх, пачалі падводзіць, так што з любімай вудай-нахлыстоўкай доўга па вадзе не магу цягацца. Вось пацiху і шпуляю з беражка бяскрыўдную бамбарду, наталяю пакрысе гэтым эрзацам сваю рыбальскую прагу.

Што ж, беражок нічогі, не багністы, падыход да плыні лёгкі. Адсюль заўтра і пачнём запускаць нашу бамбарду.

Ноч прамінула амаль непрыкметна. Аднойчы ўсяго прачнуўся ад шуму — ніжэй па рацэ штосьці глуха выдыхнула: «Г-гах-х…» Успросань не разабраўся, ды і, па шчырасці, не было як, бо салодкі сон не выпусціў з абдоймаў. Чысцюткае паветра, цёплы спальнік — куды ўжо больш радасці распешчанаму гарадам целу? Дазвання раскатурхалі толькі промні, што прабіліся скрозь рэдкія лазовыя лісты і ўпалі на вейкі. Усміхнуўся: ото ж і рыбачкі пайшлі, не блюдуць сутоння, калі самы клёў, а ўсё ніяк нахрапіцца не могуць. Давярай такім адказныя «мерапрыемствы».

Нетаропка схрумстаў куплёны «бананавы» яблык, уздзеў забароднікі, пачапіў на пояс торбачку з павадка́мі, малы рыбнік, узяў у рукі раскладзеную з вечара вуду. Нічога не забыў?..

Праз колькі хвілін падышоў да вады. Ох, якая забойная прыгажосць! Рака пераліваецца, зіхаціць нізенькімі частымі хвалямі. Цюкнула ў галаву: «Orvis-ы» ў бардачку пакінуў, акуляры палярызацыйныя. Без іх праз гадзіну ўжо вочы пачнуць гнаць слязу і рыбалка ператворыцца ў пакуту. Прыхінуў вудзільна да галіны крывой вербалозіны, пашлыгаў да лагера. Не, гэтак мы хіба на Пятроўскія загавіны распачнём рыбаліць. Адчыніў дзверцы «Нівы», укінуў у нагрудную кішэню забароднікаў футарал з акулярамі. Раптам са спіны хтось патрабавальна зацяўкаў. Няголасна так, зусім не па-сабачаму. Выпраставаў тулава з салона, павярнуўся — і ўбачыў у дзесяці кроках ад машыны ўсім вядомае рыжае стварэнне. Ліса так міла і дагодліва глядзела ў вочы, што я разгратаўся: «Ну, кумка, ну, прыстасаванка! Гэта ж дадумацца — рыбакоў мімаходзь акучваць». Звер смешна схіліў убок галаву: «Ава-ваў!» «Добра, добра, чакай, дастаю ўжо». Расхінуў на сядзенні пакет з харчам, распалавініў парэзанае за цесцевым яшчэ сталом сала, разламаў паўбохана хлеба, панёс лісе. Чакаць, пакуль яна з'есць «адступное» ад госця, не стаў, амаль не подбегам пакіраваў да пакінутай вуды. Жаба крыху прыцiснула: ведаю, што лісіца папросіць яшчэ, адмовіць не змагу, сам жа тады да вечара буду смактаць палец.

Найперш прапаную рыбам «сухога» «камарыкаэмеджэр». Гэта мушка таму і «сухая», што трымаецца на паверхні, не патанае; «мокрых» я сёння ўвогуле не браў. Ёсць паклёўка! Позна. Не падсек. Адпускаю лёску на дваццаць метраў. Удар! Вывуджваю і вымаю з вады стограмовага пад'язка. «Не тое», —крыўлюся незадаволена, але ў садок кідаю без жалю. Іду ўніз па плыні, груба тапчу вадзяную траву — эладэю, шушняк, вадзяны казялец. З яе чубоў зрэдку вымятаюцца дробныя плотачкі, уклейкі, а вось яльцоў пакуль не бачна.

Праз чатыры гадзіны ў маім рыбніку «гулялі» шэсць невялікіх пад'язкаў і сем такіх жа незаважыстых галаўнёў. Пераменьваў павадкі з мушкамі, кідаў прынаду ледзьве не пад працілеглы бераг… Марна, марна, марна.

Страўнік не вытрымаў няўвагі да сябе, «заспяваў» немілагучную песню. Я пачуў яе. Калі ішоў да машыны, пільна азіраў наваколле: ці не прытаілася дзе гаспадыня грывы. Надта не хацелася зноў дзяліцца сціплай ссабойкай «з таварышкай».

З асалодай сцягнуў з сябе забароднікі, зняў набрынялыя вільгаццю штаны. Змучаныя полівінілхларыдам ногі аж, здаецца, застагналі ад палёгкі, што прынесла ім павевы цёплага ветрыку. Перакусіў салам-хлебам-цыбуляй і прыдрамаў у цяньку лазовага куста. Зноў на раку пайшоў, калі сонца перакулілася на захад. Што казаць, надзея ўцелясніць блакітную мару дарагога, іцiць яго, Макаравіча спрахла амаль дарэшты. Заставалася толькі кволенькае спадзяванне на адно нагледжанае неаблоўленае месца, там, дзе самая лука. Адразу за выгінам, за травой, — зацішак, і побач — строма. Яльцы любяць стаяць каля стромы ды высочваць розных казюрак, якіх прыносіць плынь. Калі ўжо і тут не гуляе чародка, тады не ведаю. Буду збіраць манаткі.

Спыніўся на рацэ ў неблагім месцы, на за́піску. Да аблюбаванай лукі адсюль метраў дваццаць пяць, самае тое, каб не разагнаць пужлівых рыбак. Прывязваю мушку «вусень», пускаю на строму. Кругі на вадзе! Няўжо ён? Падцягваю лёску і ўжо здаля бачу: так, ялец. Ладненькі, порценькі, рукой ніяк не ўхапіць. На «вусеня» патрапілі яшчэ дзве рыбкі, і на тым удача перастала мне назаляць. Праз паўгадзіны не вытрымаў і прывязаў чарговую прынаду. Што ты думаеш? Рыбы выскоквалі з засады на строму і хапалі падманку, нібы ашалелыя. Дваццаць тры праводкі — дваццаць два яльцы. Мушка «адамс-парашут» руліць!

Перад ад'ездам з імправізаванай стаянкі я паклаў на траву каля куста пяць яшчэ жывых галаўнёў. Нам з Галяй до будзе і пазасталых, каб павячэраць, а рыжая «кума» няхай паласуецца, наўрад ці часта ёй гэта ўдаецца.

Увечары пах ад смажанай рыбы стаяў на ўсе Палудзічы. На ўсе чатыры жылыя двары. Галя звыкла завіхалася каля газавай пліты: качала ў муцэ злёгку пасоленыя рыбныя тушкі, пераварочвала на патэльні падсмажаныя, далівала алею. Макаравіч сядзеў за сталом і нецярпліва барабаніў пальцамі па стальніцы. Нарэшце дачка паставіла на стол патэльню з прыгатаванай рыбай: «Ну, спрабуй свае печкуры». «Яльчыкі», — дакорліва папраравіў яе бацька. Дачакаўся, пакуль трохі прачахнуць, акуратна ўзяў адну рыбку, падзяліў удоўж, злізнуў з хваста кропельку алею, паклаў адну палавінку на язык, прычмокнуў, закацiў вочы ў прадчуванні прызабытага смаку і…

І ўсё. Расціснуў, размякчыў дзяснамі, пашамкаў ротам, перацiрачы, праглынуў. Паглядзеў з недаверам на патэльню з залацістай рыбай, нерашуча пацiснуў плячыма. Потым з цяжкасцю ўстаў з-за стала, уздыхнуў глыбока-глыбока — і пабрыў на сваё сталае з нядаўняга часу месца. Жалезны ложак надрыўна зарыпеў спружынамі.

# Альгердавічы

## Шлях да подзвігу: Сямён Мсціслаўскі



Бітва пад Грунвальдам

**Паданне сцвярджае: паляваў князь Сямён Альгердавіч Мсціслаўскі ў навакольных лясах, адбіўся ад світы, зірнуў на яркае сонейка і — аслепнуў.**

Уражаны, упаў князь з каня на зямлю і амаль да закату блукаў, спрабуючы па гуку зразумець, дзе ён знаходзіцца. Калі сілы зусім пакінулі яго, насустрач князю выйшаў манах-пустэльнік, які падвізаўся ў Мсціслаўскай пустыні.

– Ідзі са мною, княжа, не бойся, — прамовіў пустэльнік. — Ніхто не кране цябе, пакуль ты пад маёй абаронай.

Старац вывеў князя да лясной гаючый крыніцы. Ледзь сачылася цалебная вадкасць з-пад карэння ляшчыны.

– Былі часы, з усяго краю ішлі сюды людзі за святой вадой і пазбаўляліся тут ад многіх хвароб, — распавядаў пустэльнік. — Але потым загадаў бацька твой, князь Альгерд, засыпаць крыніцу. За тое, што конь яго, схіліўшыся да вады, паслізнуўся на купіне і зламаў нагу. Выправі бацькаў учынак. Расчысці сваімі рукамі святую крыніцу. І вада гэтая здыме змрок з вачэй тваіх.

Сем дзён жыў князь у лясным скіце пустэльніка; невідушчы, расчышчаў шлях святой вадзе. І адрадзілася крыніца. І піў ваду гэтую князь прагнымі глыткамі. І падстаўляў вочы свае пад яе, і слёзы радасці сцякалі па яго шчоках. А калі вярнуўся да яго страчаны было зрок, першым, што ўбачылі вочы яго, аказаўся прыгожы, нібыта сатканы са святла лік Прасвятой Багародзіцы. Над галавой князя, у галінах старой ліпы, ззяла цудам яўленая ў гэтых глухіх мясцінах ікона. І пачуў Сямён Альгердавіч дзіўны голас, які выходзіў ад абраза. Сказала Дзева Марыя, што адбудзецца вялікая бітва. І што князь Сямён будзе тым, хто вырашыць яе зыход. Гэта было прадказанне пра Грунвальд…

Князь Сямён, да хрышчэння Лугвэн, быў дзявятым з сыноў Альгерда. Нарадзіўся ён у 1355 годзе. Было Сямёну ўсяго тры гады, калі бацька яго далучыў Смаленскія землі да Вялікага Княства Літоўскага. Разам з імі атрымала «Літва» таксама і Мсціслаўль. Але вось калі горад гэты як цэнтр удзельнага княства дастаўся Сямёну, сказаць цяжка. Некаторыя гістарычныя крыніцы сведчаць, што Мсціслаўскім князем да 1392 года быў брат Лугвэна-Сямёна Карыгайла. Але мсціслаўскае паданне пра святую крыніцу сцвярджае, што цудоўнае вылечванне князя Сямёна было менавіта ў год Кулікоўскай бітвы, і значыць, ужо ў 1380 годзе Мсціслаўль належаў яму. Ва ўсялякім разе, манастыр, заснаваны князем Сямёнам на месцы, дзе побач з крыніцай з'явілася святая ікона, — Мсціслаўскі Пустынскі Успенскі манастыр — афіцыйна адлічвае сваю гісторыю ад 1380 года. Кажуць, першым настаяцелем гэтай абіцелі стаў пустэльнік, які вывеў князя да крыніцы.

Яшчэ адзін факт, які сведчыць, што Сямён Альгердавіч ужо ў той час быў Мсціслаўскім князем… У 1386 годзе пад Мсціслаўль прыйшло войска смаленскага князя Святаслава Іванавіча, які імкнуўся захапіць былы горад Смаленскага княства. Разам з ім ішлі страшныя саюзнікі — крыжаносцы. Сямён Альгердавіч, які толькі што прыехаў з каранацыі Ягайлы, пачаў бітву са Святаславам. Гэта была жорсткая сеча. Шмат людзей загінула, абараняючы Мсціслаўль. Але крыжаносцам горад не здалі.

Сямён Альгердавіч, пэўна, падаваўся сучаснікам надта дзіўным князем. Ён не ўмешваўся ў чужыя спрэчкі і міжусобіцы, не ганяўся за славай. Калі можна было абысціся без бою, з радасцю выкарыстоўваў такую сітуацыю. Але пры сустрэчы з няўмольным і бескампрамісным супраціўнікам смела ішоў на яго і перамагаў. 25 гадоў было яму, калі ў Мсціслаўскім лесе — пустыні, як казалі ў тыя часы — размаўляла з ім сама Царыца Нябесная. І з тых часін ніводная іншая жанчына не магла заняць месца ў сэрцы Альгердавіча. З трымценнем душэўным чакаў князь Сямён выканання прароцтва, пасля якога меркаваў пастрыгчыся ў манахі.

Аднак гады ішлі, і прыносілі яны князю неадольныя сумненні. Пустынскія манахі раілі жыць, не клапоцячыся пра заўтра, і вырашаць справы надзённыя. Сямён Альгердавіч паслухаўся іх.

У 1389 годзе наўгародцы запрасілі да сябе на княжанне Сямёна, і Альгердавіч на некалькі гадоў пакінуў Мсціслаўль. Правіць у наўгародцаў — значыць есці і спаць у даспехах. Давялося паваяваць і міралюбіваму Альгердавічу. У 1390 годзе ён вадзіў наўгародскія дружыны на Пскоў. Дзякуй Богу, канфлікт скончыўся прымірэннем. У 1392 годзе шведы абрабавалі вёскі па абодвух берагах Нявы. Князь Сямён выступіў супраць іх і на справе паказаў, хто ў наўгародскай зямлі гаспадар.

14 чэрвеня 1394 года ў жыцці «закаранелага» халасцяка адбыліся змены. Саракагадовы князь нечакана для ўсіх прасіў руку дачкі Дзмітрыя Данскога, Марыі, якая ў наступным годзе нарадзіла яму сына Юрыя. Жонка Семёна Альгердавіча памерла ў 1399 годзе. Суровы ўдавец вырашыў выхоўваць сына, не думаючы больш аб шлюбе. Нялёгка гэта было. Таму што дзеля сына даводзілася Сямёну Альгердавічу берагчы сябе ў бітвах і паходах. Тым не менш, у 1402–1403 гадах князь Сямён дапамагаў Вітаўту ў яго барацьбе з разанскім князем Фёдарам Ольгавічам і смаленскім князем Юрыем Святаславічам.

Зрэшты, наўгародцам гэтыя паходы не прынеслі ніякіх асаблівых выгодаў. Яны вырашылі з Ноўгарада Сямёна ад граха падалей папрасіць, а даць яму пад абарону Наўгародскія крэпасці Старую Русу і Ладагу, пастаянныя мішэні для варожых удараў. Прыняў рашэнне наўгародцаў Альгердавіч, не пабявіў іх свайго мяча. І працягваў служыць верай і праўдай Вялікаму Ноўгараду. Аднак у апошнія гады ён усё часцей стаў наведваць Мсціслаўль. Горад гэты падаваўся яму больш бяспечным, каб расціць тут сына. Да гэтага часу Пустынскі манастыр, пабudаваны Сямёнам Альгердавічам, ператварыўся ўжо ў вядомую і вельмі паважаную абіцель. А ў 1407 годзе князь Сямён заснаваў недалёка ад Мсціслаўля і яшчэ адзін манастыр, Ануфрыеўскі. Пасадзейнічаў гэтаму, зноў жа, знак Божы. Дванаццацігадовы княжыч адпрасіўся ў бацькі на паляванне, але заблукаў і гэтак жа, як некалі сам князь Сямён, знік на цэлы тыдзень. Пошукі былі дарэмнымі, і пастарэлы ды пасівелы Альгердавіч упаў у храме на калені перад абразам Ратавальніка і маліў яго толькі аб адным: каб не дадзена было яму перажыць сына.

Бацькоўскае маленне было пачутае. Раніцай княжыч аб'явіўся, жывы і здаровы. І расказаў, як яго вывеў з лесу старац, які назваўся Ануфрыем. Думаючы, што гэта хтосьці з пустынскіх манахаў, Сямён Альгердавіч прыйшоў у Пустынку з багатымі дарамі. Але настаяцель запэўніў яго, што інака Ануфрыя ніколі не было сярод браціі.

Цудоўнае выратаванне княжыча здарылася ў той дзень, калі Праваслаўная царква ўшаноўвае святога Ануфрыя. Не інакш, менавіта гэты святы стаў абаронцам Юрыя. Так узнікла Ануфрыеўская абіцель, якая праславілася ў далейшым сваімі перапісчыкамі кніг.

Мсціслаўская зямля насычалася святасцю. Прайшло трыццаць гадоў з таго дня, як князь Сямён пачуў прадказанне Багародзіцы. Час яго выканання набліжаўся…

У пачатку XV стагоддзя стала зразумела, што супрацьстаянне крыжаносцаў і славян непазбежна павінна скончыцца вялікай вайной. Да яе старанна рыхтаваўся пыхлівы і ганарысты магістр Тэўтонскага ордэна Ульрых фон Юнінген. Яго мэтай было стварэнне Вялікай Тэўтоніі ад вострава Ругэн у Балтыйскім моры да Фінскага заліва. Дзеля гэтага да ўладанняў Ордэна трэба было далучыць землі Каралеўства Польскага, Вялікага Княства Літоўскага, Пскоўшчыну і Наўгародчыну.

У пачатку студзеня 1409 года ў Берасці сустрэліся Ягайла і Вітаўт, якія збіраліся абмеркаваць, як адбіць націск крыжакоў. Было вырашана выступіць супраць Ордэна сумесна і з усімі сіламі, якія ўдасца сабраць, даць рашучы бой. Яго вынік павінен вырашыць зыход усёй вайны.

Арміі Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага сустрэліся і аб'ядналіся 30 чэрвеня 1410 года пад Чэрвенскам. Сюды ж падышлі і тры палкі пад ачолам Сямёна Альгердавіча, мсціслаўскі, аршанскі і смаленскі. Яны ўжо ведалі, што за бітва іх чакае, і радасна славілі Багародзіцу. Дабраславенне Пустынскіх інакаў на праведны бой і малітва ля іконы Пустынскай Божай Маці надавалі ім упэўненасці ў перамозе. Па закліку Сямёна Альгердавіча на бітву з крыжаносцамі прыйшоў таксама вялікі атрад з Ноўгарада Вялікага. Вера князя Сямёна была такая моцная, што ўзяў ён з сабой на бітву нават пятнаццацігадовага сына свайго…

Вітаўт і Ягайла павялі войскі на сталіцу Тэўтонскага Ордэна Марыенбург. Войскі сустрэліся на шырокім полі ля вёсак Танэнберг ды Грунвальд. Каго толькі не было ў абедзвюх арміях! У шыхтах 51 харугвы крыжаносцаў акрамя саміх тэўтонцаў ішлі свецкія рыцары практычна з усіх дробных дзяржаў Германіі, атрады ваяроў з Англіі, Францыі, скандынаўскіх краін, нават некалькі шатландцаў. Больш таго, Ордэн падтрымаў венгерскі кароль са сваім войскам.

Сярод 50 польскіх харугваў 7 было з Заходняй Украіны. 40 харугваў пад начальствам Вітаўта былі сабраны з усёй Беларусі. Былі тут таксама літоўцы з Трок і Коўна, дружына з Валахіі, атрад чэхаў, татары хана Джэлал-ад-Дзіна.

Напярэдадні і ў пачатку бітвы пад Грунвальдам бушавала навальніца. Гэта не спрыяла крыжаносцам. Іх цяжкія коні маглі загразнуць у гразі. Ягайла ж і Вітаўт занялі пазіцыі ў пералесках. Таму крыжакі ўсяляк хацелі выманіць супраціўніка на адкрытую мясцовасць. Нават прыслалі па даўняй традыцыі праз герольдаў два мячы — як афіцыйны выклік, заяўляючы: яны гатовыя нават адысці, каб даць больш месца супраціўнікам.

Але палякі марудзілі. Ягайла доўга маліўся, праслухаўшы цэлых дзве месы. Вітаўт пайшоў у атаку. Яго сустрэў агонь артылерыі і арбалетчыкаў. Атака захлынулася, і цяжкая ордэнская жалезная «свіння» рушыла наперад…

Прайшла гадзіна. Стала падавацца, што перамога хіліцца ў бок Ордэна. Войска Вялікага Княства пачало адступаць. Некаторыя лічаць, што гэта быў хітры манеўр Вітаўта. Але сучаснікі сцвярджалі, што вялікі князь беспаспяхова спрабаваў спыніць тых, хто бег, збіваў і крычаў на іх. І толькі тры палкі князя Сямёна Альгердавіча, мсціслаўскі, аршанскі і смаленскі, цвёрда стаялі на месцы. Яны не сыйшлі з пазіцый нават тады, калі крыжакі «змялі» польскае войска, калі разгарнулася ўжо барацьба за вялікую польскую харугву і сам Ягайла спалохана скамандаваў свайму акружэнню: «Панове, да лясу!». Амаль усе воіны Сямёна Альгердавіча палеглі, але іх мужнасць дала магчымасць Вітаўту перагрупаваць войскі і зноў уступіць у бой. А чатыры рэзервовыя харугвы Вялікага Княства вырашылі, нарэшце, лёс бітвы.

Пыхлівы магістр Ульрых фон Юнінген загінуў на полі бою. Смерць напаткала ўсіх комтураў. Мяркуецца, што з 700 знатных ордэнскіх братоў жывымі засталіся толькі 15. Папа рымскі пісаў, што ўсяго пад Грунвальдам загінула 18 тысяч крыжакоў. Перамога была поўнай. Яна спыніла шматвекавую экспансію крыжаносцаў на славянскія землі.

Як жа склалася далейшае жыццё галоўнага героя Грунвальдскай бітвы, камандзіра трох непахісных харугваў, абранца Багародзіцы? Князь быў сціплым чалавекам і не ганяўся за зямной славай. Праз год пасля Грунвальда ён развітаўся з наўгародцамі, здзейсніўшы з імі апошні паход на шведскія землі, і назаўсёды ад'ехаў у Мсціслаўль. Тут ён жыў ціха і мірна, у гармоніі з Богам і самім сабой. Яшчэ раз жаніўся. Займеў у шлюбе яшчэ аднаго сына, Яраслава. Яшчэ раз аўдавеў. Памёр Сямён Альгердавіч у 1431 годзе (на семдзесят шостым годзе жыцця) інакам Пустынскай абіцелі. За некалькі гадоў да канчыны герой Грунвальда прыняў схіму і манаскае імя Алексій.

**Ірына Масляніцына**
**Мікола Багадзяж**

# Паэткі жаноцкасці

## Кнігі Насты Кудасавай і Ірыны Ляшкевіч

**Параўнанне дабратворна лагодзіць літаратурную крытыку, адбіраючы ў яе суб'ектывізм. Аднак творы паэтак з Рагачова Насты Кудасавай і са Століншчыны Ірыны Ляшкевіч параўноўваюцца як невядомыя велічыні.**





### Знаёмства з Н. К.

На выступе Насты Кудасавай атрымалася пабыць у берасцейскай творчай «Прасторы КХ» у 2016 годзе. Імя там на той час было невядомае.

Станоўча настройвала тое, што прэзентацыю вершаў сталічныя менеджары літаратуры зладзілі аўтарцы з перыферыі. Як-ніяк, свет усё больш ператвараецца ў глабальную вёску, і ў ёй, гэтай вёсцы, у самым глухім куце можа сядзець не абы які творца...

Як цяпер помню: чытанне фармальна нудзіла, і не толькі таму, што прыйшла купка берасцейцаў. Невыразнае гучанне не давала расчуць верш, і асаблівa раздражняла манера напрыканцы ўсё зводзіць да шэпту. І гэта, калі «на аўтамаце» ўжо зразумела: твор акцэнтуецца і акрэслівaецца часта і лагічна якраз канцоўкай, і менавіта яна powerpoint, «кропка сілы».

Сваё не самае ўдалае чытанне Н. Кудасава перапыняла расповедамі пра сябе. Даведаліся: мае адукацыю настаўніцы расейскай мовы і літаратуры, двaіх малых яшчэ дзяцей, якіх выхоўвае сама, праблемы з працаўладкаваннем, бо ў правінцыі рабочых месцаў нестае. Вырасла ў сям'і, дзе гаварылі на рускай (расейскай) мове. Але «я спрабавала па прозвішчы знайсці свае беларускія карані».

Такая шчырасць справакавала задаць пытанне: а ці ёсць жаночая паэзія? Госця адказала насцярожана, неяк у духу «літаратура бывае толькі добрай або не».

А дарма. Я не пра тое, што прайшла ўжо на той час не адна дыскусія на тэму, ці ёсць жаночая паэзія, і большасць удзельніц раз'ятрана адпрэчвалі «ружовае гета». Я пра тое, што прайшлі ўжо добрых паўгадзіны чытання, і атрымалася расчуць незвычайнасць пэўных радкоў, якія ніяк не мог напісаць мужчына...

«Не хачу ні мора, ні літасці. \\ толькі б з гэтага болю выпаўзці. \\ нібы ўласная скура мне здрадзіла, \\ і на мясе раздзёртым градзіны \\ скачуць вусцішна, саламейна. \\ забяры мяне ў край кялейны, каб — душа, і вакол — ні душы...».

Або такое:

«млынавае паўнавольнае \\ мовінае рамяство \\ вонкі зманлівымі ролямі \\ выварочвае на стол \\ што ламаецца што мелецца \\ скроні спрэс у скразняках \\ скальдзіца мая кялейніца \\ ненамольная мука».

Або гэты вельмі жаночы верш, не прачытаны з нейкай прычыны тады на прэзентацыі:







«падушка — бо падаць \\ і тварам, і духам, \\ балючую вадкасць \\ з вачніцаў выплюхваць, \\ зрабіцца маленькай \\ і безабароннай, \\ абняць за каленкі \\ сваю абалонку \\ і слухаць, як вулей \\ капошыцца ў сэрцы, \\ пакуль не прачнуліся \\ дзеці.»

Зусім не здзівіла, што надрукаваны неўзабаве пасля берасцейскай прэзентацыі зборнік Насты Кудасавай з вельмі паэтычным назовам «Маё невымаўля» быў названы Кнігай 2016 года.

### І нашы могуць

Праз год і ў нас пайшла пагалоска: ёсць паэтка, мае кнігу. «Вас я чакала, пэўна, Вас...\\ Калі апошні промень згас \\ Малінавага дня. \\ А шаты неба нада мной \\ І вечар сіняю сцяной — \\ Найблізкая радня. \\ Вам я шаптала, пэўна, вам \\ Кахання словы, а багам — \\ Малітвы ўдзячнасці. \\ Там сцежка вузкая ў траве, \\ І вэлюмам туман плыве, \\ Хвіліны шчаснасці. \\ Вы ўсё ж былі, напэўна, Вы... / Зляцелі гусі на ставы \\ З нябёс анёламі. \\ Пяшчотнасць Вашых вуснаў, рук... \\ А сведкі — той магутны дуб, \\ жаўрук над сёламі».

Першыя тры словы гэтага верша Ірына Ляшкевіч абрала назовам усёй кнігі. Друк узяло на сябе выдавецтва «Кнігазбор», прэзентацыі былі шмат дзе, найперш у Берасці, у Цэнтральнай гарадской бібліятэцы і ў Менску ў «Галерэі tut.by».

Кніга вельмі жаночая, поўная (чакання) пяшчоты, спадзявання шчасця, але і гаркаты, і мудрасці. Для яе, дарэчы, у Ірыны падставаў, мабыць, больш, чым у Насты: яна маці чатырох дзяцей, трое з іх, з першай сям'і, ужо дарослыя, гадуюць сваіх дзетак...

«Ты і маё каханне \\ ў палоне байфлая, вайфая. \\ у нас не было спатканняў, \\ але былі кветкі мая. \\ у нас былі думкі і словы, \\ яднанне шалёных сэрцаў, \\ у нас была родная мова \\ малітвай у адзінаверцаў. \\ сваіх не хавалі пачуццяў, \\ і Бог нам — не людзі! — у суддзі...»

А яшчэ больш жаноцкай паэтыкі тут: «Засцілаючы дол сухалісцем, \\ Не мінула ніводнай сцежкі, \\ Пэўна, восень адшуквала выйсце \\ На кароткім жыццёвым прамежку \\ З верасовай духмянай паляны, дзе самотаю бабіна лета...\\ Недзе яблык чакае крамяны \\ Еву-восень у садзе Сусвету. \\ Залатое шыкоўнае ўбранне \\ Пазрывалі вятры-ліхадзеі... \\ І на сцежцы сустрэла каханне, \\ А з каханнем адчула надзею...\\ На кароткім жыццёвым прамежку \\ найсалодшая Евіна сцежка...»

### Ведзьма-вядуння

Матывы нейкага force majeure вычытваюцца, але больш вычуваюцца і ў «невымоўным» Насты Кудасавай. На пярэдні план для мяне, аднак, выйшла чыста жаночая лінія ведавання і чараў. У Ірыны Ляшкевіч чытаем:

«Да крыжоў крыжовы шлях \\ праз жыццё да сконы. \\ над табою чорны птах, \\ над зямлёй паклоны. \\ у самоце твой Анёл, \\ у журбе — дарога. \\ памінальны людзям стол. \\ а малітвы Богу...»

Або яшчэ адзін заклён:

«за травамі, за цудадзейным зеллем \\ ад злых вачэй збягу ў купальскі луг.\\ дарогу сонца праменямі сцеле, \\ і кружыць галаву мядовы дух. \\ нам не шукаць з табою кветку шчасця. \\ пакінем іншым. Хай цвіце для іх. \\ я паспрабую сэрца тваё ўкрасці \\ купальскай варажбою хоць на міг».

У вершы «Кудаса» (мясцовае для «мяцеліца», як патлумачыла сама аўтарка) колеры відавочна больш цёмныя:

«Выдзьму твае спадзевы, \\ дзеі прыцерушу, \\ вусцішнай каралевай \\ выстуджу ўсю душу. \\ лепей адразу здайся \\ і не хавай ключы: \\ ад варажбы кудасы \\ моўкніку не ўцячы. \\ выцалую ўсе вершы — \\ заледзянее рот, \\ будзеш, жабрак бязвешні, \\ стыць халастым нутром. \\ я на кавадлах віру \\ лёс свой перакую — будзеш насіць як вырак \\ злую любоў маю!»

Але фіялет халоднай Н. Кудасавай у вершы «Плячо» саступае жаноцкай... так, руждвасці! 

«Плячом палячы, прытулі аж датуль, \\ пакуль не пачнецца віна, \\ прадыхай ратункам у скронь-слепату мне, \\ што я не адна, не адна. \\ хай збудзецца ўсё, што так страшна назваць, \\ што цепліца ў гронках-руках, \\ Пакуль я сплываю ў пляча твайго завадзь — \\ шчаслівы пакорны птах...»

### Гукапіс як ключ

Ірына Ляшкевіч, атрымаўшы дыплом эканаміста, аддала перавагу... свайму з малых гадоў захапленню — музыцы і фальклору, пайшла ў школу выкладаць гэты прадмет і стварыла ў сваёй вёсцы Мачуль узорны дзіцячы фальклорны гурт «Згадка». Натуральна, у яе вершах прысутнічае гэтая музычнасць. Прысутная ў яе таксама і гукасэнсіца, характэрная добрай паэзіі: «Пад паклоны вербалозу \\ Лодка лёгка слізгане. \\ І празрыстыя стракозы \\ Пажадаюць шчасця мне». Зацемім тое, што стане відавочным, бо прадметным неўзабаве: верш Насты Кудасавай жывіцца з мелодыкі гукаў, у той час як музыка радкоў Ірыны Ляшкевіч сатканая з добра падагнаных, як цаглінкі ў ладнай кладцы, словаў, мае песенную прыроду: «Слухай, слухай...\\ Слухай, слухай...\\ Плача вецер за акном. \\ Ноч — сівая векавуха \\ Поіць поўню над сялом. \\ Слухай, слухай...\\ За ракою, \\ За прыснежаным мастом \\ Вые воўк з такой тугою \\ Пахавальны свой псалом. \\ Сон ліліпаўскае ночы. \\ Адзіноты, смутку цень. \\ Сум дзявочы — лёс сірочы... \\ Слухай...\\ Хтосьці там прарочыць \\ Новы і шчаслівы дзень».

«Перагаласоўкі» ў вершах Насты Кудасавай больш канцэнтраваныя, у літарах нібыта прадказальныя, але сэнсам нечаканыя: «...загаіла б, ды гай далёка»; «Павучыны пявучы \\ даматканы радок — з тонкіх нітак сугучча́ў \\ праца роспачных ног»; «спатканне — тканне спаянасці, \\ спагады вышняй пагляд. \\ пакуль не спаліцца спальнасцю \\ душы нямое цяля, \\ пакуль бясцела, бяздотыкна \\ выдыхаем дзён палатно, \\ нам дадзена кожным спотыкам \\ радніцца ў адно радно...» («Спатканне»).

Для Насты Кудасавай беларуская мова — гэта набор пярлінаў, для нас шкляных, для яе дыяментавых, якімі яна смела і захоплена гуляецца, адкрываючы ў вясёлкава-прызматычным святле новыя сэнсы. Жывучы (з маёй веды) збольшага ў полі расейскай мовы, яна ўмее цаніць свежасць новага, і дай ёй Бог яе, гэтую свежасць, захаваць як мага даўжэй. Дарэчна было б сказаць тут пра феномен Максіма Багдановіча, — абы аўтарка не паскрўдзілася на маскулінізацыю.

Для Ірыны Ляшкевіч беларуская мова таксама спецыфічная, але па-іншаму, як для прыватнага свету Кудасавай — так, як яна спецыфічная ў нас у спецыфічнай краіне з назовам Беларусь.

З майго назірання і на маёй памяці рознага роду бальшавікі ўжо трэці раз нішчаць беларускія школы, прычым «шчыруюць» яны, пераводзячы іх на расейшчыну, найперш у чыста беларускай этнічнай зоне. А вось рэгіянальнае Палессе, з волі нейкай логікі, застаецца з беларускімі школкамі. Для палешукоў, якія дома гавораць не на «трасянцы», як гэта мае месца на Магілёўшчыне, у Цэнтральнай Беларусі або яшчэ дзе, а «па-свойму», беларуская мова — гэта чыста культуровы код, гуляцца з якім менш нагодаў. Адсюль больш «песенны» гукапіс у паэтыцы настаўніцы і фальклапрысткі са Століншчыны.

Дадам яшчэ адну рыску, якая пацвярджае сказанае. Наста Кудасава відавочна больш кніжная, абазнаная ў сусветнай літаратуры. Гэта ні паляпшае, ні пагаршае — гэта ўплывае. «Верасень — роспачны Вертэр — \\ лісце пакуе ў канверты, \\ пішa парывіста «Werde!» \\ моліцца дрэваў пажарам.... \\ Пойдзем з чужой грымёркі \\ ў край, дзе не дзейсны оркі, \\ выкрыкнем urbi et orbi \\ горлаў расхрыстаных праўду...»

Каб пацвердзіць папярэдняе «ні паляпшае, ні пагаршае», прывяду ў прыклад чатырохрадковік Ірыны Ляшкевіч: «Адны ўзлятаюць да нябёс. \\ Куды ж падзецца: Бог даў крылы! \\ Другім жа — павучыны лёс: \\ плясці інтрыгі да магілы».

**Яўген Бяласін**

**Фота з архіву Н. Кудасавай і І. Ляшкевіч**



# Прэмія імя Ісаака Бабеля

**У Залатой зале Адэскага літаратурнага музея ўрачыста ўзнагародзілі лаўрэатаў міжнароднай літаратурнай прэміі імя Ісаака Бабеля трэцяга сезона.**

Сёлета свае апавяданні на конкурс даслалі 237 намінантаў з 19 краінаў свету. Акрамя Украіны і Расіі ў конкурсе прынялі ўдзел аўтары з Аўстраліі, Арменіі, Беларусі, Германіі, Грузіі, Ізраіля, Казахстана, Канады, Кыргызстана, Латвіі, Нідэрландаў, ЗША, Турцыі, Узбекістана, Францыі, Чэхіі, Эстоніі.

Першую прэмію атрымаў Рэзо Габрыадзэ з Грузіі. Другую прэмію ўручылі Аляксею Курылка (Украіна), трэцюю — Міхаілу Бару (Расія).

«У кароткі спіс прэтэндэнтаў журы ўключыла 22 аўтары. Узровень быў настолькі высокі, што яшчэ пецярых празаікаў узнагародзілі дыпломамі конкурсу», — падзяліўся журы віцэ-прэзідэнт Сусветнага клуба адэсітаў Яўгеній Галубоўскі.

Галоўны прыз конкурсу — мініяцюрная статуэтка «Кола лёсу» (скульптары Георгій Франгулян і Міхаіл Рэва). А ў гэтым годзе М. Рэва стварыў яшчэ і памятны знак «Кола лёсу», які быў уручаны пісьменніку-сатырыку Міхаілу Жванецкаму з фармулёўкай «За ўсё!».

«Вельмі шмат людзей, якія вучаць нас жыць, але мала тых, хто вучыць стасавацца з жыццём, глядзець на яго не замыленымі, а ўдзячнымі, хоць і сумнымі, вачыма. Мы ўсе з'яўляемся вучнямі аднаго такога чалавека — Ісаака Бабеля. І калі мы ў яго дрэнна вучыліся, то гэта не яго віна, а наша», — рэзюмаваў старшыня журы Андрэй Дзмітрыеў.

# Беларусь — ганаровы госць Маскоўскай міжнароднай кніжнай выставы

**Як паведаміла Міністэрства інфармацыі РБ, сёлета на 32-й Маскоўскай міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы, якая з'яўляецца буйной падзеяй не толькі для айчынных, але і замежных кнігалюбаў, наша краіна стане ганаровым госцем кніжнага форуму.**




Па традыцыі кніжную выставу праводзяць у пачатку восені — з 4 па 8 верасня ў 75 павільёне ВДНГ. У рамках форуму на стэндзе «Кнігі Рэспублікі Беларусь» будуць прадстаўлены не толькі беларускія выданні. Запланавана правядзенне прэзентацый выдавецкіх праектаў, прысвечаных ключавым датам у гісторыі краіны: Году малой радзімы, 75-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і сумесных праектаў пісьменнікаў Беларусі і Расіі. Таксама беларуская дэлегацыя будзе прымаць удзел у цырымоніі ўзнагароджання лаўрэатаў Міжнароднага конкурсу «Мастацтва кнігі», які лічыцца галоўным аглядам кнігавыдаўцоў і паліграфіі краін СНД.

У мінулым годзе беларускае выданне — 101 пераклад верша Янкі Купалы «А хто там ідзе: на мовах свету» — атрымала вышэйшую ўзнагароду.

Камплект выданняў з Беларусі перададуць Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі «Беларусы Расіі».

# Папяровай кнізе — быць!

**Даследчыца з Універсітэта Ставангера ў Нарвегіі прафесарка Аннэ Манген заявіла ў інтэрв'ю «РІА Новости», што электронныя кнігі не змогуць цалкам замяніць папяровыя.**

З пункту гледжання навукі чытанне — складаны працэс, у якім задзейнічаны органы зроку, якія ўспрымаюць візуальную інфармацыю і якія перадаюць яе мозгу, дзе адбываецца «расшыфроўка» знакаў. Аднак спадарыня Манген звяртае ўвагу, што гэта яшчэ і цялесны вопыт: успрыманне прачытанага можа адрознівацца ад таго, што чалавек трымае ў руках — кнігу ці тэлефон, а таксама становішча: стоячы, седзячы ці ідучы.

«Фіксаванасць паперы як носьбіта тэкста, той факт, што тэкст не знікне, даюць чытачу «якары» для арыентацыі ў тэксце і ўспрымання прачытанага. Працэсы, якія адбываюцца ў часе чытання папяровай кнігі — трыманне кнігі ў руках, успрыманне знакаў, перагортванне старонак, нерухомасць тэксту, — усё гэта служыць «падпоркамі», якія палягчаюць кагнітыўныя намаганні пры ўспрыманні матэрыяла. І гэтыя «падпоркі» могуць быць асабліва важныя пры чытанні складаных для разумення тэкстаў», — адзначыла А. Манген.

«Пракручванне» тэкста на экране смартфона, наадварот, павялічвае кагнітыўную нагрузку.

Паводле даследаванняў, розніца ва ўспрыманні тэкстаў істотная, калі гаворка ідзе пра вялікія і складаныя матэрыялы, калі чытачу трэба доўга ўтрымліваць увагу на адным прадмеце і сачыць за храналогіяй падзей. Успрыманне кароткіх тэкстаў ды інструкцый, якія займаюць адну старонку або адзін экран, не залежыць ад носьбіта.

А. Манген выказала здагадку, што ўспрыманне тэкстаў будзе шмат у чым залежаць ад літаратурнага жанру.

Гаворачы аб далейшым лёсе папяровых кніг, А. Манген падкрэслівае, што важна адрозніваць сферы іх прымянення, а таксама звяртае ўвагу на розніцу паміж сітуацыяй у ЗША, Еўропе ды іншых краінах.

«У цяперашні час у сферы вышэйшай адукацыі, напрыклад, у ЗША, адзначаецца зрух у бок электронных кніг, аднак гэта шмат у чым тлумачыцца высокім коштам папяровых падручнікаў», — сказала экспертка.

Пры гэтым у шэрагу выпадкаў для навучання папяровыя кнігі могуць саступаць больш наглядным мультымедыйным матэрыялам. На думку А. Манген, задача даследчыкаў і чыноўнікаў у сферы адукацыі — знайсці правільны баланс паміж матэрыяламі, якія павінны быць прадстаўлены ў лічбавым фармаце і ў традыцыйным папяровым.

Пры гэтым яна спакойная за лёс папяровых кніг. «Статыстыка паказвае, што продажы электронных кніг тыпу Kindl, створаных спецыяльна для чытання доўгіх тэкстаў, у цяперашні час практычна не растуць», — заўважыла яна.

А. Манген развенчвае міф пра тое, што прадстаўнікі «лічбавага пакалення», маладыя людзі, якія нарадзіліся пасля распаўсюджвання інтэрнэту і лічбавых тэхналогій, аддаюць перавагу электронным кнігам. «Нельга сцвярджаць, што маладое пакаленне зможа больш чытаць з экрана, калі яны будуць станавіцца старэй. На самай справе даследаванні паказваюць адваротнае, — адзначыла яна. — Так што нам не варта турбавацца, што папяровыя кнігі знікнуць».

# Мільён даляраў за першае выданне «Яўгенія Анегіна»...

**Паводле паведамлення BBC News, першае выданне вядомага рамана ў вершах Аляксандра Пушкіна «Яўгеній Анегін» прадалі на таргах аўкцыённага дома «Christie's» у брытанскай сталіцы за 467,2 тысячаў фунтаў стэрлінгаў.**

Гэты кошт стаў утрая большым за ацэначны, паколькі лот складаў каля 120–160 тысячаў фунтаў стэрлінгаў.

У аўкцыённым доме заявілі: «Гэтае выданне «Яўгенія Анегіна» — сапраўдная бібліяграфічная рэдкасць. У камплект уваходзіць выданне першай часткі рамана ў арыгінальным пераплёце». Першае выданне рамана Аляксандра Пушкіна «Яўгеній Анегін» 1825–1827 гадоў пабачыла свет у друкарні дэпартамента народнай асветы Санкт-Пецярбурга.

На сайце аўкцыённага дома адзначаецца, што на таргі «Залаты век рускай літаратуры» было выстаўлена 121 рэдкае друкаванае выданне з прыватных еўрапейскіх калекцый, сярод іх творы Пушкіна, Лермантава, Гогаля, Фета, Дастаеўскага ды іншых рускіх класікаў.

Быў прададзены лот 35: «Лірычны пантэон» Апанаса Фета — рэдкае першае выданне першай кнігі вершаў паэта, выдадзенае аўтарам пад крыптонімам «А.Ф.», калі



аўтар быў студэнтам Маскоўскага універсітэта і членам гуртка Апалона Грыбаедава. Паэтычны зборнік купілі за 100 тысячаў фунтаў, пяцікратна перавысіўшы пачатковую ацэначную суму.

За 175 тысячаў фунтаў стэрлінгаў быў прададзены лот 36: двухтомнік Мікалая Гогаля «Вечары на хутары ля Дзіканькі» — вельмі рэдкае выданне першага шэдэўра М. Гогаля.

# Помнікі мушкецёрам

**Помнікі ставяць не толькі вялікім пісьменнікам, але і іх папулярным літаратурным героям.**

88 гадоў таму — 12 ліпеня 1931 года — у Ошы, адміністрацыйным цэнтры акругі Ош і дэпартамента Жэр ды галоўным горадзе гістарычнай правінцыі Гасконь у Францыі быў усталяваны помнік у гонар, мабыць, самага вядомага гасконца ў свеце — мушкецёра д'Артаньяна. Манумент усталявалі герою знакамітага цыкла прыгодніцкіх раманаў вядомага французскага пісьменніка і кулінара Аляксандра Дзюма.

Раман «Тры мушкецёры», а таксама «Граф Монтэ-Крыста» чыталі амаль усе і, як правіла, у юным узросце. А калі хто і не чытаў, то дакладна глядзеў экранізацыю рамана пра легендарную чацвёрку мушкецёраў.

З нядаўняга ж часу ў французскай Гасконі стаіць помнік, да якога прыклаў руку... Адгадайце, хто? Вядомы маскоўскі скульптар Зураб Цэрэтэлі.

Менавіта ён стварыў і падарыў помнік «Чатыры мушкецёры» мсье Мантэск'ё — нашчадку роду д'Артаньяна. Аднак Мантэск'ё вырашыў падарыць гэты помнік гасконскаму гораду Кандом, які быццам бы лічыцца мушкецёрскай сталіцай Гасконі. Манумент устаноўлены на галоўнай плошчы горада.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# «Белоруссия» ў Крыме: грошы не пахнуць?

« Працяг.
Пачатак на стар. 6

Згаданы ў адказе Закон, а таксама зацверджаны Кабмінам Украіны Парадак уезду і выезду на часова акупаваную тэрыторыю цалкам рэгулююць рэжым перасячэння адміністрацыйнай мяжы з Крымам. Згодна з украінскім заканадаўствам, іншаземцы могуць патрапіць на тэрыторыю акупаванага паўвострава толькі пры наяўнасці ў іх спецыяльнага дазволу, выдадзенага Дзяржаўнай міграцыйнай службай Украіны, праз КПП на падкантрольнай Украіне тэрыторыі. Парадак уезду і выезду рэгламентуюць 12 умоваў, наяўнасць якіх неабходная для атрымання спецдазволу.

Аналізуючы выкладзенае вышэй, можна прыйсці да высновы, што і Андрасюк, і Філон, цалкам магчыма, не мелі і не маюць законных падстаў для знаходжання на тэрыторыі Крыма. Яны могуць быць прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці і нават да крымінальнай у выпадку, калі сілавыя ведамствы Украіны атрымаюць дастатковыя дадзеныя, што будуць сведчыць пра іх дзейнасць на шкоду нацыянальным інтарэсам Украіны.

Паказальна, што Кіраванне справамі Лукашэнкі на сваім інфармацыйным сайце аж да 2017 года пазначала прыналежнасць Крыма да Расійскай Федэрацыі. Пасля грамадскага абурэння згадку пра Расію і афіцыйнае акупацыйнае найменне ўкраінскага паўвострава прыбралі, пакінуўшы нейтральную геаграфічную назву. Аднак у рэквізітах дамоваў, нягледзячы на адсутнасць афіцыйнага прызнання Беларуссю Крыма расійскім, адміністрацыя санаторыя працягвае пазначаць яго прыналежнасць да Расіі. Цікава, што іншае структурнае падраздзяленне КСП — ДУ «Цэнтр па санаторна-курортнай працы Цэнтркурорт» — таксама працягвае пазначаць украінскі Крым як тэрыторыю Расійскай Федэрацыі.

Больш за тое, установа адкрыта прапануе замовіць турыстычныя туры ў Крым з датамі заезду і зніжкамі на перыяд «аксамітнага» сезону 2019 года. Пры гэтым на інфармацыйных рэсурсах Кіравання справамі прэзідэнта цалкам адсутнічае інфармацыя пра законны парадак уезду на часова акупаваную тэрыторыю Украіны. Непасрэдна на сайце санаторыя КСП адкрыта пазначаныя варыянты, з дапамогай якіх можна патрапіць у яго з тэрыторыі Беларусі, аднак усе яны — з грубейшымі парушэннямі законаў Украіны. Найбольш абуральна тое, што сайт санаторыя КСП наўпрост прапануе скарыстацца паслугамі ТАА «БелЭкспрэс Бай» — кампаніі, якая арганізуе аўтобуснае злучэнне Беларусі з Крымам у абход Украіны.

Паводле інфармацыі Адзінага дзяржаўнага рэгістра юрыдычных асобаў і індывідуальных прадпрымальнікаў Міністэрства юстыцыі РБ, ТАА «БелЭкспрэс Бай» зарэгістраваная Гомельскім гарвыканкамам адносна нядаўна — у лютым 2017 года.



Прим. № __

СЛУЖБА БЕЗПЕКИ УКРАЇНИ

Департамент інформаційно-аналітичного забезпечення

**Управління взаємодії із засобами масової інформації та громадськістю**

вул. Володимирська, 33, м. Київ, 01601
Тел./факс (044) 279-30-40
E-mail: pressinfo@ssu.gov.ua
Код ЄДРПОУ 00034074

21.08.19 № 44/3-286, 287, 288, 289-н/215
На № ________ від ________

**Івашин Денис Євгенович**

За дорученням керівництва Служби безпеки України в межах компетенції розглянуто Ваші запити від 15.08.2019. Повідомляємо про таке.

Статус території України, тимчасово окупованої внаслідок збройної агресії Російської Федерації, визначено Законом України "Про забезпечення прав і свобод громадян та правовий режим на тимчасово окупованій території України". Зазначеним Законом встановлено особливий правовий режим на цій території. Законом визначено, зокрема, правовий режим майна на тимчасово окупованій території, порядок в'їзду осіб на цю територію та виїзду з неї тощо.

У разі отримання Службою безпеки України достатніх даних, які свідчать про діяльність фізичних чи юридичних осіб на шкоду національним інтересам України, вживаються заходи правового реагування, у тому числі на розгляд РНБО України може бути внесено пропозиції щодо застосування до таких осіб відповідних санкцій, передбачених Законом України "Про санкції".

Інша інформація наразі відсутня.

**Начальник Управління** **О. Гітлянська**

**Усё зазначанае павінна стаць прадметам пільнага разбіральніцтва перадусім знешнепалітычнага ведамства, а таксама следчых органаў Украіны. Беларуская ж і ўкраінская грамадзянскія супольнасці павінны здзяйсняць належны кантроль над аднаўленнем і захаваннем законнасці**

Асноўны від дзейнасці — перавозка аўтобусамі рэгулярнага спалучэння, апроч гарадскіх і прыгарадных. Аднаасобным уласнікам кампаніі з'яўляецца Дзяніс Пятровіч Папкоў.

Апроч здзяйснення функцыяў перавозніка кампанія Папкова прапануе таксама турыстычныя паслугі з адпачынкам у Алушце, Еўпаторыі, Сімферопалі, Судаку, Феадосіі і іншых украінскіх гарадах на ўзбярэжжы Крыма. Гомельская кампанія, рэкламу якой робіць сайт санаторыя Кіравання справамі Лукашэнкі, настолькі ўпэўнена і беспаракана сябе адчувае, што цалкам адкрыта пазначае маршрут аўтобуснага злучэння з Мінска ў Феадосію ў абход Украіны.

Кампаніяй арганізаваны выезд у акупаваны Крым не толькі са сталіцы Беларусі, але і з іншых буйных беларускіх гарадоў — з Бабруйска, Жлобіна ды Гомеля. Менавіта праз гэтыя гарады пралягае аўтобусны маршрут дастаўкі кліентаў кампаніі на часова акупаваную тэрыторыю Украіны. З Гомеля аўтобус накіроўваецца ў расійскі Бранск, затым выпраўляецца ў Арол, адтуль у Варонеж, Растоў-на-Доне і Краснадар. З Краснадару адбываецца больш за 200-кіламетровы пераход да Керчанскага моста. Далей маршрут ідзе праз Керч, Феадосію, Грушаўку, Сімферопаль, Алушту, Ялту і Карэіз, канцавым пунктам ёсць ДМУ «Санаторий "Белоруссия"». Першы рэйс да гэтага санаторыя з Беларусі кампанія «БелЭкспрэс Бай» здзейсніла ў чэрвені 2017 года.

| | | |
|---|---|---|
| | **Наименование юридического лица** | |
| 4 | Полное наименование на русском языке | Общество с ограниченной ответственностью "БелЭкспресс Бай" |
| 5 | Сокращенное наименование на русском языке (при наличии) | ООО "БелЭкспресс Бай" |
| 6 | Полное наименование на белорусском языке | Таварыства з абмежаванай адказнасцю "БелЭкспрэс Бай" |
| 7 | Сокращенное наименование на белорусском языке (при наличии) | ТАА "БелЭкспрэс Бай" |
| | **Сведения о государственной регистрации юридического лица** | |
| 8 | Государственный орган (иная организация), осуществивший государственную регистрацию | Гомельский горисполком |
| 9 | Дата государственной регистрации и номер решения* | 14.02.2017 |
| 10 | Дата внесения в ЕГР последней записи по субъекту | 01.08.2019 |
| 11 | Способ создания | Создание |
| | **Основной вид деятельности юридического лица** | |
| 17 | Код вида деятельности по ОКЭД и его наименование | 49391 - Перевозки автобусами в регулярном сообщении, кроме городских и пригородных |
| | **Сведения о собственнике имущества (учредителях, участниках)*** ** | |
| | **Физические лица******** | |
| | Фамилия, собственное имя, отчество (если таковое имеется) (страна гражданства) | Попков Денис Петрович (Республика Беларусь) |
| | Дата включения в ЕГР | 14.02.2017 |
| | Размер доли (в процентном соотношении или в виде дроби) и вклада (с указанием вида вклада) в уставном фонде, вид валюты | 100%, 100 (денежный), Белорусский рубль (BYN) |

**Вытрымка з выпісу АДР Мінюста РБ адносна ТАА «БелЭкспрэс Бай»**

ПАССАЖИРСКИЕ ПЕРЕВОЗКИ
БЕЛЭКСПРЕСС
КРУГЛЫЙ ГОД

Главная > Отдых > Отдых в Феодосии из Минска

Поездка Минск-Феодосия

Автобус Минск – Феодосия через Россию, огибая Украину, доставит вас на побережье Крыма. Вам останется лишь наслаждаться поездкой, которая пролетит быстро и комфортно. Если вы хотите добраться до крымского курорта максимально быстро и без пересадок, лучшим решением будет купить билеты Минск – Феодосия!

Автобус следует в обе стороны, поэтому он доставит вас не только из столицы Беларуси на курорт, но и обратно. Мы позаботились о том, чтобы сделать поездку максимально приятной:

- проложили оптимальный маршрут;
- установили доступные цены;
- оснастили автобус кондиционерами и мультимедийными системами.

Цікава, што кантактныя тэлефоны «БелЭкспрэс Бай» выкарыстоўваліся ў рэкламе незаконных паездак у Крым яшчэ да стварэння самой кампаніі. Гэта бачна з матэрыялаў пабліка кампаніі ў сацсетцы «ОК», да якога праваахоўныя органы Украіны, цалкам магчыма, праявяць інтарэс.

Аўтобусныя перавозкі ў акупаваны Крым кампанія здзяйсняе разам з партнёрскімі арганізацыямі з Бранску — ТАА «Евробус» і «Русалка-Тур» (апошняя з'яўляецца агентам яшчэ аднаго перавозніка — ТАА «Клен 2»). Квіток да санаторыя з Мінска каштуе ад 5400 да 6000 расійскіх рублёў. Паездка ў дзве тысячы кіламетраў у адзін бок займае каля 40–42 гадзінаў. Варта асабліва зазначыць, што адсутнасць прыбіральні ў аўтобусах, спазненні і іншыя негатыўныя фактары сталі прычынай вельмі адмоўных водгукаў пра ТАА «БелЭкспрэс Бай» на партале onliner.by.

Характэрна, што «БелЭкспрэс Бай» прадугледзела магчымасць для незаконнага наведвання Крыма і для замежнікаў, у тым ліку і для грамадзян Украіны. Дзеля гэтага арганізавана праходжанне міжнароднага памежнага пункту пропуску «Тры сястры», які легалізуе знаходжанне замежных грамадзянаў на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі. Пры гэтым кампанія, як і інфармацыйныя рэсурсы КСП, абсалютна не папярэджвае сваіх кліентаў пра незаконнасць падобных паездак на часова акупаваную тэрыторыю Украіны. Не паведамляе кампанія і пра адказнасць, у тым ліку крымінальную, і пра судовы пераслед, пад які можа патрапіць кожны, хто незаконна перасякае ўкраінскую дзяржаўную мяжу.

Незаконны крымскі экспрэс забяспечвае санаторый «Белоруссия» пэўнай колькасцю беларускіх кліентаў, аднак значная частка спажыўцоў яго курортна-санаторных паслугаў усё ж паходзіць з тэрыторыі Расіі. Гэтаму спрые ўключэнне санаторыя ў рэкамендацыйныя спісы лекавальна-прафілактычных установаў у межах дамоваў медычнага страхавання РФ. Санаторый «Белоруссия» падобным чынам занесены ў спіс рэабілітацыйна-аднаўляльнага лекавання працаўнікоў АТ «Улан-Удэнский авиационный завод», які вырабляе, напрыклад, вайскова-транспартныя верталёты Мі-8АМТШ.

Апроч гэтага санаторый КСП удзельнічаў і перамагаў у не менш чым сямі тэндэрах. Адным з асноўных яго замоўнікаў з'яўляецца АТ «Транснефть — Центральная Сибирь» — даччыная структура кантраляванай расійскай дзяржавай адной з найбуйнейшых нафтаправодных кампаніяў у свеце — ПАТ «Транснефть». Надаваў свае паслугі санаторый і для арбітражнага суда Севастопаля, і для Дэпартамента працы і сацабароны насельніцтва Масквы.

Падсумоўваючы ўвесь масіў пададзенага матэрыялу, можна канстатаваць, што на тэрыторыі акупаванага Крыма ўжо больш за пяць гадоў здзяйсняе камерцыйную дзейнасць санаторый Кіравання справамі прэзідэнта Беларусі з эксплуатацыяй украінскіх рэсурсаў, выкарыстаннем амаль 12 гектараў тэрыторыі, у тым ліку 8,5 гектара — унікальнага помніка садова-паркавага мастацтва пачатку XX стагоддзя, — а таксама прычалу для стаянкі малых суднаў, пры гэтым пералічвае падаткі і іншыя плацяжы непасрэдна дзяржаве-агрэсару — Расійскай Федэрацыі. У той жа час санаторый мае падатковую пазыку перад Украінай, сплачваць якую не спяшаецца. Апроч гэтага, інфармацыйны рэсурс санаторыя прапануе здзяйсняць парушэнне рэжыму перасячэння ўкраінскай дзяржаўнай мяжы, ангажуе і рэкламуе кампанію, што здзяйсняе незаконнае транспартнае злучэнне Беларусі з Крымам у абыход Украіны. Дзяржслужбоўцы Беларусі, меркавана, незаконна трапляюць і знаходзяцца на тэрыторыі акупаванага Крыма.

Усё зазначанае вышэй павінна стаць прадметам пільнага разбіральніцтва перадусім знешнепалітычнага ведамства, а таксама следчых органаў Украіны. Беларуская ж і ўкраінская грамадзянскія супольнасці павінны здзяйсняць належны кантроль над аднаўленнем і захаваннем законнасці, бо гэта ёсць адным з ключавых фактараў існавання цывілізаванага грамадства.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Зноў антыалкагольная кампанія?

Яшчэ цалкам не забылася антыалкагольная кампанія Гарбачова, а ў Расіі зноў клічуць да бітвы з «зялёным зміем». Праўда, гэтым разам дзейнічаць прапануецца з улікам часу. Таму вырашана рабіць стаўку на прадпрымальнікаў. Іх абавяжуць закупіць алкатэстары і праводзіць праверкі сярод персаналу. Праверкі прапануецца ладзіць як планава, так і раптоўна, без паведамлення. Прычым у выпадку адмовы ад праходжання тэсту супрацоўнік лічыцца «станоўчым», гэта значыць п'яным. Самы смешны пункт у праграме Міністэрства аховы здароўя — заклік да працадаўцаў абыходзіцца без алкаголю на карпаратывах. Ідэя карпаратываў без алкаголю імгненна выклікала ў памяці так званыя «камсамольскія вяселлі», калі моладзь абавязвалі святкаваць шлюб без алкаголю на стале. Адсюль скептычная ацэнка вынікаў будучай кампаніі ў грамадстве. Дарэчы, у прынцыпе, узровень сярэдняга спажывання спіртнога ў Расіі істотна знізіўся з 2006 па 2018 год — з 18 да 9–10 літраў на чалавека ў год. З іншага боку, 9–10 літраў — таксама шмат.

**Паводле расійскай прэсы**

### ПАР. Забарона дзяржаўнага сцягу

Вярхоўны суд Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі (ПАР) пастанавіў забараніць дзяржаўны сцяг. Гаворка пра стары ўзор сцяга ПАР, што быў дзяржаўным сімвалам з 1928 па 1994 год. Большая частка гэтага перыяду выпала на часы рэжыму Апартэіду. Таму пасля яго краху вырашылі змяніць і сімвал дзяржавы. Стары сцяг — тры (аранжавая, белая і зялёная) гарызантальныя паласы з вывяй сцягоў Брытаніі і бурскіх рэспублік, пазбавілі афіцыйнага статусу. Аднак яго, як і раней, можна было пабачыць на палітычных акцыях. Справа ў тым, што гэты сімвал стаў выкарыстоўвацца прыхільнікамі расізму і панавання афрыканцаў. Урэшце грамадскія актывісты пачалі заклікаць да забароны трыкалора. Дзякуючы юрыстам фонду Мандэлы справа трапіла ў суд, які задаволіў просьбу пазоўнікаў. Галоўным доказам стаў інцыдэнт у 2017 годзе, калі белыя фермеры пад тым сцягам забілі некалькі чалавек. Як вынік, суддзі пагадзіліся, што стары сімвал ПАР стаў «інкарнацыяй нянавісці», і забаранілі ўжываць яго публічна за выключэннем навуковых і гістарычных імпрэзаў.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Клімат альбо дзеці?

Рэзананс выклікала інтэрв'ю прынца Гары выданню «Vogue», у якім ён заклікаў не нараджаць больш за двух дзяцей, каб ратаваць клімат. Логіка зразумелая: чым больш людзей на планеце, тым горш для атмасферы, якая пакутуе ад спажывецтва людзей. Аднак грамадскасць у сваіх ацэнках словаў Гары падзялілася. Некаторыя кажуць, што прынц прапануе занадта радыкальны рэцэпт. Змагацца за клімат можна інакш — праз свядомую адмову ад тураў у экзатычныя краіны, куды трэба ляцець самалётам. Або адмовіцца ад машыны на карысць ровару ці запісацца ў шэрагі вегетарыянцаў. Тым не менш, ёсць у прынца і прыхільнікі. Яны спасылаюцца на вучоных, што правялі цікавыя разлікі. Паводле гэтых вынікаў, адмова ад нараджэння дзіцяці аўтаматычна скарачае выкіды ў атмасферу на 58,6 тоны вуглякіслага газу — менавіта такую шкоду прычыняе клімату сярэднестатыстычны чалавек на працягу свайго жыцця. І гэта сапраўды вельмі значная лічба. З іншага боку, заклік Гары тычыцца ў лепшым выпадку жыхароў Захаду, дзе і так дэмаграфія кульгае. Таму адмова ад нараджэння дзяцей у той жа Брытаніі наўрад ці кардынальна выправіць стан рэчаў.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ЗША. Далёкае рэха Спарты

Аказваецца, амаль усе арганізатары тэрактаў апошніх часоў у сваіх маніфестах пазітыўна ўзгадвалі антычную Спарту. А Патрык Крузіус, які 3 жніўня забіў у Эль-Паса 22 чалавекі, наогул страляў і крычаў: «Гэта Спарта!» Чаму сярод экстрэмістаў, як мінімум правых, Спарта займае такое значнае месца? Палітолагі кажуць, што спасылкі на Спарту выкліканыя спробай давесці магчымасць мадэлі, калі маленькая група кантралюе большасць. Гутарка пра тое, што спартанская вайсковая эліта прымушала працаваць на сябе колькасна большую групу ілотаў. У праекцыі на тыя ж ЗША гэта азначае магчымасць дамінавання белай расы над афраамерыканцамі і лацінас. Цікавіць экстрэмістаў і тэма бітвы пры Фермапілах як ілюстрацыя таго, што жменька людзей можа змяніць гісторыю. А вось што рабіць грамадскасці з той Спартай, адказаў няма. Пакуль прапануецца падкарэктаваць падручнікі, каб давесці моладзі, што легенда пра Спарту шмат у чым супярэчыць рэальнасці. Спартанская эліта вяла дастаткова геданічны лад жыцця, а лакальны рэжым наўрад ці можна лічыць эталонам антычнай дэмакратыі. Затое, падаецца, што ў аўтарaў славутага фільму «300 спартанцаў» будзе шмат праблемаў. Менавіта гэтая стужка рэжысёра Чака Снайдэра, якая распавядае пра бітву пад Фермапіламі, стварыла Спарце прывабны імідж у вачах правых экстрэмістаў.

**Паводле польскай прэсы**

# Усход — справа тонкая

*Алег НОВІКАЎ*

**Яшчэ ўчора лічылася, што 1 верасня ўвесь свет будзе ўзгадваць юбілей пачатку Другой сусветнай вайны. Аднак, магчыма, топавай падзеяй уік-энду будуць выбары ў дзвюх нямецкіх усходніх землях.**



Фота www.foreignpolicy.com

Галасуюць 1 верасня землі Брандэнбург і Саксонія, візітнай карткай якіх стаў феномен правага папулізму. Прычым, цяпер правыя папулісты нацэліліся на тое, каб выйграць выбары ў абодвух рэгіёнах. І пакуль сацыялогія не аспрэчвае такі варыянт развязкі нядзельнага галасавання.

Якія наступствы можа мець канфуз дэмакратычных сілаў на Усходзе? Перш за ўсё, ён выявіць, напэўна, відавочныя цяжкасці ў працэсе інтэграцыі Германіі. Гэты момант выклікае шмат у каго сапраўдную душэўную траўму. Неўзабаве 30-я гадавіна аб'яднання, а яшчэ ўчора ледзь не вар'ятамі лічыліся тыя, хто ставіў пад пытанне паспяховую інтэграцыю «осі» (мянушка ўсходніх немцаў) і «весі» (заходнія немцы). Сёння амаль усе пагаджаюцца з тым, што працэс аб'яднання пакуль не закончаны, і тут яшчэ спатрэбіцца шмат зрабіць. Праўда, канкрэтных прапановаў асабліва не чуваць. Хіба што можна ўзгадаць забаўную ідэю Левых — увесці квоту для прадстаўнікоў з былой ГДР у дзяржструктурах.

Фатальныя наступствы могуць мець вынікі выбараў для партыі Меркель — Хрысціянска-дэмакратычнага саюза (CDU), што сёння руліць у Саксоніі і мае другую дэпутацкую групу ў ландтагу Брандэнбурга. Хутчэй за ўсё, у Саксоніі кансерватары застануцца пры штурвале ўлады за кошт новых міжпартыйных камбінацый. Аднак пры гэтым яны могуць шмат страціць і прапусціць наперад «Альтэрнатыву для Германіі» (AfD), якая стане фармальным пераможцам. Такі вынік дакладна паслабіць вагу партыі на федэральным узроўні.

Правал дакладна прыпішуць міністру абароны і фармальнаму лідару партыі Анегрэт Крамп-Карэнбаўэр, якую Меркель лічыць сваёй пераемніцай. Паколькі гэта будзе ўжо другі пракол кансерватараў пад кіраўніцтвам Карэнбаўэр (першым фіяска сталі травеньскія выбары ў Еўрапарламент), нельга выключыць, што транзіт улады ў кіраўніцтве CDU выкліча шматлікія праблемы.

Яшчэ адна інтрыга — як выбары 1 верасня адаб'юцца на ўнутранай кухні сацыял-дэмакратаў, у якіх зараз у разгары праймерыз на пасаду сустаршыняў. Вынік стопрацэнтна паўплывае на расклад унутрыпартыйнага галасавання. У выпадку правалу эсдэкаў гэта будзе допінгам для кандыдатаў, што выступаюць за як мага хутчэйшы выхад з урадавай кааліцыі з Меркель, што пагражае агульнай дэстабілізацыяй. Вынікі праймерыз будуць вядомыя 26 кастрычніка.

Нельга сказаць, што ў партыі Меркель не разумеюць: стаўкай на выбарах 1 верасня можа стаць лёс кабміну. Таму ў яе выбарчых штабах на месцах касцямі кладуцца, каб прадэманстраваць годны вынік. Каб яго дасягнуць, трэба, у тым ліку, мець адказ на «рускае пытанне».

Праблема нямецка-расійскіх адносін нечакана стала адной з самых важных тэмаў падчас гэтых выбараў, хаця міжнародная палітыка не ёсць кампетэнцыяй ландтагаў і зямельных урадаў. Гэта тлумачыцца настальгіяй па часах ГДР і стратамі ад санкцый, якія выклікалі ў абодвух землях моцныя прарасійскія настроі. Сёння прыкладна 75 працэнтаў усходніх немцаў патрабуюць пацяплення на Усходзе. Каб пасаваць настроям выбаршчыкаў, практычна ўсе структуры (акрамя, напэўна, Зялёных) намагаюцца выявіць сябе пуцінафіламі.

**Неўзабаве 30-я гадавіна аб'яднання, а яшчэ ўчора ледзь не вар'ятамі лічыліся тыя, хто ставіў пад пытанне паспяховую інтэграцыю «осі» і «весі». Сёння амаль усе пагаджаюцца з тым, што працэс аб'яднання пакуль не закончаны, і тут яшчэ спатрэбіцца шмат зрабіць**

Найбольш смешна гэта атрымліваецца ў партыі Меркель, якая вымушаная балансаваць на двух крэслах. З аднаго боку, Меркель больш-менш трымае курс на працяг санкцый, крытыкуе ідэю вяртання Расіі ў «Вялікую васьмёрку», падтрымлівае Кіеў. З іншага — яе гаўляйтары ў Брандэнбургу і Саксоніі, наадварот, лятаюць у Расію, праводзяць перамовы з Пуціным, абяцаюць адмену санкцыйнага рэжыму.

Нарэшце, эксперты кажуць пра сур'ёзныя наступствы выбараў для лёсу дэмакратыі ў Германіі. Прафнепрыдатнымі аказаліся тыя, хто ўспрымаў першыя электаральныя поспехі «Альтэрнатывы для Германіі» за экспромт, спісваў усё на сітуатыўнае пратэстнае галасаванне. Цяпер ужо няма сумневаў, што партыя намацала ў шэрагу рэгіёнаў сваю сацыяльную глебу, і самае галоўнае — навучылася, як эксплуатаваць адчужанасць грамадзян ад сістэмы і палітыкаў. Менавіта пад сцягі AfD ідуць тыя, хто раней ігнаравалі выбары і цураўся палітыкі. Куды можа прывесці гэты трэнд — пакуль загадка нават для самых аўтарытэтных зброяў нямецкай паліталогіі.

Свой прагноз наконт вынікаў і наступстваў нядзельнага галасавання для «Новага Часу» агучыў Маціа Фішэр, нямецкі экалагічны актывіст:

— Відавочна, што выбары ва Усходняй Германіі праходзяць у межах тэндэнцыі, якая паўстала на выбарах у Еўрапарламент, калі перамогу святкавалі правыя папулісты і Зялёныя. Тое ж самае будзе і 1 верасня, толькі ў буйнейшых маштабах. Зялёныя, якіх разглядалі як фрыкаў, могуць атрымаць у Брандэнбургу аж 12 працэнтаў. Прычым эколагі і правыя здабываюць перамогі за кошт вядучых партый мейнстрыму, якія гэтым разам усё ж захаваюць большасць і кантроль над адміністрацыямі. Аднак гэта, падаецца, ужо ў апошні раз. Таму варта чакаць, што пасля выбараў праблема Усходняй Германіі стане адной з галоўных тэмаў нямецкай палітычнай палемікі. Інакш мы пабачым паступовую інфільтрацыю «Альтэрнатывы для Германіі» ў структуры ўлады. Прынамсі, на месцах некаторыя кансерватары і нават эсдэкі гатовыя шукаць з папулістамі кампраміс», — мяркуе эксперт.




# Трампа Трампам выбіваюць

Алег НОВІКАЎ

**Прэзідэнцкая кампанія 2020 года за акіянам набірае ход і становіцца падобнай на латарэю, пераможцам якой можа стаць Марыяна Уільямсан.**

Пакуль можна смела даваць толькі адзін прагноз: калі Уільямсан сапраўды ў наступным годзе выйдзе ў фінал прэзідэнцкай гонкі, наш рэгіён будзе, хутчэй, сімпатызаваць ёй, а не Трампу. Яе бацькі — нашчадкі габрэйскіх перасяленцаў з еўрапейскай часткі Расійскай імперыі, цалкам магчыма — з Беларусі. Вядома, што напярэдадні эміграцыі ў Злучаныя Штаты прозвішча яе дзеда было Вішнеўскі.

Што тычыцца непасрэдна амерыканцаў, то жанчына папулярная праз сваю незвычайную прафесію. Шмат каго вабіць перспектыва, калі галоўную пасаду ў краіне будзе займаць гуру. Да таго ж, перш, чым падаць у прэзідэнты, Уільямсан зрабіла сабе кар'еру ў якасці пісьменніцы і тэрапеўта, што падчас спірытуальных сеансаў дапамагае «знайсці сябе». І трэба прызнаць, у гэтай сферы яна дасягнула значнага поспеху. Чатыры яе кнігі сталі бестселерамі, а сама Уільямсан лічыцца адной з самых паспяховых бізнес-ледзі краіны.

Някепская кар'ера для дзяўчынкі з Х'юстану, якая, скончыўшы школу ў родным горадзе, навучалася тэатральнаму мастацтву і філасофіі ў каледжы. Пасля Марыяна Уільямсан адправілася ў Нью-Ёрк рабіць кар'еру спявачкі. У 1977 годзе яна пачала весці свой псіхалагічны трэнінг «Курс Цудаў», які называе заснаваным «на ўсеагульных духоўных тэматыках», «праграмай саманавучання і самапазнання». З часам на яго аснове яна пачала пісаць кнігі. Пра сямейнае жыццё Уільямсан вядома мала. Хіба толькі тое, што яна мае дачку.

Адначасова Уільямсан наблізілася да дэмакратаў, што не дзіўна, улічваючы яе біяграфію. Яшчэ ва ўзросце 10 гадоў яна пратэставала супраць вайны ў В'етнаме. На пачатку 1980-х, калі краіну ахапіла істэрыка наконт СНІДу, яна на сваіх сустрэчах заклікала дапамагаць ахвярам эпідэміі, што ў выніку наблізіла яе да арганізацый, афіляваных з дэмакратамі. З часам яны таксама стала сябрам Дэмпартыі, займаючы там дастаткова радыкальныя пазіцыі.

**У прынцыпе, дэфіцыту фрыкаў на амерыканскіх выбарах ніколі не было. Аднак стаўленне да блазнаў цалкам змянілася пасля трыумфу Дональда Трампа ў 2016 годзе**

Прафесія гуру — не адзіная фішка кандыдаткі на галоўную пасаду ЗША. Уільямсан часам называюць «левай версіяй Трампа». Маюцца на ўвазе асаблівасці светапогляду Уільямсан. Яе заявы настолькі ідэалістычныя, што падчас знаёмства з імі на думку адразу прыходзіць персанаж славутага твору «Ідыёт» Дастаеўскага. Дарэчы, Марыяна і сама пагаджаецца, што, напэўна, шмат людзей трымаюць яе за вар'ятку.

Напрыклад, Уільямсан упэўненая, што ў Злучаных Штатах можа быць бясплатная адукацыя, праблемы крыміналу можна вырашыць яшчэ ў школах за кошт працы педагогаў і псіхолагаў з прадстаўнікамі групаў рызыкі, банкіры павінны адказваць перад укладчыкамі, усім жадаючым можна даваць амерыканскія пашпарты, замест Мінабароны варта стварыць Міністэрства міру, прызнаць суверэнітэт індзейцаў і гэтак далей. Прычым прамаўляе яна гэтак жа перакануча, як Трамп, калі абяцае, што Мексіка будзе плаціць за трафік нелегальных мігрантаў у Злучаныя Штаты.

Самае цікавае, што яе фантазіі вельмі падабаюцца шматлікім дэмакратам, — гэта, дарэчы, адзначыў Google. Пасля другога тура дэбатаў у кандыдаты ад дэмакратаў амерыканцы часцей за ўсё «гуглілі» прозвішча Уільямсан. На думку часткі дэмакратаў, Трамп — гэта феномен, перамагчы якога не здольны звычайны палітык з традыцыйным інструментарам. Зрынуць Трампа, мяркуюць, мае шанец асоба не менш фенаменальная — напрыклад, такая, як Уільямсан. Не трэба таксама забывацца, што прэтэндэнтка на кандыдацтва з'яўляецца асабістым гуру шматлікіх прадстаўнікоў багемы, якія маюць уплыў на кіраўніцтва партыі.

Больш таго, за «кандыдатку з Месяца» (так часам жартоўна называе прэса Уільямсан) гатовыя галасаваць і шмат электарату рэспубліканцаў. Сакрэт у тым, што стыль прамоваў кандыдаткі нагадвае стыль пратэстанцкіх святароў. Раней пратэстанты сімпатызавалі рэспубліканцам, аднак антыгуманістычныя выхадкі Трампа адносна тых жа дзяцей мігрантаў прымусілі вернікаў сумнявацца ў сваім выбары. Уільямсан з яе інфантыльнымі, аднак шчырымі заклікамі, у чымсьці нагадвае біблейскіх прапаведнікаў.

У прынцыпе, дэфіцыту фрыкаў на амерыканскіх выбарах ніколі не было. Можна ўзгадаць таго ж панка Джэла Біяфру, які балатаваўся ў прэзідэнты ў 2002-м, абяцаючы ў выпадку перамогі прымусіць усіх прадпрымальнікаў насіць касцюмы клоунаў. А паліцэйскіх — увесь час балатавацца ў дэпутаты, каб яны не перашкаджалі людзям жыць. Натуральна, гэта ўспрымалася грамадствам як творчая правакацыя. Аднак стаўленне да блазнаў цалкам змянілася пасля трыумфу Трампа ў 2016 годзе. Таму ў выпадку з Уільямсан можна чакаць любых паваротаў сюжэту.

Дарэчы, яе феномен гуру-кандыдата, напэўна, ужо прымусіў напружыцца Крэмль. Нягледзячы на сваё «рускае» паходжанне, Уільямсан выступае жорсткім крытыкам Пуціна — аж да таго, што параўнала ўмяшанне ў выбары ў ЗША ў 2016 годзе з атакай японцаў на Пёрл-Харбар у 1941-м.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### Саламэ Зурабішвілі



Прэзідэнтка Грузіі заклікала ЕС да нестандартных крокаў наконт прыёму новых краін — чальцоў супольнасці.

Паводле традыцыйнай працэдуры, краіна ў статусе кандыдата ў ЕС праводзіць з чальцамі Еўрасаюза перамовы (яны, як правіла, доўжацца не адзін год) па ўзгадненні ўнутраных палітычных, эканамічных і сацыяльных установак з адзінай еўрапейскай практыкай. Аднак сёння еўрапейцы не ў захапленні ад ідэі пашырэння ЕС. Садружнасць поўная ўнутраных праблемаў, сярод якіх — адаптацыя новых чальцоў: Балгарыі, Румыніі ды Харватыі. У такой сітуацыі Зурабішвілі прапануе пачаць перамовы аб уступленні ў ЕС без фармальнага надання Грузіі статусу кандыдата.

На першым этапе прапануецца абмеркаваць некаторыя з 30 раздзелаў, адпаведнасць якім дазваляе прэтэндаваць на статус кандыдата. А найперш, тыя пытанні, па якіх у Грузіі менш за ўсё супярэчнасцяў з заканадаўствам ЕС: адукацыя, транспарт, некаторыя сектары эканомікі.

Пакуль не зразумела, ці пагодзіцца Брусель на такое парушэнне рэгламенту. Відавочна, што ў гэтым выпадку Кіеў або Кішынёў таксама могуць запатрабаваць распачаць перамовы аб уступленні. Зрэшты, пакуль у Брусэлі асаблівай цікавасці да ідэі Тбілісі не выказалі. На сёння, мабыць, толькі ў краінах Балтыі каментуюць прапановы Зурабішвілі. Між тым, грузінская прэзідэнтка дала ясна зразумець, што словаў пра маральную падтрымку праеўрапейскіх настрояў у Грузіі цяпер ужо відавочна недастаткова.

### Сегален Руаяль



Французскі палітык, былая кандыдатка на пасаду прэзідэнта краіны ад партыі сацыялістаў у 2007 годзе, заявіла пра намер зноў паспрабаваць сябе ў якасці прэтэндэнта на выбарах 2022-га.

Навіна выклікала інтарэс, паколькі французы яшчэ памятаюць надзвычай гарачыя выбарчыя баталіі 2007-га, калі мадам Руаяль у выніку прайграла Нікаля Сарказі з разрывам толькі ў пару працэнтаў. Тым больш, быў незразумелы хуткі адыход Руаяль на другія пазіцыі ў партыі. Дзякуючы ў тым ліку гэтаму яе былы муж Франсуа Аланд стаў прэзідэнтам. І вось Сегален Руаяль вяртаецца.

Праўда, гэтым разам місія будзе больш цяжкай, чым у 2007-м. Сацыялісты як адзіная партыя больш не існуюць, а партыйныя рэшткі наўрад ці здольныя рабіць каардынаваныя акцыі нацыянальнага ўзроўню. Акрамя таго, праграмныя пункты Руаяль шмат у чым нагадваюць праграму Макрона. Таму ёсць версія, што яна будзе весці сваю кампанію пад лозунгамі феміністак, абяцаючы разбурыць мужчынскую манаполію на пасаду кіраўніка дзяржавы.

Застаецца дадаць, што з атачэння Франсуа Аланда стала вядома пра яго намер узяць рэванш у Макрона за ганебны правал у 2017 годзе. Таксама ў кулуарах не выключаюць вяртання ў палітыку Нікаля Сарказі.

### Ігар Дадон



Прэзідэнт Малдовы, лідар партыі сацыялістаў, у віншаванні да Дня незалежнасці Украіны 24 жніўня заявіў пра падтрымку тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны ў міжнародна прызнаных межах.

«Хачу падкрэсліць, што Рэспубліка Малдова заўсёды падтрымлівала, падтрымлівае і ў далейшым будзе падтрымліваць тэрытарыяльную цэласнасць Украіны ў яе міжнародна прызнаных межах», — напісаў Дадон. Між тым, у час сваёй перадвыбарчай прэзідэнцкай кампаніі Дадон заўжды заяўляў пра тое, што Крым належыць Расіі. Нібыта менавіта гэтыя словы сталі прычынай таго, што Пётр Парашэнка адмаўляўся ад сустрэч з малдоўскім калегам, патрабуючы спачатку прызнаць расійскую агрэсію супраць Украіны, у тым ліку незаконную анексію Крыма.

Зрэшты, нельга забывацца, што Парашэнка на той час цесна супрацоўнічаў з малдоўскім алігархам Уладам Плахатнюком, які, у сваю чаргу, сварыўся з Дадонам. І толькі калі Парашэнка сышоў, Дадон раптам вырашыў прызнаць свае геапалітычныя памылкі.

Адно пытанне — навошта? Падтрымка тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны дала карт-бланш яго праціўнікам у Расіі, якія пачалі флэшмоб «Чый Дадон?». З іншага боку, нельга выключаць, што гарант Малдовы працуе ў тандэме з Пуціным, каб стварыць для Крамля яшчэ адзін канал выхаду на новую ўкраінскую адміністрацыю.

# За крок да вайны



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Баявыя дзеянні паміж Польшчай і Савецкім Саюзам маглі распачацца за дзесяць гадоў да Другой сусветнай вайны.**

## Узняць паўстанне

Увосень 1928 — лета 1929 года ў Варшаву ад польскіх выведнікаў з тэрыторыі Віленскага і Навагрудскага ваяводстваў накіроўваліся справаздачы, у якіх адзначалася, што насельніцтва Валожынскага павета і іншых памежных з БССР тэрыторый актыўна абмяркоўвае «хуткую» вайну Савецкага Саюза супраць Польшчы.

У красавіку 1929 года ў адной са справаздач выведкі Корпуса аховы памежжа (КАП) падкрэслівалася: «Ян Белы, які жыве ў вёсцы Сукліна, Пліскай гміны, хадзіў у снежні 1928 года ў савецкую Расію. Пасля вяртання ён сабраў давераных людзей і паінфармаваў іх, што савецкая Расія жадае, каб беларусы, што жывуць у Польшчы, паднялі ўвесну паўстанне з мэтай далучыць Заходнюю Беларусь да Расіі. Зброя была б дастаўлена з Расіі». Акрамя гэтага ў дакуменце пазначалася, што «затрыманыя 5 снежня 1928 года дэзерціры з 3-га сапёрнага палка (Войска Польскага) Аляксандр Кураш і Мікалай Апанасевіч на допыце прызналіся, што прадстаўнікі савецкай улады загадалі ім не вяртацца ў полк, а схавацца і вясной рыхтаваць дыверсійныя акты».

У чэрвені 1929 года кіраўніцтва Навагрудскага ваяводства накіравала камандаванню 2-й брыгады КАП у Баранавічах ліст, у якім у прыватнасці адзначалася: «З пачатку бягучага года на нашым памежжы можна заўважыць спробы падрыхтоўкі бальшавікамі нейкіх дзеянняў. Пасля выяўлення на Нясвіжскім участку шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі Яна Берташа бальшавіцкія мэты сталі зразумелыя. У апошні час варожыя дзеянні на нашай тэрыторыі пачалі ўзмацняцца». У канцы ліста кіраўніцтва Навагрудскага ваяводства прапанавала польскім памежнікам і вайскоўцам сустрэцца на адмысловай канферэнцыі, абмеркаваць сітуацыю і пачаць выпрацоўваць шляхі вырашэння праблемы.

У гэты час польскія газеты стракацелі загалоўкамі ў стылі «Ліквідацыя шпіёнскай шайкі», «Крывавы напад злодзеяў», «Банда на Віленшчыне трымае мясцовых жыхароў у страху» і гэтак далей. У большасці з гэтых публікацый гутарка ішла пра злодзеяў, так ці інакш звязаных з бальшавікамі. Варта адзначыць, што пасля згортвання так званай «актыўнай выведкі» на тэрыторыі Заходняй Беларусі бальшавікі перайшлі да іншай тактыкі вядзення шпіёнскай вайны супраць Другой Рэчы Паспалітай. Праз «рыжскую мяжу» перакідваліся рэзідэнты, якія павінны былі стварыць шпіёнскую сетку. Актыўна выкарыстоўваліся перабежчыкі з польскага боку, якіх, пасля апрацоўкі ў АДПУ, «вярталі» ў Польшчу. За іх працу плацілі амерыканскімі доларамі. Пры гэтым стаўкі ваганіся ад 15 да 200 долараў. Дарэчы, грошы выплачваліся дробнымі манетамі, каб стваралася ўражанне, што сума вялікая.

У адной з польскіх справаздач адзначалася, што «ў задачу савецкага агента ўваходзіла назіранне за будынкам Камендатуры польскай Дзяржаўнай паліцыі ў Ракаве і пазначэнне ўсіх, хто туды ўваходзіў». Іншы рэзідэнт павінен быў праводзіць назіранне за будынкам, дзе знаходзіліся памежнікі КАП. У абодвух выпадках шпіёны атрымлівалі па 15 амерыканскіх долараў.

У красавіку 1929 года выведнікам КАП у Баранавічах стала вядома, што сярод жыхароў Стоўбцаў, а таксама ваколіц, распаўсюджваліся чуткі, нібыта бальшавікі рыхтуюць напад на памежнае мястэчка. Паводле тых, хто распаўсюджваў гэтую інфармацыю, у Мінск прыехала вялікая колькасць савецкіх дыверсантаў, якія раней дзейнічалі на тэрыторыі Кітая. Пазней гэтых людзей пачалі перакідваць на тэрыторыю Польшчы. У іх задачу ўваходзіла падтрымка ўзброенага выступлення мясцовых жыхароў з ліку беларусаў і ўкраінцаў з мэтай «выклікаць» дыскусію ў Лізе Нацый аб цяжкай сітуацыі нацыянальных меншасцяў на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай. Польскай памежнай выведцы таксама стала вядома, што ў вёсцы Пагарэлае гміны Свержань распаўсюджвалася інфармацыя, што савецкі ўрад збіраецца раздаваць зямлю былых асаднікаў і памешчыкаў, а таксама надзелы, якія належалі царкве і касцёлу тым беларусам (польскім грамадзянам), якія падтрымаюць дзеянні ўраду СССР і выступяць супраць Польшчы.

## Узмацніць лінію «нямецкіх акопаў»

Сітуацыя на тэрыторыі паўночна-ўсходніх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай у гэты час сапраўды была вельмі не стабільнай. У 1927 годзе польскія ўлады забаранілі дзейнасць Беларускай сялянска-работніцкай грамады — адной з найбольш масавых грамадска-палітычных арганізацый на тэрыторыі Заходняй Беларусі. «Грамада» змагалася за захаванне нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў у Польшчы. Замест таго, каб выпрацаваць стратэгію паляпшэння стасункаў з беларусамі, Варшава вырашыла жорстка спыніць дзейнасць гэтай арганізацыі. Гэтая памылка паўплывала на жыхароў Заходняй Беларусі, якія сталі часцей з надзеяй пазіраць на Усход.

Такія справы прымусілі польскае вайсковае камандаванне рыхтаваць свае гарнізоны на тэрыторыі паўночна-ўсходніх ваяводстваў на выпадак вайны з СССР. У гэтым сэнсе ключавую ролю на тэрыторыі Заходняй Беларусі адыгрывала 20-я «беларуская» дывізія Войска Польскага. Летам 1927 года супрацоўнікі Генеральнага інспектарата польскіх узброеных сіл правялі вывучэнне тэрыторыі, на якой, у выпадку савецкага ўварвання, прыйшлося б змагацца падраздзяленням дывізіі. Польскія афіцэры наведалі Слонім, Мір, Баранавічы, Івянец, Нясвіж, Навагрудак, Карэлічы і дзясяткі іншых населеных пунктаў.



Савецкія памежнікі



Польскія пяхотнікі на манеўрах, 1930-я гады



Польскі прэзідэнт Масціцкі разглядае беларускі лён

Сыходзячы са справаздачы, якую пакінулі яны, вялікую ўвагу польскія штабісты надавалі стану ўмацаванняў былой «лініі нямецкіх акопаў» (кайзераўскіх доўгатэрміновых умацаванняў часоў Першай сусветнай вайны) у раёне Сталовічы — Крошын — Дарава — Ляхавічы і далей. У выніку афіцэры Войска Польскага вызначылі, што ў выпадку вайны супраць СССР польская 20-я дывізія пяхоты і 9-я самастойная кавалерыйская брыгада будуць абараняць два ўчасткі: «Баранавічы» — галоўныя лініі камунікацый, пераправы праз Шчару і раён Слоніма; «Навагрудак» — ад мяжы з СССР да Налібоцкай пушчы, Ліды, Зэльвы. У выпадку першага з іх важную ролю адыгрываў раён Слуцкай шашы. Пры гэтым галоўную ролю адыгрывала дарога Клецк — Сіняўка — Мядзведзіца — Ляхавічы — Дарава. На мяжы вялікую ролю адыгрывалі дарогі на мястэчка Лань і Нясвіж, а таксама тракт Нясвіж — Сноў — Сталовічы, і далей на Баранавічы ці на Новую Мыш.

Польскія вайскоўцы таксама адзначалі, што ў раёне ракі Шчара «нямецкія акопы» прыйшлі ў заняпад, аднак у раёне мясцовасці Вонкі шэраг нямецкіх кулямётных ДАКаў усё яшчэ можна выкарыстоўваць. Асаблівую ўвагу палякі надавалі ўмацаванням у раёне Арабаўшчына — Торчыцы — Судары. Варта адзначыць, што ў пачатку 1930-х менавіта тут польскія вайсковыя інжынеры правялі мадэрнізацыю старых нямецкіх і будаўніцтва новых польскіх бункераў. У сваю чаргу, участак «Навагрудак» дзяліўся рэкамі Нёман і Сэрвач на дзве часткі. Вялікую ўвагу надавалі абароне чыгуначнага вузла Стоўбцы, а таксама Налібоцкай пушчы.

## «Чырвоныя» наносяць удар

Вясной 1928 года камандаванне польскага Корпуса аховы памежжа, улічваючы знешнія і ўнутраныя фактары, вырашыла правесці камандна-штабную гульню на картах, падчас якой вызначаўся найбольш верагодны сцэнар ваенных дзеянняў у выпадку нападу СССР на Другую Рэч Паспалітую. Раён, які разглядаўся, уключаў у сябе ўчасткі Нарач — Докшыцы і Койданаў — Дзеляцічы. «Сіні» (польскі) бок прымаў за аснову актуальную дыслакацыю польскіх войскаў. Пры гэтым штаб знаходзіўся ў Маладзечне. Галоўнай мэтай вучэнняў быў разгляд выкарыстання сіл КАП у выпадку савецкага нападу без падтрымкі з боку рэгулярных войскаў. Кіравау вучэннямі камандуючы КАП генерал Генрых Мінкевіч.

З польскага боку былі наступныя сілы: 4 батальёны КАП, 3 кавалерыйскія эскадроны, 2 артылерыйскія ўзводы і невялікае падраздзяленне паліцыі. Ім супрацьстаялі 3 савецкія памежныя батальёны, 4 батальёны РСЧА, 3 палкі кавалерыі і 1 артылерыйскі дывізіён. Паводле плана, «чырвоны» бок нанёс удар з раёнаў Плешчаніц, Заслаўя, Койданава. Першы з іх ішоў у бок Вілейкі, цэнтральны (галоўны) — у бок Маладзечна, трэці — на Валожын і Налібоцкую пушчу. Пасля памежных баёў польскі бок пачаў канцэнтрацыю тылавых адзінак у раёне Краснае — Валожын. Савецкія войскі «ўвайшлі» на польскую тэрыторыю і пачалі прасоўвацца ўнутр яе, абыходзячы польскія вузлы абароны на мяжы.

У першай палове дня «чырвоныя» занялі лінію Івянец — прадмесце Краснага, а полк савецкай кавалерыі ўвайшоў у Вілейку. Адбылося, па сутнасці, тое, што будзе мець месца праз 10 гадоў, у верасні 1939-га. Праўда, у 1929 годзе з савецкага боку не наступалі сотні танкаў і не было моцнай авіяцыйнай падтрымкі.

Кіраўнік вучэннямі адзначыў неэфектыўнае выкарыстанне польскай кавалерыі, а таксама адсутнасць вызначаных абарончых пазіцый у тыле. Польскія афіцэры пачыналі выбіраць пазіцыі для адыходу толькі тады, калі польскія падраздзяленні ўжо адыходзілі на захад пад ударамі «чырвоных». Дарэчы, і «бальшавіцкая кавалерыя» зрабіла памылкі. Замест таго, каб наступаць на Маладзечна, яна ўступіла ў бой супраць «сініх» за Вілейку. Акрамя гэтага былі праблемы і з польскай выведкай, якая не паспявала сачыць за рухамі сіл уварвання.

Вынікі вучэнняў для польскага боку былі далёкімі ад пазітыўных. Некалькі дзён «баёў» прывялі да страты тэрыторыі і да неабходнасці маштабнага адступлення польскіх частак. У сувязі з гэтым у Варшаве задумаліся наконт стварэння другой лініі абароны. Пазней ёй сталі новыя і мадэрнізаваныя ДАКі пад Баранавічамі. У пачатку 1930-х гадоў і савецкі бок адмовіўся ад актыўнага правакавання суседа на Захадзе. У канцы 1920 — пачатку 1930-х гадоў на лініі мяжы з Польшчай у БССР пачалі ўзводзіць лінію доўгатэрміновых агнявых кропак, якія, у выпадку агрэсіі з Захаду, павінны былі стрымаць першы ўдар.

Праз 10 гадоў пасля падзей, пра якія ідзе гаворка ў артыкуле, польскім вайскоўцам і савецкім дыверсантам прыйшлося на практыцы выкарыстаць тэарэтычныя веды, якія тыя назапашвалі ў міжваенны час.

**Фота з уласнага архіву аўтара**




# Ракаўскі фэст: узгадалі Пясецкага, адарваліся пад Вольскага

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**У чацвёрты раз у 30 кіламетрах ад Мінску 25 жніўня прайшоў Ракаўскі фэст.**

Ракаў — полікультурнае мястэчка. Здаўна тут цесна пераплецены культуры розных народаў, якія на працягу многіх стагоддзяў мірна і плённа разам працавалі і адпачывалі. Асаблівага росквіту Ракаў дасягнуў у 30-я гады мінулага стагоддзя, калі апынуўся на памежжы Польшчы з СССР, і нават атрымаў неафіцыйны статус «сталіцы кантрабандыстаў».

Наведвальнікаў у Ракаў сёлета прыехала багата. Цягам дня іх забаўлялі выступы мясцовых калектываў, працаваў кірмаш рамеснікаў, было шмат вулічнай ежы і дзіцячых атракцыёнаў. Міліцыя на свяце паводзіла сябе прыязна. Магчыма, таму, што продаж алкаголю быў забаронены, канфліктных сітуацый з удзелам нецвярозых грамадзян не ўзнікала. Людзі прыязджалі цэлымі сем'ямі, шмат хто адмыслова завітаў на свята з Мінску. Багата было беларускамоўных.

Да фэсту, арганізаванага Ракаўскім сельвыканкамам і Пасольствам Польшчы, прымеркавалі адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў гонар рамана Сяргея Пясецкага «Каханак Вялікай Мядзведзіцы». Яе можна ўбачыць на камяні, які стаіць на пляцоўцы ля крыніцы, што на ўездзе ў горад з боку Мінску. Апроч таго можна было паўдзельнічаць у квэсце «Сцежкамі кантрабандыстаў».

Сярод іншага на Ракаўскім фэсце адбыўся шэраг выстаў, прэзентацый, дэгустацый — было разнастайна і па-мястэчковаму душэўна ды спакойна.

Драйву вечару дадаў выступ хэдлайнераў — польскага гурта «TEKLA KLEBETNICA». Хоць калектыў выйшаў на сцэну са спазненнем, але людзі і не думалі разыходзіцца. Больш за тое — дамагліся выканання яшчэ адной кампазіцыі на біс.

Кульмінацыяй свята стаў выступ гурта «VOLSKI». Хоць сэт каманды значна скарацілі і падчас яго запусцілі ў неба феерверк, калі гурт сышоў са сцэны пасля «Трох чарапах», людзі сталі скандаваць «Вольскі!», выгукі паступова перайшлі ў «Жыве Беларусь!». Каб пазбегнуць стыхійнага мітынгу, арганізатары саступілі — і са сцэны прагучала апошняя кампазіцыя «Простыя словы».

**Фота аўтара**

# «Мой старадаўні родны Слонім»

## Да свята беларускага пісьменства

**Па гарызанталі:** 1. Каўказскі паэт-пясняр. 6. Анатоль … (сапраўднае імя — Іван Міско). Паэт, ураджэнец Слонімшчыны. Яго імя носіць літаратурнае аб'яднанне, створанае пры раённай газеце «Слонімскі веснік». 9. Назва адной са славутасцяў Слоніма — сядзіба-паркавага комплексу з сажалкамі. 11. «Ты наталяла смяглы … // І выкрасала ўдар грамовы, // Каб сам сабою стаў народ, // Пачуўшы гукі роднай мовы». З верша Рыгора Барадуліна «Роднаму слову». 12. «… над Шчарай». Літаратурны альманах слонімскіх літаратараў, які быў выдадзены ў 1994 годзе. 13. Мужчынскае імя. 17. Каробка, у якую змяшчаецца магнітная стужка. 18. Паўднёвае вечназялёнае дрэва. 20. Інтанацыя мовы, тон (пераноснае). 21. У казках, паданнях — пярэварацень. 23. Металічная рашотка на дзвярах. 25. «Кожнае … і хата // Роднаю мовай багаты». З верша слонімскага паэта, краязнаўца, гісторыка, журналіста Сяргея Чыгрына «Мова». 28. «І сэрцам палюбіў я гэты … — // Цябе, мой старадаўні родны Слонім». З верша «У зелені — бель каменіц, касцёлаў» пісьменніка, літаратуразнаўца, прафесара, доктара філалагічных навук, ураджэнца Слоніма Алега Лойкі. 29. Памяшканне для работы мастака, скульптара. 31. Невялікі марскі заліў. 32. Старажытныя пісьмёны скандынаваў.

**Па вертыкалі:** 1. Міхал Казімір … Прозвішча дзеяча ВКЛ, паэта, кампазітара, мецэната, слонімскага старасты, пры якім у горадзе існавала друкарня, працаваў тэатр, балетная і музычная школа, а Слонім сучаснікі называлі Палескімі Афінамі. 2. Выклічнік, які выражае здзіўленне, здагадку. 3. Група фурманак. 4. «Без крывінкі матчынае слова: // Кнігаўку чужы дзярэ …». З верша Віктара Гардзея «Матчына слова». 5. Прымус над перакананнямі. 7. Упэўненасць у чым-небудзь. 8. Жыгімонт … Мянушка Вялікага князя ВКЛ і караля Польшчы, які ў 1531 годзе дараваў Слоніму Магдэбургскае права. 10. Стрэсенае сена з саломай або мова, на якой размаўляе большасць насельніцтва Беларусі. 14. «"Чорны воран", чорны кляты, // Пад'язджаў пад …». З верша Алега Лойкі «Курапаты». 15. «У … прыходзяць ашмянцы — на плечах — доўгія дзіды, // З шаблямі слонімцы валяць і меткія лучнікі з Ліды». З паэмы Адама Міцкевіча «Мешка, князь Навагрудка». 16. «Як ты дорага мне, мая родная мова! // Мілагучнае, звонкае, спеўнае …!». З верша Ніла Гілевіча «Родная мова». 19. «… на памяць». Зборнік вершаў слонімскага паэта Сяргея Дарожнага, які загінуў у сталінскіх лагерах. 22. «Мова мая, народу … нятленны, // Мова мая, уваскросні і жыві». З верша Ларысы Геніюш «Мова мая». 24. «Наш першы … за Слонім буў, // Што гэты горад ёсць на свеце». З верша Сяргея Чыгрына «За Слонім і Айчыну». 25. Трэці … — бяры рукавіцы ў запас (прыказка). Трэці, хлебны ці арэхавы … адзначалі 29 жніўня. 26. «Кажуць, мова мая аджывае // Век свой ціхі: ёй зікнуць пара. // Для мяне яна вечна жывая, // Як …, як сляза, як зара». З верша Пімена Панчанкі «Родная мова». 27. Грэх — у …, а ядро — у рот (прыказка). 30. Круты бераг.




**Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Брэстчына літаратурная» (НЧ №28 ад 23 ліпеня):**

**Па гарызанталі:** 1. Радзівіл. 4. Калеснік. 8. Сцяг. 9. Мова. 10. Высяванне. 15. Арол. 16. Кніжка. 17. Юльян. 19. Опера. 20. Ласун. 23. Бегін. 24. Ягайла. 26. Душа. 29. Класіцызм. 32. Лета. 33. Зубр. 34. Папараць. 35. Дастоева.

**Па вертыкалі:** 1. Рысунак. 2. Дзяк. 3. Вочы. 5. Лютня. 6. Неон. 7. Краншнэп. 11. Сын. 12. Вуж. 13. Славеснік. 14. Аляксандр. 15. Купала. 18. Быліна. 21. Губашлёп. 22. Гаворка. 25. Афіша. 27. Эліза. 28. Стэп. 30. Знос. 31. Пуке.

# БагатаДата

**Чым знакаміты Жан Жылібер? Ці ўсё вы ведаеце пра Івана Пуліхава? Адказы на гэтыя ды іншыя пытанні ў нашым аглядзе.**

### 31 жніўня

**1894.** У вёсцы Грыгор'еўка, што ў Башкартастане, нарадзіўся беларускі і расійскі скульптар Аляксандр Грубэ. У другой палове 1920-х гадоў быў адным з арганізатараў і старшынёй Усебеларускага аб'яднання мастакоў, а ў 1940-х — старшынёй Саюза мастакоў БССР.

### 1 верасня

**1969.** Створаны вакальна-інструментальны ансамбль «Песняры». Спачатку музыкі на чале з Уладзімірам Мулявіным былі «Лявонамі», а «Песнярамі» назваліся часова — для ўдзелу ў 1970 годзе ў эстрадным конкурсе ў Маскве. Там прыйшла слава на ўвесь былы СССР — і назва засталася. А праз год выйшла дэбютная кружэлка накладам 4 мільёны асобнікаў. Яшчэ праз некалькі гадоў былі гастролі ў ЗША і яшчэ большыя грамзапісныя наклады. Пасля расколу напрыканцы 1990-х гадоў «Песняры» кланаваліся на шэраг гуртоў.

### 2 верасня

**1814.** Не стала французскага медыка і біёлага Жана Эмануэля Жылібера, стваральніка і




кіраўніка Гродзенскай медыцынскай акадэміі. Таксама ў Гродне ён заснаваў батанічны сад, акушэрскую і ветэрынарную школы. У гонар Жылібера названы галоўны гарадскі парк, што размешчаны на месцы сада, які той заклаў. На ўваходзе ў парк стаіць скульптура вучонага.

### 3 верасня

**1894.** У Жыровічах (Слонімскі раён Гродзеншчыны) нарадзіўся грамадскі актывіст пачатку мінулага стагоддзя Уладзімір Хлябцэвіч. Праз Першую сусветную вайну яго сям'я мусіла ўцякаць з вёскі Кленікі Бельскага павету на Беласточчыне, дзе бацька Уладзіміра Іван Хлябцэвіч, гісторык і педагог, служыў святаром, і апынулася ў расійскай Сызрані. У гэты час Хлябцэвіч вучыўся ва ўніверсітэце ў Санкт-Пецярбургу, быў актыўным удзельнікам грамадска-літаратурнага руху, у Сызрані бываў толькі на вакацыях. У 1917-м грымнула Лютаўская рэвалюцыя, у якой Хлябцэвіч браў актыўны ўдзел. Беларус быў застрэлены. Пахаваны ў Сызрані, адна з вуліц гэтага горада носіць яго імя.

### 4 верасня

**1859.** У фальварку Судзіловічы (цяпер гэта вёска Будзькаўшчына Полацкага раёна на Віцебшчыне) нарадзіўся мовазнаўца, літаратуразнаўца, фалькларыст, выдавец Браніслаў Эпімах-Шыпіла. Ён быў стваральнікам першай беларускай легальнай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» ў Санкт-Пецярбургу. Менавіта Эпімах-Шыпіла падрыхтаваў да друку першы зборнік вершаў Янкі Купалы «Жалейка» і апекаваўся паэтам. У прыватнасці, дапамагаў яму з адукацыйнымі курсамі і даваў жытло (Купала папросту некалькі гадоў жыў у навукоўца). У 1930-я гады рэпрэсіі кранулі і Браніслава Эпімах-Шыпілу: яму загадалі з'ехаць з Мінска ў Ленінград, дзе ён і памёр.

### 5 верасня

**1879.** У Мінску нарадзіўся Іван Пуліхаў, сацыяліст-рэвалюцыянер, імем якога названая вуліца ў сталіцы. Выканаўца няўдалага замаху на мінскага губернатара Курлова ў 1906 годзе (бомба не выбухнула). Павешаны і таемна пахаваны на ўскрайку Старажоўскіх могілак. Пра месца пахавання праз нейкі час распавёў вартаўнік могілак, і палітвязні ўшанавалі памяць Пуліхава ўсталяваннем каменя на яго магіле. Пасля зносу Старажоўскіх могілак у 1954 годзе Пуліхава перапахавалі на Вайсковых.

**1944.** У сяле Борскае Самарскай вобласці Расіі нарадзіўся беларускі акцёр Аляксандр Дзянісаў, які набыў вялізную папулярнасць пасля ролі Гамаюна ў фільме «Дзяржаўная граніца». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР за ролю Дугіна ў спектаклі «Радавыя» ў Купалаўскім тэатры.

**1964.** У Баранавічах нарадзіўся беларуска-ўкраінскі кінарэжысёр Сяргей Лазніца. Апошнія яго вядомыя фільмы: «У тумане», «Данбас».

### 6 верасня

**1934.** У вёсцы Багушэвічы Бярэзінскага раёна нарадзіўся народны артыст Беларусі, акцёр тэатра (Купалаўскага) і кіно Валянцін Белахвосцік. Бацька актрысы Зоі Белахвосцік, зяць акцёра Глеба Глебава.

**1954.** У Мінску адкрыўся Беларускі аграрны тэхнічны ўніверсітэт. Тады ён называўся інакш — Беларускі інстытут механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі.

**1954.** У гэты дзень памёр вядомы беларускі хірург, ураджэнец Заслаўя Уладзімір Марзон. Працаваў галоўным лекарам клінікі лячэбна-санітарнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя БССР і дырэктарам Беларускага інстытуту ўдасканалення лекараў.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1384

Падпісана да друку 30.08.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.